# ЗЬМЕСТ

Стар

## Да дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі



## На фронце культурнай рэволюцыі



## У дапамогу настаўніку



## У Заходняй Беларусі



## Ставім на абгаварэньне



## Наш вопыт



## У дапамогу дзіцячай пляцоўцы



## Хроніка.

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ



# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 6 ЧЭРВЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# Да дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР

А. Якшэвіч

## Дзесяць год культурнага будаўніцтва

Праца па культурнаму будаўніцтву ў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы фактычна пачалася з дня вызваленьня яе ад польскай окупацыі у 1920 годзе. Тое, што было зроблена за кароткі час існаваньня савецкай улады на Беларусі пасьля імпэрыялістычнай вайны і нямецкай окупацыі, было ўшчэнт зруйнавана новымі окупантамі.

На працягу ўсяе свае гісторыі Беларусь была арэнай змаганьня двух імпэрыялізмаў. Як польскія абшарнікі, гэтак і расійскі царызм глядзелі на яе, як на сваю колёнію: адны як крэсы Рэчы Посполітай, другія — як „исконную вотчину" рускіх монархаў, імкнучыся падпарадкаваць яе свайму ўплыву. Нацыянальны ўціск, русіфікацыя, з аднаго боку, і полёнізацыя, з другога, былі галоўнай мэтай гэтых двух лягераў. Усё гэта прывяло да страшэннага гаспадарча-культурнага заняпаду краю. Гаварыць аб якім-небудзь культурным росьце ў часы царскага самаўладзтва зусім ня прыходзілася: нават пачатковай беларускай школы на Беларусі ў тыя часы ня было. Тыя школы, якія існавалі тады, былі гнёздамі русіфікацыі насельніцтва. Ня культурны ўздым працоўных мас, а іх соцыяльна-нацыянальнае прыгнечаньне былі мэтай гэтых, з дазваленьня сказаць, навучальных устаноў. Але-ж і тое, што было, да рэшты загінула ў полымі сусьветнай імпэрыялістычнай вайны і окупацыі.

У выніку ўсяго гэтага савецкая ўлада атрымала ў спадчыну страшэнную цемру шырокага працоўнага насельніцтва: няпісьменнасьць насельніцтва дасягала 75 проц. Апрача таго, усё тое, што мелася, было клясава-буржуазнай культурай, накіраванай на ўзмацненьне эксплёатацыі працоўных, на іх нацыянальнае прыгнечаньне, на выхаваньне пакорлівасьці перад начальствам, на вытручваньне клясавай і нацыянальнай сьвядомасьці працоўных. Савецкай уладзе прышлося пачынаць з першае цагліны— будаваць сапраўды пролетарскую культуру.

У 1920 годзе, прагнаўшы сваіх клясавых ворагаў, пролетарыят разам з усімі працоўнымі масамі Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі і пры братэрскай дапамозе ўсяго Саюзу, узяўся за будаўніцтва свайго гаспадарчага і культурнага жыцьця. Дзесяць год напружанай творчай працы далі нячуваныя вынікі як у галіне гаспадарчага, гэтак і культурнага росту нашай рэспублікі.

Бязумоўна, першую і галоўную ўвагу савецкая ўлада павінна была зьвярнуць на масавую асьвету.

Калі да рэволюцыі сеткай пачатковых русіфікатарскіх школ было ахоплена дзяцей школьнага ўзросту ад 8 да 11 год усяго толькі 43 проц., то зараз, на дзесятым годзе працы, мы маем магчымасьць ўвесьці ўсеагульнае абавязковае навучаньне дзяцей гэтага ўзросту па БССР у аб'ёме 4-гадовай школы ў 1930-31 навучальным годзе. Усеагульнае абавязковае навучаньне з гэтага-ж году пашыраецца і на 5-ю групу сямігадовай школы ў горадзе і часткова на вёсцы. Рост ахопу дзяцей школьнага ўзросту сеткай чатырохгадовай працоўнай школы відаць з наступных лічбаў.

У 1924-25 г. процант ахопу дзяцей дасягаў 63,2, у 1925-26 г.—66,2, у 1926-27 г.—71,6, у 1927-28 г.—72 проц. Зараз мы

маем такое становiшча, што ў большасьцi раёнаў процант гэты дасягае амаль 100.

Гэты факт зьяўляецца найлепшым паказальнiкам нашага культурнага росту У 1930-31 навучальным годзе будзе адчынена 1537 новых комплектаў 1-га концэнтру, а агульная лiчба iх дасягне па ўсёй БССР 12554. Нв гледзячы на вялiкiя цяжкасьцi ў сэнсе матар'яльных сродкаў i будаўнiчых матар'ялаў, будаўнiцтва новых школьных будынкаў таксама iдзе досыць шпаркiм тэмпам—у бягучым годзе будуецца новых будынкаў для 1120 комплектаў.

Па контрольных лiчбах да канца пяцiгодкi павiнна быць пабудавана 60 проц. усiх патрэбных школьных будынкаў. Побач з колькасным ростам школьнае сеткi iдзе i якасны яе рост. Лiк аднакомплектавых школ з кожным годам зьмяншаецца: калi да рэволюцыi iх было 80 проц., дык у 1927-28—66 проц., а ў сучасны момант лiк такiх школ зусiм нязначны. Адчыненьне новых комплектаў у 1930-31 г. пойдзе, галоўным чынам, па лiнii ўзбуйненьня комплектаў школ, па лiнii рэорганiзацыi 3-гадовых у 4-гадовыя школы. Выдаткi на ўтрыманьне аднаго комплекту з кожным годам павялiчваюцца i ў наступным годзе дасягнуць 1323 руб.

Савецкая працоўная школа ставiць сваёй першай задачай ахоп дзяцей працоўных. Савецкая ўлада вялiкую ўвагу зьвяртае на тое, каб даць магчымасьць дзецям беднаты атрымаць патрэбную адукацыю. Для гэтай мэты наша дзяржава дае вялiкiя матар'яльныя сродкi як па лiнii масавай пачатковай асьветы, гэтак i па лiнii сярэднiх i вышэйшых навучальных установаў. У будучым навучальным годзе гэтыя выдаткi па школах першага концэнтру прадугледжваюцца з такiм разьлiкам, каб 15 проц. усiх вучняў першага концэнтру забясьпечыць стыпэндыяльнай дапамогай. Апрача дзяржаўных сродкаў, для гэтае мэты прыцягваюцца i сродкi самой грамадзкасьцi.

Мы ўжо казалi, што ў момант вызваленьня ад польскай окупацыi няпiсьменнасьць сярод працоўнага насельнiцтва БССР дасягала 75 проц. Зусiм зразумела, што такая культурная адсталасьць шырокiх працоўных масс зьяўляецца галоўнай перашкодай у справе пабудовы социялiзму. Лiквiдацыя гэтай ганебнай спадчыны мiнулага ёсьць важнейшая задача савецкай улады i ўсяе савецкай грамадзкасьцi. Дзякуючы ўпартай працы, да 10-й гадавiны вызваленьня мы маем значныя дасягненьнi i ў гэтай галiне.

Няпiсьменных сярод насельнiцтва ва ўзросьце ад 12 да 45 год мы маем зараз каля 27 проц. Да 1930 г. мы лiквiдавалi няпiсьменнасьць сярод 419941 чал. У бягучым 1929-30 навучальным годзе лiкпунктамi было ахоплена 250000 чал., але-ж i на сёньняшнi дзень мы маем яшчэ 633984 няпiсьменных. На працягу 1930-31 г. мы павiнны цалкам скончыць лiквiдацыю няпiсьменнасьцi. У гэтым годзе на гэтую справу выдаткоўваецца 1300000 руб., а для сканчэньня яе нам патрэбна выдаткаваць 5632000 р. 50 проц. гэтых выдаткаў будзе пакрыта з мясцовага бюджэту, астатнюю суму павiнна даць наша грамадзкасьць. Наколькi гэтая справа па сваiх памерах грандыёзная, вiдаць хаця-б з таго, што для поўнага ахопу ўсiх няпiсьменных нам трэба адчынiць 25000 лiкпунктаў, мець такую-ж колькасьць лiквiдатараў няпiсьменнасьцi. Патрэбна вялiкая напружаная работа, патрэбен энтузыязм шырокiх працоўных мас, трэба зрабiць гэтую справу справай усяго працоўнага насельнiцтва. Пачэсную ролю ў гэтым павiнна адыграць настаўнiцтва.

Барацьба з няпiсьменнасьцю—барацьба за социялiзм.

Але-ж мала толькi лiквiдацыi няпiсьменнасьцi. Трэба даць магчымасьць зьлiквiдаваўшым сваю няпiсьменнасьць замацаваць i пашырыць веды, у працiўным выпадку процант рэцэдыву няпiсьменнасьцi будзе павялiчвацца, i вынiкi грандыёзнай працы значна зьменшацца, а таму, побач з разьвiцьцём сеткi лiкпунктаў, трэба разьвiваць i сетку школ малапiсьменных, лiк якiх у наступным годзе будзе дасягаць лiчбы 1869 з ахопам 48500 малапiсьменных.

Дасягненьнi ў галiне ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня на базе 4-гадовай школы даюць магчымасьць

у бліжэйшы час скончыць з няпісьменнасьцю і зрабіць другі крок у напрамку ўвядзеньня абавязковага навучаньня на базе сямігадовай школы. Ужо з будучага году, як мы казалі, абавязковасьць навучаньня часткова пашыраецца на 5 групу. З цягам часу сямігодка павінна стаць базай усеагульнага абавязковага навучаньня, а таму сетка гэтых школ штогодна пашыраецца. Агульны лік груп другога концэнтру ў сучасны момант дасягае лічбы 1790, у 1930-31 г. адчыняецца 288 новых груп, якія разлічаны, галоўным чынам, на пашырэньне сеткі сямігодак. Апрача таго, у БССР існуе 29 школ сялянскай моладзі.

Надыходзячы навучальны год зьяўляецца пераломным годам у сэнсе палітэхнізацыі ўсяе сыстэмы народнай асьветы. Шпаркі ўздым індустрыялізацыі краіны, вялікія дасягненьні ў колектывізацыі сельскае гаспадаркі настойліва патрабуюць ад нас рашучай перабудовы працы нашых школ. Школа абстрактнай, схолястычнай „зубрешки“, адарваная ад жыцьця, ад вытворчай базы, не адпавядае тым задачам, якія ставіць перад ёю наша эпоха социялістычнага будаўніцтва. Гэтакая школа ня можа выхаваць новых будаўнікоў социялізму. Вось чаму наша школа ў бліжэйшы час павінна стаць сапраўды працоўнай школай на базе социялістычнай вытворчасьці (прамысловасьць і сельская гаспадарка). З гэтаю мэтаю ў будучым годзе ўсе сямігодкі гораду і фабрычна-заводзкіх раёнаў павінны быць перабудаваны ў фабрычна-заводзкія школы, а вясковыя—у школы колгаснай моладзі з прымацаваньнем іх да таго ці іншага прадпрыемства ці колгасу і саўгасу.

Адна з каштоўнейшых заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі--дашкольнае выхаваньне дзяцей працоўных. Гэтае першае зьвяно ў сыстэме народнае асьветы толькі пры савецкай уладзе заняло адпаведнае ёй месца і з кожным годам шпарка пашыраецца. Значэньне яго ў справе ўздыму культурнага ўзроўню працоўных ня толькі ў тым, што, ахопліваючы дзяцей 3-7-гадовага ўзросту, яно выхоўвае іх у духу комуністычнага колектывізму і падрыхтоўвае іх у першую групу нормальнальнай масавай школы, але і ў тым, што дае магчымасьць тысячам работніц, колгасьніц і сялянак мець больш вольнага часу для ўзьняцьця свайго культурнага ўзроўню і далучэньня да вытворчага працэсу. Да рэволюцыі пра цоўныя Беларусі дашкольных устаноў зусім ня мелі. Зараз іх толькі па каштарысу мы маем: садоў і ачагоў—117, садоў-прымітываў—400, нулявых груп—300 і пляцовак—1600. Яшчэ большы лік гэтых устаноў існуе на сродкі ўсялякіх грамадзкіх організацый: коопэрацыі, шэфтаварыстваў ды інш.

Поруч з справай социяльнага выхаваньня дзяцей, поруч з справай разьвіцьця сеткі школьных і дашкольных устаноў, ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, задачы, якія стаяць перад працоўнымі, настойліва патрабуюць ад іх нясупыннаісьці па шляху ўзьняцьця свайго культурна-палітычнага ўзроўню. Толькі пры гэтай умове працоўныя здолеюць выканаць свае гісторычныя задачы, толькі тады яны змогуць канчаткова зьнішчыць рэшткі старога, эксплёататарскага ўкладу жыцьця і побыту і пабудаваць новую грамаду—социялізм. Таму культурнае абслугоўваньне шырокіх працоўных мас, задавальненьне іх культурных запатрабаваньняў савецкая ўлада ставіць аднэй з першачарговых задач. Гэтыя функцыі выконвае сыстэма нашых пазашкольных, палітасьветных устаноў. Толькі ўзяўшы ўладу ў свае рукі, пролетарыят, а разам з імі ўсе працоўныя маюць поўную магчымасьць уступіць на шлях поўнай ліквідацыі культурнай адсталасьці і стаць сьвядомымі будаўнікамі новай социялістычнай культуры.

На тэрыторыі БССР у 1930-31 г. будзе існаваць 106 вячэрніх рабочых школ, у якіх будзе навучацца 10072 дарослых рабочых, і 200 вячэрніх колгасных школ з лікам вучняў-колгасьнікаў у 10.000 чал. Амаль у кожным куточку БССР, амаль у кожнай вёсцы ідзе, на першы погляд, хоць і нязначная, але сапраўды вялікая культурная работа ў сотках і тысячах культурных ачагох—хатах-чытальнях і чырвоных кутках. Толькі бюджэтных хат-чытальняў мы у наступным годзе будзем мець 760, нардамоў і культбаз—113.

Да гэтага трэба дадаць соткі радыёустановак, кіно-перасовак і стацыянарак. Калі да рэволюцыі бібліотэка ў нас была рэдкім зьявішчам, дык зараз цяжка знайсьці паселішча, якое ня мела-б свае бібліотэкі ці не абслугоўвалася бібліотэкай-перасоўкай. Шырока разгарнулася сетка рабочых клюбаў у гарадох і фабрычна-заводзкіх раёнах.

У Менску і Віцебску мы маем вячэрнія рабочыя унівэрсытэты. Усё гэта каштоўныя заваёвы працоўных, усё гэта служыць на карысьць працоўных і дапамагае ім перабудоўваць сваё жыцьцё.

У галіне сярэдняй асьветы на 10-ым годзе свайго вызваленьня БССР можа адзначыць надзвычайна вялікі крок наперад. Сетка тэхнікумаў і профтэхшкол ахоплівае амаль усе галіны народнае гаспадаркі, рыхтуючы для яе неабходныя кадры сярэдняй адукацыі. На будучы навучальны год па дзяржаўнаму каштарысу тэхнікумаў па рознастайных спэцыяльнасьцях будзе існаваць 51, профшкол на базе сямігодкі—41.

Асабліва яскравыя заваёвы працоўныя БССР маюць у справе разьвіцьця вышэйшай адукацыі і навуковых установаў. Калі да рэволюцыі на тэрыторыі нашае рэспублікі ня было ніводнай вышэйшай установы, дык зараз мы маем Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт у Менску у складзе 5 факультэтаў, сельска-гаспадарчую акадэмію ў Горках, вэтэрынарны інстытут у Віцебску і комуністычны унівэрсытэт у Менску. 80 проц. студэнтаў гэтых установаў—рабочыя і бяднейшыя сяляне—знаходзяцца на поўным дзяржаўным утрыманьні.

У будучым годзе адчыняецца адна вышэйшая тэхнічная ўстанова, якая будзе рыхтаваць інжынэраў для нашай прамысловасьці. Для падрыхтоўкі ў гэтыя ўстановы рабочай, батрацкай і бядняцкай моладзі існуе 8 дзённых і 25 вячэрніх рабфакаў. Апрача таго, у кожнай акрузе працуюць кароткатэрміновыя курсы для падрыхтоўкі ў ВНУ. Сетка вышэйшых навучальных установаў пашыраецца яшчэ трыма пэдагогічнымі інстытутамі.

Толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту разьвіцьцё навукі мае ўсе магчымасьці шпаркага росту. У буржуазнай грамадзе навука служыць інтарэсам клясы эксплёататараў. Як вядома, буржуазія ў нашу эпоху зьяўляецца клясай, якая дажывае свае апошнія гісторычныя дні, якая зьяўляецца ў даны пэрыод гісторыі консэрватыўнай і рэакцыйнай сілай. Імкнучыся захаваць сваё пануючае становішча, яна падпарадкуе ўсё, а ў першую чаргу культурныя заваёвы і навуку, справе барацьбы з новым, нараджаючымся ў агні рэволюцый жыцьцём. Паколькі носьбітам гэтага новага жыцьця зьяўляецца кляса пролетарыяту, місія якой—зьнішчыць клясавую грамаду, пабудаваную на эксплёатацыі мільёнаў працоўных жменькай дармаедаў, пастолькі яна (кляса пролетарыяту) зьяўляецца адзінай рэволюцыйнай, прогрэсыўна-перадавой сілай, здольнай ня толькі адабраць усю ўладу ў аджываючых клясаў, ня толькі зруйнаваць стары эксплёататарскі лад, але нячуванымі да гэтага тэмпамі будаваць новае жыцьцё. Усе здабыткі навукі, культуры, цывілізацыі пролетарыят, асьвятляючы сьвятлом дыялектычнага матэрыялізму, будуючы і перабудоўваючы ўсё згодна марксыцка-ленінскай тэорыі, аслабаняе ад буржуазнай шкарлупы ідэялізму і іншых клясава-варожых тэорый і дае нячуваны размах разьвіцьця новай культуры, якая, будучы па свайму зьместу пролетарскай, вядзе ўсё чалавецтва на недасяжную вышыню разьвіцьця. Толькі пры дыктатуры пролетарыяту культура перастае быць зброяй клясавага прыгнечаньня працоўных у руках кучкі эксплёататараў і становіцца магутнай сілай мільёнаў у справе пабудовы сьветлай будучыны ўсяго чалавецтва. Вось чаму ў такі кароткі тэрмін пролетарыят і наогул працоўныя БССР і ўсяго Саюзу адзначаюць гэтакія вялізарныя посьпехі ў культурным будаўніцтве.

Працоўныя БССР у дзесятую гадавіну свайго вызваленьня могуць ганарыцца росквітам навукі, якой у дарэволюцыйныя часы ў нас зусім ня было. Пры першай магчымасьці перайсьці на мірную творчую працу, пролетарыят БССР закладае першую падваліну пад будучы вялікі будынак свае навукі—Інстытут Беларускай Культуры, які шпаркім тэмпам разьвінуўся ў буйную навукова-

дасьледчую ўстанову—Беларускую акадэмію навук. Побач з гэтым за кароткі тэрмін вырасла другая навукова-дасьледчая ўстанова—інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. З кожным годам лік навукова-дасьледчых устаноў шпарка пашыраецца. Шматлікія дасьледчыя інстытуты, дасьледчыя і вопытныя станцыі вядуць нясупынную вялізарнейшую і каштоўнейшую працу ў сэнсе ўзьняцьця нашага эканомічнага і культурнага жыцьця, у сэнсе перабудовы ўсяе гаспадаркі і культуры на соцыялістычны лад.

Багаты Беларускі дзяржаўны музэй з двума аддзяленьнямі ў Віцебску і Гомлі, Цэнтральная дзяржаўная бібліотэка з яе скарбам у паўмільёна тамоў кніг зьяўляюцца вялізарнейшымі культурнымі здабыткамі пролетарыяту БССР.

У галіне выяўленчага мастацтва і музыкі мы маем два буйных цэнтры--Менск і Віцебск, у якіх у хуткім часе будуць адчынены дзьве вышэйшыя навучальныя ўстановы—музычная консэрваторыя і мастацкая акадэмія. Апрача таго, маем некалькі ніжэйшых музычных і мастацкіх школ.

У разьвіцьці беларускай літаратуры ў 1920 г., з вызваленьнем ад польскай окупацыі, наступае новы пэрыод. які адзначаецца надзвычайна шпаркім яе ўздымам. Аднак, трэба адзначыць, што ў гэтай галіне культуры мы доўгі час адчувалі і зараз яшчэ часткова адчуваем традыцыі старой, дарэволюцыйнай, нашаніўскай, эпохі, калі літаратура была выказьнікам і натхніцелем наскрозь буржуазнага нацыянал-дэмократызму. Больш вядомыя прадстаўнікі беларускай літаратуры, як выхадцы з сялянскага дробнабуржуазнага асяродзьдзя, як людзі, што прышлі ў літаратуру ў эпоху барацьбы за нацыянальнае адраджэньне, не маглі адразу адрачыся ад старых традыцый і ўступілі ў рэволюцыйную эпоху разьвіцьця літаратуры са сваім, чужым пролетарыяту, ідэёвым багажом буржуазнага нацдэмократызму. Доўгі час частка гэтых прадстаўнікоў літаратуры з недаверлівасьцю адносілася да пролетарскае дзяржавы і ўсіх яе мерапрыемстваў, другая-ж частка зусім сьвядома абараняла позыцыі буржуазіі і актыўна выступала супроць дыктатуры пролетарыяту.

За дзесяць год на глебе глыбокіх соцыяльна-эканомічных зрухаў ва ўсім гаспадарчым жыцьці краіны, на глебе магутнага наступу соцыялізму, і ў літаратуры адбываецца вялікі процэс, у выніку якога мы маем значны зрух у бок узмацненьня пролетарскіх позыцый, асабліва сярод маладога пасьлякастрычніцкага пакаленьня пісьменьнікаў, набліжэньня да нас лепшай часткі старых пісьменьнікаў і ідэёвага раззбраеньня варожых нам элемэнтаў у літаратуры. Калі ня так даўно парасткі пролетарскае літаратуры ў першапачатковым, зародкавым стане павінны былі весьці жорсткую, упартую барацьбу з моцным пластом старой, чужой нам ідэолёгіі, дык зараз пролетарскія позыцыі ў гэтай галіне культуры значна ўзмацніліся. Поруч з узмацненьнем пролетарскіх позыцый ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры, пролетарыят і ў літаратуры крок за крокам вядзе перад. Зараз мы маем моцны маладняцкі касьцяк БелАПП, які па сваёй ідэолёгіі, па свайму літаратурнаму кірунку вельмі блізка стаіць да позыцый пролетарыяту і нярэдка дае нам узоры сапраўды пролетарскай творчасьці Апрача гэтага згуртваньня, мы маем цэлы шэраг маладняку, што вырас на рэволюцыйнай глебе і ў іншых літаратурных згуртаваньнях, які шчыра імкнецца наблізіцца да пролетарскае літаратуры, які шукае шляхоў да яе.

У сучасны пэрыод абвостранай клясавай барацьбы, на аснове рашучага наступу соцыялістычнага сэктару нашай гаспадаркі на капіталістычныя элемэнты, магутнага поступу колектывізацыі сельскае гаспадаркі, клясавае разьмежаваньне ў літаратуры яшчэ больш абвастраецца. Літаратурны вучастак нашага фронту набывае асабліва актуальнае значэньне. Літаратура ня толькі адлюстроўвае ў літаратурна-мастацкіх формах соцыяльныя процэсы нашага сучаснага і мінулага, але адначасна зьяўляецца і магутным фактарам узьдзеяньня на масы, магутнай зброяй ў клясавай барацьбе. Усе варожыя пролетарыяту сілы імкнуцца выкарыстаць гэты вучастак фронту

для сваіх контррэволюцыйных вылазак. А таму барацьба за ўзмацненьне сваіх позыцый у літаратуры, за поўную гэгемонію ў ёй застаецца важнейшай задачай пролетарыяту. Каб яскрава ўявіць сабе тыя вялізарнейшыя дасягненьні, які мае ў сучасны момант беларуская пролетарская літаратура, трэба гэтыя дасягненьні параўнаць з тым, што мы мелі ў дарэволюцыйныя часы, з якім багацьцем мы ўступілі ў новую літаратурную эпоху.

Напярэдадні Кастрычніцкай рэволюцыі беларуская літаратура тварылася паасобнымі пісьменьнікамі-выхадцамі з дробнай буржуазіі і розначыннай інтэлігэнцыі, якія, абмежаваўшыся вялікімі рамкамі нацыяналізму, займаліся сьпевамі народніцкіх мотываў.

Социяльна-нацыянальнае прыгнечаньне мас, іх культурная адсталасьць не давалі гэтым масам выхаду на шырокі творчы шлях. Толькі голад і беспрацоўе заставаліся працоўным Беларусі да рэволюцыі.

З прычыны амаль поўнае атсутнасьці прамысловасьці не магло быць і соцыяльнай базы для разьвіцьця здаровай, бадзёрай, заклікаючай да барацьбы, пролетарскай рэволюцыйнай літаратуры. Беларуская літаратура таго часу ня была і не магла быць здабыткам і зброяй шырокіх пластоў працоўных, для іх яна была незразумелай. Тварылася яна недзе ў баку ад іх. Літаратурная творчасьць была даступна толькі паасобным адзінкам. Толькі разбурыўшы сьмярдзючыя засьценкі царызму і вузкія буржуазныя асяродкі нацыяналізму, пролетарыят адчыніў сабе неабсяжныя прасторы для новай, маладой і бадзёрай пролетарскай творчасьці. Літаратура ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту выходзіць у шырокі сьвет і становіцца здабыткам усяе працоўнае грамадзкасьці. Нетры кляс пролетарыяту і працоўн. сялянства служаць невычарпальнай крыніцай маладой творчай энэргіі. На літаратурную арэну з кожным днём выходзяць маладыя, сьвежыя сілы—згустак волі і энэргіі працоўных. Яны прыносяць з сабою ў літаратуру тое новае, што захована ў нетрах клясы пролетарыяту. У трох літаратурных згуртаваньнях мы зараз маем не адзін дзесятак маладых пісьменьнікаў, сярод якіх ёсьць нямала вельмі здольных, якія ўносяць у скарбніцу пролетарскай культуры першыя плёны таго зерня, якое ўкінута ў багатую глебу пролетарыятам у вялікія кастрычніцкія дні. Гэтыя маладыя пісьменьнікі зьяўляюцца неадлучнай часткай працоўных мас, з нетраў якіх яны вышлі. Іх творчасьць-творчасьць усяго колектыву працоўных. Аб гэтым сьведчаць тыя шматлікія сустрэчы пісьменьнікаў з масавым чытачом, якія наладжваюцца нашымі пісьменьнікамі ў самых гушчах рабочых і самых далёкіх куткох Савецкай Беларусі. Аб гэтым сьведчаць тыражы літаратурных часопісаў.

Ніколі мастацкая літаратура ня была гэтак блізкай разуменьню рабочых і сялян, як у нашыя часы. Ніколі на Беларусі кніжка, літаратурны твор ня мелі гэтакага шырокага попыту, як зараз. Калі прасачыць за вытворчасьцю нашага Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, хаця-б за некалькі апошніх год, дык сапраўды можна ўбачыць, як увачавідкі расьце нябывалы культурны ўздым мільёнаў працоўных.

За пэрыод 1925-29 г.г. БДВ мела шэраг дасягненьняў у сваёй працы: выпушчана за 5 год 1122 назвы, 7279 тысяч кніжак, з якіх падручнікаў—3 мільёны, масавай літаратуры—2 мільёны, мастацкай—682 тыс., дзіцячай—587 тыс., часопісаў—94 тыс. паасобнікаў; уся гэта літаратура складае 62050 тысяч аркушаў. Згуртаваны наваколо выдавецтва беларускія пісьменьнікі і мастакі (у БДВ прымаюць удзел каля 100 пісьменьнікаў і мастакоў па стварэньні кніжкі). Праведзена праца па апрацоўцы друку, распаўсюджваньні мастацкае літаратуры, што садзейнічала ў першую чаргу беларусізацыі, абслугоўваньню кніжкай нацыянальных меншасьцяй на іх роднай мове: надрукавана на беларускай мове 6464 тысячы, на яўрэйскай - 465 тысяч, на польскай—188 тысяч, на расійскай—152 тысячы, на літоўскай—3 тысячы, на латыскай—5 тыс. экз. кніг.

Асабліва аб гэтым яскрава сьведчыць пэрыодычны друк: выдаецца 9 цэнтральных газэт, 6 акруговых ды 30 газэт

многатыражак і тысячы насьценгазэт на заводах, фабрыках, у саўгасах, колгасах і паасобных вёсках, да дзесятку літаратурна-публістычных часопісяй. Усё гэта сапраўды зьяўляецца творчасьцю ўсяго працоўнага колектыву. Армія рабкораў і селькораў налічвае ў сваіх шэрагах тысячы лепшых сяброў гэтага колектыву. У кожным газэтным радку адчуваецца сталёвы поступ пролетарскіх колён, якія з неперможнай сілай штурмуюць стары, ганебны, эксплёататарскі сьвет і на яго месца будуюць прамяністы палац будучыны.

Што датычыцца тэатру, дык тут трэба сказаць, што сапраўды на літаральна пустым месцы за параўнальна кароткі тэрмін мы зараз маем вялікую каштоўнасьць: БДТ 1, БДТ 2, БДЯТ, Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, яўрэйскі і польскі вандроўныя тэатры, тэатр рабочай моладзі, рабочы тэатр, вандроўны тэатр прафсаюзу сельгаслесрабочых і соткі драматычных гурткоў пры клюбах нардомах і хатах чытальнях. Тое, што мелася да дню вызваленьня ад окупацыі, нельга назваць тэатрам. Дватры аматарскіх гурткі—вось і ўсё.

Падводзячы вынікі дзесяцігодзьдзя працы ў гэтай галіне, мы можам констатаваць вялізарнейшыя посьпехі ня толькі ў колькасных адносінах, але і ў адносінах зьместу работы нашых тэатраў.

Беларускі тэатр нарадзіўся ў дні Кастрычніцкай рэволюцыі, а таму, у параўнаньні з літаратурай, старыя традыцыі ў ім адчуваліся значна меней. Аднак, і тут прышлося весьці ўпартую ідэёвую барацьбу за чыстату пролетарскіх прынцыпаў. Пэўная частка беларускай інтэлігенцыі імкнулася ўплываць на тэатр, накіроўваць работу яго ў вузкія рамкі нацыянальнай абмежаванасьці. Свае імкненьні яна прыкрывала буржуазнай, контррэволюцыйнай тэорыяй самабытнасьці. Выступаючы супроць пролетарскай ідэолёгіі наогул, яна і ў галіне тэатру імкнулася супроцьставіць сваю нацыянал-дэмократычную тэорыю уплывам новай пролетарскай культуры, якая шпаркім тэмпам разьвіваецца ў Савецкім Саюзе. Але ж тут і стаўка буржуазных ідэолёгаў была біта. Тэатр, народжаны рэволюцыяй, нельга адгарадзіць кітайскай сьцяной ад мас. У нашых умовах театр перастае быць раскошай невялічкай кучкі буржуазіі і буржуазнай інтэлігенцыі, ён шчылна зьвязаны з масамі, ён, выконваючы социяльны заказ пролетарскіх мас, атрымлівае ідэолёгічны ўплыў ад іх, адначасна ўплываючы на іх у сэнсе ўзьняцьця культурнага ўзроўню працоўных. А таму кожны тэатр, які ня пойдзе ў ногу з масамі, ня будзе адлюстроўваць іх клясавых інтарэсаў, нямінуча будзе адкінуты імі, як нешта непатрэбнае і шкоднае.

Беларускі тэатр, можна сказаць, справіўся са сваёю задачаю, бо ён знайшоў верны шлях свайго разьвіцьця, успрыняўшы лёзунг: „нацыянальны па форме і пролетарскі па зьместу“. Апошнія пастаноўкі ўсіх тэатраў яскрава аб тым сьведчаць. Усесаюзная тэатральная олімпіяда, якая адбылася нядаўна, паказала, што беларускі тэатр займае адно з першых месц сярод тэатраў другіх савецкіх рэспублік.

Усе гэтыя дасягненьні ў галіне культуры аднолькава адносяцца да ўсіх нацыянальнасьцяй БССР. Падрабязна аб гэтым пісалася ўжо у „Комуністычным Выхаваньні“, у № 4.

Усё тое, што мы маем цяпер, зьяўляецца вынікам пролетарскай рэволюцыі. Толькі дыктатура пролетарыяту ёсьць адзіны шлях для мільёнаў працоўных да свайго экономічнага і культурнага вызваленьня, да поўнага зьнішчэньня эксплёататарскага ладу.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

## Аб усеагульным абавязковым пачатковым навучаньні

(*Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 ліпеня 1930 г.*)

Разьвіцьцё социялістычнага будаўніцтва і зьвязаныя з гэтым вялізарныя задачы па падрыхтоўцы кадраў, ліквідацыя культурна-тэхнічнай адсталасьці і комуністычнае выхаваньне шырокіх мас патрабуе далейшага правядзеньня ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучаньня як важнейшай прадпасылкі далейшага разьвіцьця культурнай рэволюцыі. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне ўсеагульнага абавязковага навучаньня „будзе вялізарнай перамогай ня толькі на культурным, але і на палітычным і гаспадарчым фронце" (Сталін).

Не зважаючы на значна ўзросшы ў параўнаньні з дарэволюцыйным становішчам ахоп дзяцей пачатковай школай, ЦК прызнае зусім нездавальняючымі тэмпы падрыхтоўкі і правядзеньня ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучаньня. Адзначаючы слабую работу па ўвядзеньні ўсеагульнага навучаньня з боку савецкіх органаў, асабліва народных комісарыятаў асьветы, іх органаў на мясцох і выканкомаў у большасьці рэспублік і вобласьцяй, а таксама зусім недастатковую ўвагу і дапамогу ў гэтай рабоце з боку партыйных, профэсіянальных і іншых організацый, ЦК прызнае неабходным:

1. Увесьці з 1930-31 году па ўсіх мясцовасьцях усеагульнае абавязковае пачатковае навучаньне дзяцей ва ўзросьце 8-9-10 год, з далейшым распаўсюджаньнем абавязковасьці пачатковага навучаньня для дзяцей 11 год у 1931-32 годзе. У сувязі з асаблівымі бытавымі і організацыйнымі цяжкасьцямі дапусьціць для па-за гарадзкіх мясцовасьцяй асобных нацыянальных рэспублік і вобласьцяй і некаторых аддаленых раёнаў адступленьне (ня больш чымся на 1-2 гады) ад паказанага вышэй тэрміну правядзеньня абавязковага пачатковага навучаньня, з дазволу ў кожным асобным выпадку ўрадаў адпаведных саюзных рэспублік.

Увесьці з 1930-31 году абавязковае навучаньне перарасткаў (ад 11 да 15 год, якія не прайшлі курсу пачатковай школы) на аснове паскораных форм навучаньня: 2-гадовыя і 1-гадовыя школы-курсы.

Распачаць з 1930-31 году ўвядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня ў абхваце школы-сямігодкі ў прамысловых гарадох, фабрычна-заводзкіх раёнах і рабочых пасёлках, устанавіўшы абавязковасьць навучаньня ў школе-сямігодцы для дзяцей, якія канчаюць сёлета пачатковую школу (першую ступень). Зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне фабрычна-заводзкіх сямігодак. Узмацніць разгортваньне школ колгаснай моладзі (як дзённых, так і вячэрніх) з такім разьлікам, каб да канца пяцігодкі ахапіць імі асноўную масу колгаснай моладзі.

2. Для забесьпячэньня ажыцьцяўленьня ўсеагульнага пачатковага навучаньня, поруч са значным павялічэньнем бюджэтных асыгнаваньняў, усямерна прыцягнуць да фінансаваньня ўсеагульнага навучаньня, а таксама будаўніцтва, рамонту і абсталяваньня пачатковых школ гаспадарчыя, профсаюзныя, коопэрацыйныя і іншыя грамадзкія організацыі, а таксама ініцыятыву шырокіх мас (у парадку социялістычнага спаборніцтва, спэцыяльных адлічэньняў, выплат ад культурных гектараў колектыўных запашак, дапамогі шэфаў, дармовага працоўнага ўдзелу і інш.)

Устанавіць, што ў прамфінпляне гаспадарчых органаў па буйным капітальным будаўніцтве павінны быць прадугледжаны, паводле пастаноў СНК СССР

СНК саюзных рэспублік, капітальныя ўклады на будаўніцтва школ ўсеагульнага навучаньня. Значна павялічыць з 1930-31 году фонды на будаўніцтва школ пачатковага навучаньня са спэцыяльнымі дотацыямі, ў сувязі з увядзеньнем усеагульнага абавязковага навучаньня, з боку агульнасаюзнага бюджэту. Разьмеры гэтых дотацый устанаўляюцца СНК СССР у адпаведнасьці з плянам усеагульнага навучаньня. Вызваляць для карыстаньня па назначэньню школьныя будынкі, занятыя для іншых патрэб, а таксама выкарыстаць у першую чаргу пад школы былыя абшарніцкія сядзібы, конфіскаваныя кулацкія памяшканьні і г. д Пры выдаткаваньні сродкаў на школьнае будаўніцтва мець на ўвазе першачарговае задаволеньне патрэб асноўных індустрыяльных раёнаў, рабочых цэнтраў і раёнаў суцельнай колектывізацыі, а таксама ўсіх культурна-адсталых нацраёнаў.

3. З мэтаю забесьпячэньня школ усеагульнага навучаньня неабходнымі пэдагогічнымі кадрамі:

а) тэрмінова разгарнуць сетку і контынгенты пэдагогічных інстытутаў, пэдтэхнікумаў, а таксама спэцыяльных пэдагогічных курсаў і іншых форм падрыхтоўкі пэдагогаў;

б) улічваючы ўзрастаючыя новыя задачы, якія ўскладаюцца на настаўніцтва, значна палепшыць матар'яльнае становішча пэдагогічных кадраў пачатковага навучаньня; забясьпечыць для настаўнікаў сельскай школы нормы рабочай забясьпекі;

в) зьвярнуць асаблівую ўвагу на марксыцка-ленінскую падрыхтоўку і політэхнічную кваліфікацыю пэдагогічных кадраў; ужыць захады па ўзмацненьні комуністычнага і рабочага асяродку сярод пэдагогічных кадраў; прапанаваць ЦК комсамолу на працягу 3 год вылучаць і накіроўваць ў парадку мобілізацыі штогодна ня менш 20 тысяч членаў УсеЛКСМ для работы ў школах усеагульнага навучаньня і для комплектаваньня пэдагогічных навучальных устаноў.

4. З мэтаю забесьпячэньня сапраўднага доступу ў школы, палепшаньня якасьці навучаньня і рашучай барацьбы з другагодніцтвам і адсевамі ў пачатковай школе, значна павялічыць з 1930-31 году матар'яльную дапамогу (у выглядзе дармовай забясьпекі вучняў падручнікамі, абуткам, вопраткай, харчамі транспартам і інш.) вучням, дзецям менш забясьпечаных рабочых, батракоў і беднаты шляхам павялічэньня бюджэтных асыгнаваньняў на гэтую дапамогу, прыцягненьня сродкаў грамадзкіх організацый, а таксама за кошт сродкаў ад спэцыяльна для гэтага засноўваемых фондаў у парадку, які ўстанаўляецца СНК Саюзу. Адначасна з гэтым шырока разгарнуць у парадку культпаходу практыку падрыхтоўчых груп і заняткаў да паступленьня ў школу для дзяцей рабочых, батрацтва і вясковай беднаты.

5. З мэтаю ўзмацненьня кіраўніцтва справаю падрыхтоўкі і ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня з боку парторганізацый, ЦК прапануе ўсім парторганізацыям:

а) разглядаць увядзеньне ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучаньня, як важнейшую політычную кампанію на ўвесь бліжэйшы пэрыод;

б) дамагчыся сыстэматычнага і актыўнага ўдзелу членаў партыі ў рабоце комітэтаў дапамогі ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню і выбарчых організацый у школах (школьныя саветы, бацькаўскія комітэты і інш.)

в) парткомы ня менш як 2. разы ў год заслухоўваюць даклады фракцый выканкомаў і саветаў аб рабоце па разгортваньні ўсеагульнага навучаньня; на агульных сходах парт'ячэек ставіць сыстэматычна пытаньні практычнага правядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня ў прыстасаваньні да мясцовых умоў (фабрычна-заводзкага раёну, пасёлку, вёскі).

6. Ажыцьцяўленьне ў самы кароткі тэрмін усеагульнага абавязковага пачатковага навучаньня зьвязана з шэрагам буйных цяжкасьцяй. Рашучая перамога гэтых цяжкасьцяй можа быць дасягнута толькі пры ўмове, калі справа правядзеньня ўсеагульнага навучаньня зробіцца масавай агульнаполітычнай кампаніяй, якая абапіраецца на ініцыятыву і самадзейнасьць усяе пролетарскай грамадзкасьці і на шырокае выкарыстаньне такіх мэтодаў работы, як

культпаход, соцпаборніцтва, шэфства прадпрыемстваў над школамі, грамадзкі агляд, масавыя конфэрэнцыі і г. д.

З мэтаю мобілізацыі сродкаў і сіл у рабоце па ажыцьцяўленьні ўсеагульнага навучаньня, ЦК лічыць неабходным заснаваньне пры гарадзкіх саветах і выканкомах, а таксама пры саветах фабрычна-заводзкіх пасяленьняў, комітэтаў дапамогі ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню, з удзелам у іх аддзелаў народнай асьветы, профсаюзных організацый, комсамолу, таварыства „Прэч няпісьменнасьць", актывістых-культурнікаў і перадавых рабочых і колгасьнікаў.

ЦК прапануе цэнтральнаму і мясцоваму друку шырока разгарнуць кампанію па пытаньнях правядзеньня ўсеагульнага навучаньня, сыстэматычна асьвятляючы ход гэтай работы.

---

# Аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва

*(Пастанова ЦВК і СНК БССР)*

Пастаўленыя савецкай дзяржавай задачы індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай перабудовы вёскі на базе колектывізацыі бядняцка - серадняцкіх гаспадарак могуць быць з посьпехам выкананы толькі пры актыўным удзеле рабочых мас і ўсіх працоўных. Актыўны ўдзел працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве патрабуе максымальнага ўздыму іх палітычнага і культурнага ўзроўню і, у першую чаргу, канчатковай ліквідацыі іх няпісьменнасьці.

З гэтай мэтай Цэнтральны Выканаўчы Комітэт і Савет Народных Комісараў БССР пастанаўляюць устанавіць наступны парадак канчатковай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва БССР:

1. Усе няпісьменныя ад 12 да 45 гадоў як у вёсцы, так і ў горадзе, не пазбаўленыя выбарчых правоў, павінны зарэгістравацца да 1 жніўня 1930 г. у месцы свайго пражываньня ў сельскіх, местачковых альбо гарадзкіх саветах. Вучоту з мэтай ліквідацыі няпісьменнасьці падлягаюць таксама няпісьменныя ва ўзросьце 12-18 год і ў тых сем'ях, якія пазбаўлены выбарчых правоў.

2. Паказаныя ў арт. 1 асобы павінны ліквідаваць сваю няпісьменнасьць у наступныя тэрміны:

а) рабочыя і члены профсаюзаў—на працягу 1930 г.;

б) рабочыя савецкіх гаспадарак, батракі і дапрызыўнікі 1909-10 г. г. да 1 мая 1931 г.;

в) усе астатнія, памянёныя ў п. 1 гэтае пастановы, і ў першую чаргу колгасьнікі, на працягу 1931-32 г.

3. Дакладныя тэрміны рэгістрацыі асоб, паказаных у арт. арт. 1 і 2 гэтай пастановы, устанаўляюцца раённымі выканаўчымі комітэтамі і гарадзкімі саветамі.

4. Контроль за выкананьнем пастаноў аб абавязковай рэгістрацыі няпісьменных і за наведваньнем няпісьменнымі школ ліквідацыі няпісьменнасьці ўскласьці на сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы, якія прыцягваюць да гэтай справы адпаведныя грамадзкія організацыі.

Грамадзкія організацыі, у першую чаргу таварыства „Прэч няпісьменнасьць", павінны прыняць усе захады для прыцягненьня сваіх сяброў да ўдзелу ў правядзеньні пляну НК Асьветы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва, а таксама матар'яльна садзейнічаць гэтай справе.

5. Няпісьменным рабочым і работніцам, батраком і батрачкам, сельска-гаспадарчым рабочым і работніцам, колгасьнікам і колгасьніцам, а таксама хатнім работніцам, якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць, павінна быць забясьпечана магчымасьць хадзіць на заняткі.

Даручыць ВСНГ і Белколгасцэнтру, з удзелам ЦСПСБ, распрацаваць парадак ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства.

6. Абавязаць установы, прадпрыемствы і організацыі даваць для заняткаў з няпісьменнымі, якія працуюць у гэтых установах, прадпрыемствах альбо організацыях, памяшканьні з асьвятленьнем і апалам.

7. Даць гарадзкім, местачковым і сельскім саветам права ўстанаўляць асобныя перавагі па культурна-бытавым абслугоўваньні няпісьменных, якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць.

8. Прыцягнуць у парадку грамадзкай работы да правядзеньня ліквідацыі няпісьменнасьці ўсіх асоб ад 18 да 50 год, якія не пазбаўлены выбарчых правоў і маюць веды ў аб'ёме курсу сямігодкі, калі яны жывуць у гарадох; у іншых мясцовасьцях—маючых адпаведныя для ліквідацыі няпісьменнасьці веды.

9. Кожная з паказаных у арт. 8 гэтае пастановы асоба павінна па даручэньні адпаведных органаў асьветы, сельскіх і гарадзкіх саветаў на працягу 1930/31—32 г. г. навучыць пісьменнасьці аднаго няпісьменнага альбо выканаць іншую працу ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці альбо малапісьменнасьці.

10. Для максымальнага разгортваньня і паскораньня тэмпаў работы па ліквідацыі няпісьменнасьці мобілізаваць усю савецкую грамадзкасьць, шырока популярызаваць у масах працоўных задачы ліквідацыі няпісьменнасьці, ужываць у рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці мэтоды соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

11. На асоб, якія ўхіляюцца ад рэгістрацыі і ліквідацыі свае няпісьменнасьці, можа накладвацца штраф да 15 руб.

12. Асобы, якія павінны непасрэдна ўдзельнічаць у ліквідацыі няпісьменнасьці, за ўхіленьне ад гэтых абавязкаў могуць па пастановах гарадзкіх і сельскіх саветаў штрафавацца ў разьмеры ад 5 да 25 руб. альбо прыцягвацца да прымусовых работ тэрмінам да аднаго м-ца.

13. Штрафы, спагнаныя паводле арт. арт. 11 і 12 гэтае пастановы, залічваюцца ў мясцовы бюджэт і скарыстоўваюцца выключна на ліквідацыю няпісьменнасьці.

14. Запрапанаваць біржам працы патрабаваць з 1 студзеня 1931 г. ад асоб, якія павінны на падставе гэтай пастановы ліквідаваць сваю няпісьменнасьць, даведкі аб ліквідацыі няпісьменнасьці альбо аб наведваньні імі школ ліквідацыі няпісьменнасьці ці індывідуальна-групавога навучаньня, улічваючы гэта пры пасылцы на работу.

15. Абавязаць Народны Комісарыят Асьветы, Народны Комісарыят Фінансаў прадугледзець па бюджэту 1930-31 г. сродкі, патрэбныя на ліквідацыю няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва, паводле гэтае пастановы, улічваючы і ўдзел грамадзкіх організацый.

16. Усе пісьменныя ад 18 да 50 год, пазбаўленыя выбарчых правоў, замест непасрэднага працоўнага ўдзелу ў ліквідацыі няпісьменнасьці, абкладаюцца спэцыяльным зборам, разьмер і парадак якого ўстанаўляецца асобнай пастановай СНК.

В. аб. Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту БССР
*А. Хацкевіч.*

Старшыня Савету Народных Комісараў БССР *М. Галадзед.*

За Сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту БССР
*А. Сташэўскі.*

25 ліпеня 1930 г., г. Менск.

Хв. Сьцепанюк

# Савецкая грамадзкасьць і ліквідацыя няпісьменнасьці

Справа ліквідацыі няпісьменнасьці зьяўляецца аднэй з важнейшых палітычных і гаспадарчых задач ня толькі вузка ведамсьцьвеных органаў асьветы, але ўсяе савецкае грамадзкасьці. Вырашэньне гэтае справы залежыць выключна ад таго, які ўдзел у ёй прымуць усе грамадзкія організацыі: профсаюзы, комсамол, т-ва „Прэч няпісьменнасьць", коопэрацыя, шэфтаварыства, саветы і ўся савецкая грамадзкасьць.

Ленін неаднакроць падкрэсьліваў, што ліквідацыя няпісьменнасьці будзе з посьпехам вырашана толькі тады, калі „самі масы возьмуцца" за гэту справу.

Спынімся і завострым увагу галоўным чынам на асноўных грамадзкіх організацыях, якія прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці.

## I. Удзел профсаюзаў у рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці

Пры разглядзе і вырашэньні пытаньня пра ўдзел профсаюзаў у справе ліквідацыі няпісьменнасьці трэба выходзіць з наступнага.

Па-першае, з таго, што ЦК УсеКП прызнаў „недастатковым удзел профэсіянальных організацый у справе ліквідацыі няпісьменнасьці". ЦК лічыў „неабходным забясьпечыць сыстэматычны ўдзел у справе барацьбы з няпісьменнасьцю шляхам вярбоўкі няпісьменных у школы, падшуканьня памяшканьняў, фінансаваньня гэтай работы з культфондаў, контролю над наведваньнем заняткаў, абслугоўваньня тых, што вучацца, усімі відамі політыка-асьветнай работы".

Па-другое, з пастановы VIII усесаюзнага зьезду профсаюзаў, дзе гаворыцца: „дабіцца рашучага пералому ўва ўсёй справе ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сяброў профсаюзаў. Абгаварыць плян практычных мерапрыемстваў усяе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, мобілізуючы вакол гэтае справы шырокую рабочую грамадзкасьць".

Па-трэцяе, з узаемаадносін паміж профсаюзамі і органамі Наркомасьветы, устаноўленымі генэральнай умовай паміж УсеЦСПС і Народным комісарыятам асьветы. Гэтая ўмова асабліва падкрэсьлівае наступнае:

„УсеЦСПС і Наркомасьветы РСФСР лічаць шырокі ўдзел у рабоце мас важнейшым залогам пасьпяховасьці ўсяе работы УсеЦСПС, Наркомасьветы абавязуюцца так організаваць работу сваіх культурна-асьветных устаноў — школ, клюбаў, бібліотэк, чырвоных куткоў, а таксама работу аддзелаў народнае асьветы і культаддзелаў профсаюзаў, каб кожны крок іх работы ўзьнімаў і аб'ядnaў новыя і новыя масы працоўных у іх барацьбе за сваю няпісьменнасьць".

„Работа па ліквідацыі няпісьменнасьці павінна быць так пабудавана, каб самі масы, масавыя організацыі прымалі ў ёй штодзённы ўдзел. Фабкомы і іх культкомісіі, сэкцыі саветаў, ячэйкі т-ва „Прэч няпісьменнасьць", жаночыя дэлегацкія сходы, а таксама клюбы і школы ўсіх тыпаў павінны быць у першых шэрагах гэтай працы".

У БССР такія ўмовы складзены паміж Наркомасьветы і цэнтральнымі праўленьнямі профсаюзаў, кожным паасобку, а на месцах - акраддзяленьнямі і фабкомамі.

Гэтыя ўмовы павінны мобілізаваць пролетарскую грамадзкасьць на актыў-

ную барацьбу з няпісьменнасьцю. Яны (умовы) ўстанаўліваюць узаемныя абавязкі органаў НКА і профсаюзаў.

І нарэшце, самае галоўнае,—гэта пастанова ЦК УсеКП і ЦК КПБ, якая ставіць практычную задачу сёньняшняга дня—„ліквідаваць няпісьменнасьць сярод рабочых, сяброў профсаюзаў на працягу 1930 г.“.

Усё вышэйпералічанае гаворыць аб тым, што профсаюзы павінны заняць адно з першых месц у справе ліквідацыі няпісьменнасьці, што на профсаюзы ўскладаецца пачэсная роля—стаць усёй сваёй масай застрэльшчыкамі за пісьменнасьць. Калі ў гэтым навучальным годзе профсаюзы, за выключэньнем Працасьветы, вылучалі сродкі і сілы, займаліся пытаньнем ліквідацыі няпісьменнасьці, вялі ўсю работу толькі сярод сваіх сяброў саюзу, дык зараз гэтага мала.

Зараз профсаюзы павінны зрабіць рашучы пералом ня толькі ў сэнсе барацьбы з няпісьменнасьцю сярод сваіх сяброў, але і аказаць практычную, пасільную дапамогу дзяржаве як сродкамі, так і асабліва сіламі ўсяе грамадзкасьці для выкананьня апошняга пляну ўсеагульнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва і, у першую чаргу, сярод рабочых, батракоў і колгасьнікаў.

Зразумела, што гэта ні ў якім разе не павінна паслабіць увагу адказнасьці за канчатковую ліквідацыю няпісьменнасьці сярод астатніх няпісьменных сяброў саюзу.

Такім чынам, усе профсаюзы, асабліва тыя, што непасрэдна працуюць у вёсцы альбо больш зьвязаныя з ёй (СГЛР, будаўнікі, саўгандальслужачыя, мэдсанпрацы), павінны займацца агульнай справай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва.

Неабходна прыняць актыўны ўдзел ва ўсякую пару году, як улетку, так і ўзімку, абгаварыць плян усеагульнай ліквідацыі няпісьменнасьці і зьвязаныя з ім усе мерапрыемствы.

Ужо зараз распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўдзелу ў выкананьні гэтага пляну, дапамагчы органам Наркомасьветы на месцах правесьці сталы падлік няпісьменных і малапісьменных, скласьці плян, прыняць як мага большы ўдзел у падрыхтоўцы кадраў, вылучыць добра пісьменных рабочых, мобілізаваць на справу ліквідацыі няпісьменнасьці ўсіх няпісьменных сяброў саюзу, у аднолькавай меры дапамагаць організаваць школы, лікпункты; садзейнічаць у падшуканьні памяшканьняў, абсталяваньня; клапаціцца аб тым, каб усе наведвалі школы, організаваць грамадзка-палітычнае і культурна-бытавое абслугоўваньне тых, што вучацца і г. д.

Але разам з гэтым, профсаюзы, бязумоўна, павінны дапамагчы і матар'яльна—сродкамі, пры чым гэтая справа зараз вымагае значна больш сіл і сродкаў ад профсаюзаў. У бягучым 29-30 г. профсаюзы вылучылі на справу ліквідацыі няпісьменнасьці 120 тыс. рублёў, што складае каля 10 проц. культфонду і займае 1/10 частку ў агульным каштарысе, што адпускаецца дзяржавай (1081 т. р.).

Трэба дадаць, што гэтая сума адпускалася на ліквідацыю няпісьменнасьці сярод 280 490 чал.

У 30-31 г., як гісторычным і рашаючым годзе, які прадугледжвае канчатковую ліквідацыю няпісьменнасьці сярод працоўных ва ўзросьце 12-40 год, бязумоўна патрэбна падвоіць і патроіць водпуск сродкаў па лініі профсаюзаў. Патрэбна давесьці фінансаваньне з боку моцных профсаюзаў ня менш чым да 20 проц. адлічэньня ад культфондаў.

Водпуск сродкаў павінен ісьці не з разьліку таго, сярод якой колькасьці людзей трэба, скажам, ліквідаваць няпісьменнасьць „маіх“ сяброў саюзу. Водпуск сродкаў перш за ўсё, павінен разглядацца, як пасільная дапамога дзяржаве. Выходзячы з гэтага, павінен быць вызначаны сярэдні процант адлічэньня ад культфондаў на справу ліквідацыі няпісьменнасьці, незалежна ад ліку сяброў саюзу, што навучаюцца.

У зьвязку з вышэйпералічанымі мерапрыемствамі паўстае зусім рэальна пытаньне аб зьмесьце і формах устанаўленьня ўзаемных абавязкаў паміж органамі Наркомасьветы і профсаюзамі.

Зьмест і сама форма заключаных дагавароў у бягучым 29-30 г. павінны быць перагледжаны і карэнным чынам перабудаваны.

Трэба адзначыць, што гэтае пытаньне зьяўляецца новым і амаль што не абгавораным у масах і асабліва ў профсаюзах.

Другая ўсебеларуская нарада па ліквідацыі няпісьменнасьці выказалася за тое, каб, замест існуючых, распыленых па саюзах, ведамствах і пэрыфэрыі ўмовах, заключыць генэральную ўмову НКА з ЦСПСБ і другімі організацыямі.

Гэтая ўмова ў асноўным павінна прадугледзець узаемныя абавязкі, асабліва з боку профсаюзаў у напрамку найбольшага і актыўнага ўдзелу ў справе выкананьня агульнага пляну ліквідацыі няпісьменнасьці. Патрэбна вызначыць колькасны і якасны склад вылучаных кадраў для гэтай работы, ахоп няпісьменных, месца і практычны ўдзел у правядзеньні грамадзкай, політычнай і культбытавой працы сярод тых, што ліквідуюць сваю няпісьменнасьць і г. д.

Таксама павінен быць прадугледжаны сыстэматычны і сталы контроль з боку профсаюзаў за сваячасовым і поўным выкананьнем асноўнага пляну ліквідацыі няпісьменнасьці, удзел грамадзкасьці ў гэтай справе, устанаўленьне грамадзкага контролю за работаю органаў Наркомасьветы і г. д.

Патрэбна дабіцца таго, каб заключаемыя ўзаемныя ўмовы (альбо атрыманыя дырэктывы) аб удзеле ў ліквідацыі няпісьменнасьці былі шырока абгавораны на сходах, конфэрэнцыях і выходзілі ад саміх рабочых, сяброў профсаюзаў.

Надаць ім (умовам, дырэктывам) грамадзка-політычнае значэньне, прыцягнуць да гэтай справы друк, асабліва мясцовыя, заводзкія і насьценныя газэты.

## II. Удзел комсамолу ў ліквідацыі няпісьменнасьці

Комсамол, будучы ініцыятарам шэрагу гаспадарчых і культурных паходаў і зьяўляючыся застрэльшчыкам у барацьбе за пісьменнасьць, павінен узяць на сябе і ў далейшым гэтую пачэсную ролю: актыўна дапамагаць партыі і савецкай уладзе выканаць пастаўленыя задачы ў справе канчатковай ліквідацыі няпісьменнасьці.

Роля комсамолу ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці палягае, з аднаго боку, у мобілізацыі ўсяе грамадзкасьці на гэтую справу і, з другога—у прыцягненьні да актыўнага практычнага ўдзелу ў ліквідацыі няпісьменнасьці ўсяе масы комсамольцаў і ўсіх ячэек саюзу.

Аб гэтым зусім яскрава кажа пастанова VIII зьезду УсеЛКСМ. Гэтая пастанова абавязвае „кожнага пісьменнага комсамольца (ў горадзе, у вёсцы) навучыць аднаго няпісьменнага", а таксама кожнаму комітэту і ячэйцы ЛКСМ вылучыць упаўнаважанага па рабоце ліквідацыі няпісьменнасьці".

„Організаваць шырокую праверку па ўдзелу ячэек і комітэту саюзу ў ліквідацыі няпісьменнасьці і мобілізаваць грамадзкую ўвагу самых шырокіх мас комсамольцаў і рабоча-сялянскай моладзі навокал гэтай справы".

Правяраючы становішча гэтай работы і ўдзел комсамолу ў ёй у гэтым бягучым годзе, прыходзіцца адзначыць, што вышэйпамянёныя, бязумоўна, важныя і каштоўныя дырэктывы і пастановы зусім дрэнна ажыцьцяўляюцца самім комсамолам, асабліва ў гэтым годзе.

Шэраг фактаў з месц сьведчыць, што большая частка ячэек комсамолу зусім слаба ўдзельнічае ў працы па ліквідацыі няпісьменнасьці. Акруговыя і раённыя комітэты ў большасьці формальна адносяцца да гэтай надзвычайна важнай політычнай задачы.

Наогул патрэбна адзначыць, што пасьля першага пэрыоду (28-29 г.) абвешчанага культпаходу мы назіраем усюды значнае паслабленьне ўвагі і практычнага ўдзелу комсамолу ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці.

У студзені месяцы 1930 г. быў абвешчаны комсамолам 3 месячнік беларускай пролетарскай культуры і культуры нацыянальных меншасьцяй. Гэты трохмесячнік павінен быў зрабіць рашучы пералом ва ўсёй комсамольскай організацыі, павінен быў мобілізаваць максы-

мум увагі і сілы комсамолу і ўсяе грамадзкасьці на справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

У пляне трохмесячніку вызначаўся цэлы шэраг зусім рэальных мерапрыемстваў.

Галоўныя з іх наступныя:

1) „сіламі комсамольскіх організацый і ячэек дадаткова організаваць 500 лікпунктаў, навучыць у індывідуальным парадку 5000 няпісьменных;

2) мобілізаваць 500 лепшых комсамольцаў для работы ў лікпунктах і школах малапісьменных;

3) дабіцца ажыцьцяўленьня лёзунгу, прынятага VIII зьездам УсеЛКСМ, які абавязвае кожнага пісьменнага навучыць аднаго няпісьменнага;

4) правесьці масавы 2 тыднёвік па зборы кніжак і распаўсюджваньню іх сярод лікпунктаў“.

Абвешчаны трохмесячнік павінен быў пераключыцца ў далейшы працяглы вялікі паход комсамолу за пролетарскую культуру, за пісьменнасьць. Аднак, вынікі правядзеньня трохмесячніку сьведчаць аб тым, што комсамол яшчэ не павярнуўся тварам да справы ліквідацыі няпісьменнасьці, што ў далейшым патрэбна чакаць карэннага павароту, актыўнага ўдзелу ў гэтай важнай грамадзкай справе.

На падставе вызначаных 3 месячнікам мерапрыемстваў неабходна дабіцца таго, каб у далейшым кожны комітэт, кожная ячэйка і кожны комсамолец актыўна і штодзённа ўдзельнічалі ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, каб самі выяўлялі ў гэтым максымум ініцыятывы і самадзейнасьці, каб поўнасьцю скарысталі вопыт работы другіх організацый.

Комітэты і ячэйкі комсамолу павінны вылучыць найбольшую колькасьць сваіх добра-пісьменных сяброў як організатараў работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, так і ліквідатараў для работы ў лікпунктах, групах, а таксама і ў індывідуальным парадку.

Неабходна сыстэматычна займацца пытаньнем ліквідацыі няпісьменнасьці, ставіць на сходах, паседжаньнях, нарадах пытаньні аб плянах, аб ходзе гэтай работы і аб удзеле ў ёй комсамолу, праводзіць масавыя агляды работы, шырока прыцягваць усе грамадзкія організацыі да справы ліквідацыі няпісьменнасьці, дапамагчы савецкім органам правесьці дасканальны падлік усіх няпісьменных, організаваць школы, лікпункты і групы.

Лепшай масавай формай правядзеньня работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, па стварэньню грамадзкай думкі і прыцягненьню грамадзкасьці да ўдзелу ў рабоце зьяўляецца організацыя шырокіх добраахвотных ініцыятыўных ударных брыгад, груп ня толькі з комсамольцаў, але і з шырокай масы асьветнікаў, грамадчыкаў і беспартыйнай рабочай, колгаснай і бядняцка-серадняцкай моладзі.

Праз організацыю такіх брыгад, груп патрэбна выклікаць хвалю шырокага разгортваньня соцспаборніцтва паміж ячэйкамі, організацыямі, комсамольцамі ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Асабліва неабходна зьвярнуць увагу на больш актыўны ўдзел комсамолу ў існуючых комісіях садзейнічаньня пры сельсаветах, раённых і акруговых культштабах і г. д., з тым, каб ня толькі быць застрэльшчыкамі, але і ў значнай меры штурхаць, прыцягваць усе астатнія організацыі да справы ліквідацыі няпісьменнасьці.

### III. Т-ва „Прэч няпісьменнасьць“

Т-ва „Прэч няпісьменнасьць“ зьяўляецца масавай грамадзка-політычнай організацыяй, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах шырокія колы рабочых, батракоў, беднякоў, серадняков і савецкую інтэлігенцыю.

Асноўная задача т-ва „ПН“—мобілізаваць, пад кіраўніцтвам партыі, усю савецкую грамадзкасьць на справу ліквідацыі няпісьменнасьці, паставіць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці ў парадку вырашэньня аднае з актуальнейшых задач культурнай рэволюцыі і ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва.

Аб'ядноўваючы ў сваіх шэрагах дзесяткі тысяч працоўных, т-ва „ПН“, як правіла, павінна прыцягнуць кожнага свайго сябра да практычнай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, па агітацыі і

пропагандзе ідэй т-ва „ПН“, па ўцягненьні ў работу сотняў тысяч пісьменных працоўных, па набыцьці неабходных сродкаў, арганізацыі грамадзка-політычнага выхаваньня сярод няпісьменных і малапісьменных і разгортваньні грамадзкай культмасавай працы ў школах, лікпунктах і г. д.

Такім чынам, т-ва „ПН“ сапраўды павінна зьявіцца баявым культштабам, які мобілізуе сотні тысяч працоўных на барацьбу за пісьменнасьць.

Вынікі работы т-ва „ПН“ па ліквідацыі няпісьменнасьці ў мінулым годзе і ўдзел у рабоце ў гэтым годзе паказваюць нам зусім адваротнае.

„Удзел т-ва „ПН“ у справе ліквідацыі няпісьменнасьці ў большасьці характарызуецца ўдзелам паасобных сяброў, у пераважнай большасьці платнага актыву. Асноўная маса т-ва „ПН“ яшчэ ня ўцягнута ў практычную работу. Формы і мэтоды работы т-ва „ПН“ аказаліся не прыстасаванымі да сучаснага рэконструкцыйнага пэрыоду. Яны характарызуюцца сваёй замкнёнасьцю, абмежаванасьцю ўнутры т-ва, орыентацыяй на апарат „ПН“, на вузкі актыў і г. д.“.

Гэтая характарыстыка, даная на II зьезьдзе, у асноўным застаецца правільнай і на сёньняшні дзень, асабліва для беларускага т-ва „ПН“, пачынаючы з самага верху, з цэнтральнага савету „ПН“.

Зусім яскрава адзначае ў сваёй пастанове ЦК УсеКП, што „т-ва „ПН“ праводзіла сваю работу замкнёна, апаратным мэтодам і не змагло організаваць навакол ліквідацыі няпісьменнасьці шырокай грамадзкасьці“.

Разам з гэтым ЦК УсеКП прапанаваў т-ву „ПН“ рашуча перабудаваць мэтоды свае работы, адмовіцца ад комэрцыйнай дзейнасьці, паставіўшы асноўнай задачайператварэньне т-ва ў сапраўды масавую організацыю, якая мобілізуе ўсю савецкую грамадзкасьць на справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

Гэты год зьяўляецца рашучым годам нашай работы. Ён зьявіцца канчатковым політычным экзаменам усяго жыцьця, усяе дзейнасьці т-ва „ПН“ і кожнага яго сябра.

Неабходна дабіцца таго, каб кожная організацыя, кожная ячэйка і кожны сябра ўявілі сабе і пераканалі ўсіх працоўных у вялікай політычнай важнасьці і клясавай сутнасьці задачы ліквідацыі няпісьменнасьці.

У наступны час галоўнай задачай т-ва „ПН“ ЦК УсеКП прызнаў „разгортваньне работы ў вёсцы“.

На абавязку т-ва „ПН“ ляжыць задача перш за ўсё прыцягнуць да практычнай працы кожнага сябра „ПН“, усіх настаўнікаў, вучняў II ступені, тэхнікумаў, ВНУ, усіх пісьменных сяброў профсаюзаў, партыі, комсамолу, рабочых і колгасьнікаў; організаваць усюды шырокія комісіі, культштабы, уцягнуць у іх працу перадавых рабочых батракоў, колгасьнікаў, культармейцаў; стаць актыўным удзельнікам і застрэльшчыкам у організацыі справы ліквідацыі няпісьменнасьці і вырашэньні ўсіх важнейшых пытаньняў, зьвязаных з ёю. Неабходна зрабіць комісіі і ячэйкі „ПН“ і сапраўднымі масавымі організацыямі, якія мобілізуюць усе грамадзкія організацыі, усю савецкую грамадзкасьць, дабіцца таго, каб комісіі зьяўляліся адзіным організуючым, кіруючым і плянуючым цэнтрам усяе працы ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці.

Нізавыя ячэйкі т-ва „ПН“ павінны зьвязацца, асабліва на вёсцы, з усімі культурнымі, політасьветнымі ўстановамі, з школай соцыяльнага выхаваньня ШСМ, профшколамі, тэхнікумамі, хатамі-чытальнямі бібліотэкамі і г. д., з тым, каб зрабіць з іх асноўныя апорныя пункты па організацыі работы ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці.

Гэтыя апорныя пункты павінны адказваць за якасьць працы, яны павінны аказваць практычную організацыйна-мэтодычную дапамогу ў разгортваньні грамадзка-політычнага выхаваньня.

Ячэйкі „ПН“ павінны організаваць на мясцох шырокі грамадзкі контроль за работай па ліквідацыі няпісьменнасьці. Патрэбна прыцягнуць да грамадзкага контролю ФЗМК, сельсаветы, праўленьні колгасаў.

Неабходна пэрыодычна ставіць пытаньні для абгаварэньня гэтай работы на шырокіх рабочых сходах, на сходах колгасьнікаў, на пленумах і прэзыдыумах сельсаветаў, організаваць па-

між школамі, лікпунктамі і самімі вучнямі шырокае социялістычнае спаборніцтва на колькасьць і асабліва якасьць работы.

Разам з правядзеньнем вышэйпералічаных мерапрыемстваў, таксама неабходна організаваць сталы социялістычны падлік аб ходзе ўсяе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

## IV. Роля коопэрацыі ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці

Коопэрацыя, якая аб'ядняе самыя шырокія масы працоўнага насельніцтва і, да таго-ж, мае вялікія матар'яльныя сродкі, ня можа стаяць у баку ад такой важнай палітычнай справы, як ліквідацыя няпісьменнасьці.

Усе віды коопэрацыі павінны на справе прыняць актыўны систэматычны ўдзел у барацьбе за пісьменнасьць сярод працоўнага насельніцтва; дапамагчы органам Нарасьветы, т-ву „ПН“ і грамадзкім організацыям мобілізаваць усю грамадзкасьць, у першую чаргу ўсіх пісьменных сяброў коопэрацыі: вылучыць неабходныя сродкі на ліквідацыю няпісьменнасьці.

Да гэтага часу толькі спажывецкая і саматужна-прамысловая коопэрацыя прымалі некаторы і выключна толькі грашовы ўдзел у справе ліквідацыі няпісьменнасьці. Што датычыцца іншых відаў коопэрацыі, асабліва такіх, як сельскагаспадарчая, жыльлёвая, паляводсаюз і інш., дык яны амаль што ніякага ўдзелу ня прымалі.

ЦК УсеКП прызнаў „недастатковым удзел коопэрацыйных організацый у справе ліквідацыі няпісьменнасьці“ і адзначыў: „адначасова лічыць неабходным забясьпечыць систэматычны ўдзел коопэрацыі ў барацьбе з няпісьменнасьцю, шляхам вярбоўкі няпісьменных у школы, падшуканьня памяшканьняў, фінансаваньня работы, значна павялічыўшы адлічэньні на ліквідацыю няпісьменнасьці з культфондаў“ і г. д.

Аднак, ня гледзячы на такую аўторытэтную пастанову партыі, пры праверцы ходу работы і ўдзелу ўсіх організацый, у лютым месяцы бягучага году ЦК КПБ яшчэ раз адзначыў, што „Белкоопсаюз, Белсельсаюз, Белсампрамсаюз і Белжылсаюз ня выканалі пастановы ЦК УсеКП аб удзеле іх у ліквідацыі няпісьменнасьці як шляхам матар'яльнай дапамогі, так і шляхам мобілізацыі грамадзкасьці навакол гэтай справы.“

Выходзячы з гэтага, ЦК КПБ прапанаваў коопэрацыйным організацыям „неадкладна прыняць удзел у справе ліквідацыі няпісьменнасьці праз мобілізацыю грамадзкасьці і сродкаў“ (адлічэньні 20 проц. ад культфонду).

На вялікі жаль, трэба адзначыць, што і да гэтага часу коопэрацыйныя організацыі не зразумелі ўсяе важнасьці справы ліквідацыі няпісьменнасьці і адказнасьці за выкананьне пастаноў партыі.

Усё гэта патрабуе ад усіх коопэрацыйных організацый сапраўды карэннага пералому ў працы. Перш за ўсё неабходна павярнуцца тварам да справы ліквідацыі няпісьменнасьці, зьмяніць існуючыя погляды і адносіны да гэтай надзвычайна важнай справы.

Неабходна вылучыць з сяброў праўленьняў па ўсёй систэме коопэрацыі адказных за работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, ускласьці на іх абавязак прымаць актыўны ўдзел у працы комісій, культштабаў і г. д. Коопэрацыя павінна аказаць практычную дапамогу органам Нарасьветы ў набыцьці такіх вучэбных прылад, як сшыткаў, і асабліва забясьпечыць іх лямпамі, газай і інш.; дапамагаць у правядзеньні масавых сходаў, конфэрэнцый тых, што навучаюцца, асабліва павінна дапамагаць у культбытавым абслугоўваньні і грамадзка-палітычным выхаваньні праз вылучэньне для гэтай работы коопэрацыйнага актыву, набыцьцё неабходных часопісаў-бібліотэк, газэт і шляхам іншых мерапрыемстваў, у тым ліку па коопэрацыйнай асьвеце.

## V. Саветы і ліквідацыя няпісьменнасьці

Саветы, якія кіруюць усім социялістычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтвам на тэрыторыі сваёй дзейнасьці, павінны стаць плянуючымі, кіруючымі і контролюючымі органамі ва ўсёй рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Гэтая роля сельскіх саветаў у справе ліквідацыі няпісьменнасьці яшчэ больш павялічваецца ў цяперашні пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Сельскія саветы павінны ўцяміць, што без пагалоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод бядняцка-батрацкага і серадняцкага працоўнага насельніцтва зусім немагчыма ажыцьцяўляць палітыку комуністычнай партыі і савецкай улады ў галіне пасьпяховага правядзеньня суцэльнай колектывізацыі ўсіх бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, шпаркага будаўніцтва агро-індустрыяльных комбінатаў, куставых, колектыўных аб'яднаньняў і буйных саўгасаў і колгасаў.

Пры наліччы сотняў тысяч няпісьменных батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі цяжка зламаць супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў, выкарчаваць іх (капіталістычныя элемэнты) з карэньнямі ва ўсёй экономіцы краіны, зьнішчыць кулацтва, як клясу на базе суцэльнай колектывізацыі.

Неабходна паставіць пытаньне ліквідацыі няпісьменнасьці ў цэнтры ўвагі ў штодзённай рабоце кожнага савету і кожнага яго дэпутату.

Аднак, на практыцы ў рабоце саветаў, асабліва сельскіх, мы наглядаем зусім адваротнае. Пераважная большасьць сельскіх саветаў амаль што зусім не займаецца справай ліквідацыі няпісьменнасьці і лічыць гэтую справу самай апошняй, ня маючай важнага значэньня.

Матар'ялы шэрагу досьледаў сьведчаць аб тым, што пытаньні аб ліквідацыі няпісьменнасьці ў большасьці нават ня ставіліся на прэзыдыумах с. саветаў, і што гэтыя саветы ня ведаюць, колькі ў іх есьць школ, лікпунктаў, як яны працуюць і г. д.

Нават дырэктыва ЦВК аб організацыі пры с. саветах спэцыяльных комісій садзейнічаньня справе ліквідацыі няпісьменнасьці ня выканана большасьцю с. саветаў.

У далейшай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, ва ўмовах разгорнутага паходу за пролетарскую культуру, за пісьменнасьць, калі партыя і ўся грамадзкасьць надаюць гэтаму пытаньню выключнае політычнае значэньне, саветы, і асабліва сельскія, „павінны непасрэдна ажыцьцяўляць кіраўніцтва справай ліквідацыі няпісьменнасьці і разгортваць навакол яе шырокую савецкую грамадзкасьць." (З рэзолюцыі ЦК УсеКП).

На саветы ўскладаецца адказнасьць за канчатковае і поўнае вырашэньне пытаньня па абавязковай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод усіх працоўных ва ўзросьце 12-40 год на працягу 30-31 г.

У мэтах найлепшага ажыцьцяўленьня кіраўніцтва, устанаўленьня сыстэматычнага контролю за выкананьнем усімі організацыямі даваемых партыяй і савецкай уладай дырэктыў і прыцягненьня да гэтай справы шырокай савецкай грамадзкасьці, неабходна перш за ўсё пры с. саветах, райвыканкомах і АВК організаваць асобныя комісіі па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Такія комісіі даўно ўжо існуюць у РСФСР, і яны маюць вялікі вопыт у сваёй рабоце.

Асобныя комісіі пры с. саветах, РВК і АВК павінны стаць цэнтрам, організуючым работу па ліквідацыі няпісьменнасьці „ на падставе адзінага пляну, аб'яднаньня сіл і сродкаў і шырокай самадзейнасьці ўсіх організацый, што прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці" (З рэзолюц. ЦК УсеКП).

Гэтыя комісіі павінны складацца, з аднаго боку, з прадстаўнікоў усіх організацый, што прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці, і, з другога—з перадавых, найбольш актыўных рабочых, батракоў, беднякоў, настаўнікаў, якія прымаюць актыўны ўдзел у справе ліквідацыі няпісьменнасьці.

Знаходзячыся пад сталым падвойным контролем грамадзкасьці і партыйна-савецкіх організацый і абапіраючыся на АНА, т-ва „ПН" і грамадзкія організацыі, асобныя комісіі павінны стаць „баявым штабам штодзённага кіраўніцтва работай і праверкі становішча ліквідацыі няпісьменнасьці." (З пастановы IV зьезду па лікв. няпісьменнасьці).

Асаблівае значэньне набываюць гэтыя комісіі яшчэ і таму, што СНК і ЦВК выдалі гісторычную па сваёй важнасьці пастанову пра абавязковую ліквідацыю

няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 45 год на працягу 1931-32 г.

Гэтая пастанова ЦВК і СНК ускладзе на АВК, РВК і сельсаветы цэлы шэраг новых, надзвычайна адказных абавязкаў: організаваць справу так, каб забясьпечыць поўнае выкананьне гэтай пастановы на працягу аднаго году, максымальна разгарнуць сетку школ, лікпунктаў, групавога і індывідуальнага навучаньня.

Згодна з гэтай пастановай прыцягнуць да работы па ліквідацыі няпісьменнасьц пагалоўна ўсіх пісьменных, не пазбаўленых выбарчых правоў; мобілізаваць усе культурныя сілы, усіх пісьменных на гэтую працу.

Неабходна забясьпечыць організаваную сетку дастатковымі бюджэтнымі асыгнаваньнямі, асабліва памяшканьнямі, падручнікамі, прыладамі і г. д.

Устанавіць сыстэматычнае кіраўніцтва, штодзённы контроль за ходам гэтай работы.

Сыстэматычна ставіць пытаньне работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на паседжаньнях, прэзыдыумах, пленумах саветаў і на шырокіх нарадах актыву.

---

**В. Ведрынайціс**

# Саратаўская практыка па лікбезпаходу

У рэконструкцыйны пэрыод ва ўсю шырыню паўстала перад намі пытаньне аб узьняцьці культурнага ўзроўню шырокіх мас працоўных.

Тав. Молатаў на XV зьезьдзе партыі казаў: „без сапраўднага ўзьняцьця культуры мы шпарка пасоўвацца наперад ня можам“. Цяпер, як ніколі, ясна, што някультурнасьць мас зьяўляецца тым, на чым трымаюцца шматлікія недахопы нашай работы.

Задача ліквідацыі няпісьменнасьці — задача політычная, а гэта абавязвае навокал справы ліквідацыі няпісьменнасьці мобілізаваць шырокія масы працоўных, завастрыць грамадзкую ўвагу, ператварыць гэтую справу з вузка габінэтнае ў справу шырокай грамадзкасьці, пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйных організацый.

### Пачатак паходу

Пачатак культпаходу прыпаў на першы год пяцігодкі. Застрэльшчыкамі былі студэнты Саратаўскага комвузу. На аснове практыкі студэнтаў комвузам была распрацавана цэлая сыстэма ліквідацыі няпісьменнасьці, якая вылілася ў „Саратаўскую практыку“.

Бюро Саратаўскага акругкому ЎсеКП(б) 23/VIII-28 г. дае наступную ацэнку прапанаванай комвузам сыстэмы: „Бюро акругкому, ухваляючы прапанаваную комуністычным унівэрсытэтам сыстэму аб поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці ў горадзе Саратаве, лічыць яе цалкам ажыцьцявімай, пры ўмовах вялікага організацыйнага напружаньня, выразнасьці ў рабоце, узмоцненага тэмпу і актыўнага ўцягненьня ў ажыцьцяўленьне пляну ўсіх партыйных, профэсіянальных, грамадзкіх організацый і ўстаноў.

Плян патрабуе аб'яднаньня чыннасьці акр. і гар. АНА, АПН, КСМ, профсаюзаў, коопэрацыі і іншых організацый па ліквідацыі няпісьменнасьці.“

Пачаць работу прышлося з утварэньня адзінага кіруючага цэнтру, у які ўваходзілі-б ня ў якасьці прадстаўнікоў, а падлеглымі дысцыпліне гэтага органу, вылучаныя ад усіх зацікаўленых організацый. Да гэтага рознае прадстаўніцтва вылівалася ў нічога неабавязваючае вольнаслуханьне, якое, на жаль, яшчэ і да гэтага часу перашкаджае рабоце нашых устаноў.

Такі орган быў хутка створаны пры Саратаўскім акрвыканкоме. Ён насіў назву „асобнай комісіі па ліквідацыі няпісьменнасьці“ і складаўся з 13 асоб. У распараджэньне комісіі быў пераданы ўвесь асабовы склад і штаты АНА па ліквідацыі няпісьменнасьці. Акрвыканком

даў заданьне асобнай комісіі скласьці адзіны каштарыс на падставе асыгнаваньняў па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту, а таксама і адлічэньняў па бюджэту грамадзкіх організацый.

15 верасьня 1928 г. Саратаўскі гарсавет выдае пастанову аб утварэньні асобнай комісіі пры гарсавеце.

Гарсавет у сваёй пастанове намячае мэты і задачы асобнай комісіі.

„Для ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў горадзе Саратаве ўтварыць асобную часовую комісію пры Саратаўскім гарадзкім савеце. У сваёй рабоце АКК абапіраецца на партыйную, савецкую, профэсіянальную і комсамольскую грамадзкасьць. Ліквідатарамі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці могуць быць грамадзяне, якія не пазбаўлены выбарчых правоў, і маюць веды ў межах ня менш курсу сямігодкі.

Уся работа па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці будуецца на прынцыпе тэрыторыяльнай організацыі і комплектаваньні школ.

Перад комісіяй стаяла ясная задача у мінімальныя тэрміны цалкам ліквідаваць няпісьменнасьць у горадзе Саратаве.

Такім тэрмінам спачатку было вызначана 1 мая 1929 г., але, ня гледзячы на вялізарныя дасягненьні, ліквідацыю няпісьменнасьці прышлося працягнуць да 1 мая 1930 г.

Для пасьпяховага правядзеньня ліквідацыі няпісьменнасьці трэба было дакладна ведаць, колькі няпісьменных ёсьць у горадзе. Апроч гэтага, паўстала пытаньне аб зьнішчэньні раз на заўсёды гэтага зла. Вызначаны Наркомасьветы г. зв. дэкрэтаваны ўзрост ад 16 да 35 г. поўнасьцю ня вырашаў проблемы ліквідацыі няпісьменнасьці. Ня ўсе-ж дзеці ахоплены школай, асабліва на вёсцы. Не абучанае юнацтва зьяўляецца тым рэзэрвам, з якога папаўняецца „дэкрэтаваная" армія няпісьменных. А хіба-ж рабочы, які дасягнуў 35-гадовага ўзросту не павінен умець чытаць кнігу? Таму асобная комісія, прыступіўшы да работы, пераступіла дэкрэтаваныя межы ў той і другі бок, узяўшы на сябе абавязак навучыць яшчэ большую колькасьць няпісьменных, чым гэта меркавалася па дэкрэту.

**Перапіс няпісьменных і малапісьменных**

Організацыя і правядзеньне перапісу няпісьменных былі ўскладзены на асобную комісію лікбезпаходу пры гарсавеце. У Саратаве знаходзіцца 223.046 жыхароў. Перапіс такой вялікай колькасьці насельніцтва патрабаваў нямала затрат сіл і сродкаў, калі гэта праводзіць выключна сіламі паасобных ведамстваў. Апроч таго, работу па перапісу абавязкова трэба было скончыць у бліжэйшы тэрмін, інакш нельга пачаць плянамернай работы па лікбезпаходу. Цікава пазнаёміцца з асноўнымі момантамі пляну правядзеньня перапісу.

З 25 жніўня па 10 верасьня праводзілася выключна падрыхтоўчая работа: раёнаваньне гораду на паасобныя вучасткі, друкаваньне блянкаў, вылучэньне прадстаўнікоў ва ўстановах, выпрацоўка інструкцый і г. д. З 5 верасьня, побач з падрыхтоўчай работай, была пачата кампанія па ўцягненьню добраахвотных рэгістратараў, якія карысталіся ў дні перапісу аднэй толькі ільготай—бясплатным праездам на трамваі. Для правядзеньня перапісу, галоўным чынам, вербаваліся вучнёўская моладзь і студэнцтва. У ноч з 21 на 22 верасьня быў пачаты перапіс сярод жыхароў начлежак, заезных двароў, вогзалаў, прыстаняй. Па горадзе перапіс працягваўся тры дні (з 22 па 24 верасьня ўключна). Увесь горад быў падзелены на 6 раёнаў. У кожным раёне засядаў інструктарскі штаб, які заўсёды, пры дапамозе жывой сувязі, інструктаваў рэгістратараў. Для правядзеньня перапісу таксама былі шырока выкарыстаны піонэры. Удзельнікаў для правядзеньня перапісу патрабавалася ў колькасьці 1447 асоб. Уся гэтая армія была мобілізавана на добраахвотных грамадзкіх пачатках. Экзамэн быў вытрыманы. Узброеная армія рынулася ў атаку на векавечную цемру. Армія па правядзеньні перапісу разьмяркоўвалася такім чынам:

1. Горад падзяляецца на 23 інструктарскіх вучасткі.

2. У штабе інструктара ёсьць 1 інструктар, 1 пам. інструктара, 2 запасных рэгістратары, 3 піонэры і па 3 раб. часовыя.

Увесь асабовы склад удзельнікаў перапісу складаўся з наступных адзінак:

| | |
|---|---|
| інструктароў: | 25 |
| пам. інструктароў | 25 |
| лінейных рэгістратараў | 550 |
| запасных рэгістратараў | 75 |
| Усяго | 675 |
| **піонэраў:** | |
| у рэгістратараў | 550 |
| інструктароў | 207 |
| пры ЦКП. | 15 |
| Усяго | 772 |

Агульны лік удзельнікаў роўны 1447 ас. Перапіс даў поўны малюнак аб памерах няпісьменнасьці.

Калі пісьменных разьмеркаваць па полу, дык сярод мужчын было пісьменных 75,1 проц., а сярод жанчын—толькі 58,3 проц. Такім чынам, процант няпісьменных даходзіць да 41,7 проц. з агульнае колькасьці жанчын ва ўзросьце вышэй 8 год. Вялікі процант няпісьменных выявіўся сярод дзяцей, якія павінны быць ахоплены школай соцвыху.

Вынікі перапісу перавысілі ўсе меркаваньні ў дачыненьні памераў няпісьменнасьці. Гэта дало повад для некаторых варожых выступленьняў супроць намечанай задачы. Праўда, гэта былі адзіночныя, па большасьці скрытыя, выступленьні некаторых абвеяных спакойнай дрымотай устаноў і організацый. Пярэчаньні зводзіліся да наступнага: 1) адкуль узяць людзей, якія будуць займацца з дзесяткамі тысяч няпісьменных і малапісьменных; 2) адкуль узяць сродкі, патрэбныя для ліквідацыі няпісьменнасьці; 3) дзе разьмясьціць дзесяткі тысяч вучняў няпісьменных пры сучасным жыльлёвым крызісе і з прычыны немагчымасьці разьмясьціць іх па школьных памяшканьнях?

Зразумела, чакаць дапамогі няма адкуль. Адзіным выйсьцем зьяўлялася організацыя грамадзкасьці, стварэньне грамадзкае думкі навокал справы лікбезпаходу, мобілізацыя мас на барацьбу з някультурнасьцю.

### Мобілізацыя мас і парткіраўніцтва

Для ажыцьцяўленьня пляну ліквідацыі няпісьменнасьці патрабавалася організацыя грамадзкае ўвагі. Сутнасьць гэтае мобілізацыі палягала ня толькі ў тым, каб прыцягнуць пяцітысячную армію культармейцаў, але і прымусіць няпісьменных, пры дапамозе грамадзкага ўзьдзеяньня, наведваць школы. Мы добра ведаем, што дзякуючы сваёй несьвядомасьці няпісьменныя адмаўляюцца надведваць лікпункты, і таму безстварэньня належнае грамадзкае ўвагі, зьвяртаючыся часта нават да агітацыі за наведваньне лікпунктаў, можна апынуцца перад прарывам, тым больш, паставіўшы задачу ліквідаваць няпісьменнасьць пагалоўна.

Для таго, каб ахапіць усіх няпісьменных і малапісьменных, патрабавалася 3 тысячы школ. Каб нормальна весьці работу ў гэтых школах, трэба было знайсьці ня менш 3.000 ліквідатараў, 500 інструктароў-організатараў, 250 мэтодыстых і лектароў па розных пытаньнях. Бязумоўна, не магло быць і гутаркі аб аплаце ўсіх ліквідатараў ня толькі па тарыфнай сетцы, але і наогул больш-менш памяркоўна. Трэба было разьлічваць на бясплатную армію працаўнікоў, якія палічылі-б сваім абавязкам навучыць свайго няпісьменнага брата.

Асобная комісія мобілізавала ўсе сілы дзеля стварэньня грамадзкай думкі вокал лікбезпаходу. Выкарыстоўваліся розныя сходы і пасяджэньні для таго, каб ставіць пытаньні аб лікбезпаходзе. Для прыцягненьня дакладчыкаў былі проста падрыхтаваны шпаргалкі, па якіх рабіліся даклады аб лікбезпаходзе. Аб лікбезпаходзе загаварылі па ўсяму гораду. Культактыў профсаюзаў выносіў цэлы рад пастаноў, якія абавязвалі членаў профсаюзаў прыняць актыўны ўдзел у лікбезпаходзе і наведваць лікпункты. Стварылася цэлая армія працаўнікоў лікбезу, якая перавысіла раней вызначаную лічбу. Да лікбезпаходу была прыцягнута тая частка інтэлігенцыі, якая да гэтага прымала вельмі слабы ўдзел у грамадзкай рабоце.

Ліквідацыя няпісьменнасьці—гэта ня толькі пытаньне аўладаньня тэхнічнымі вавыкамі чытаньня і пісьма. Гэтак вузка пастаўленая задача зьвяла-б ўсю проблему ліквідацыі няпісьменнасьці да вузкага культуртрэгерства. Таму адразу перад асобнай комісіяй стала пытаньне

аб узмацненьні палітычнага выхаваньня ахопленых школамі няпісьменных. Ускладаць асаблівыя надзеі на ліквідатараў не даводзілася. Таму пры штабах былі створаны паасобныя групы лектароў для правядзеньня гутарак на палітычныя тэмы.

Арганізаваную армію трэба было трымаць „пад стрэльбай“, павялічваць яе кадры і папярэджваць выпадкі дэзэртырства, дзеля чаго ўжываліся розныя спосабы грамадзкага ўзьдзеяньня.

З кожнага, хто пажадаў працаваць на лікбезпаходзе, бралася падпіска наступнага зьместу: „я, ніжэйпадпісаны, даю сваю згоду ўступіць у атрад ліквідатараў няпісьменных і малапісьменных у гор. Саратаве, ведаючы, што гэта маральна абавязвае мяне прыняць удзел у рабоце ў школе ў якасьці выкладчыка 6 гадз. у тыдзень—тры разы ў тыдзень па 2 гадзіны ў дзень, з 1 кастрычніка 1928 году па 1 мая 1929 г.“

Вучасткі арганізацыйнай і палітасьветработы былі ўзмоцнены партыйцамі. Аб партыйным складзе культарміі мы можам меркаваць па наступнай табліцы:

Групоўка працаўнікоў лікбезу па характару работы і партыйнасьці.

| ХАРАКТАР РАБОТЫ | Сябры ЎсеКП(б) | Сябры ЎсеЛКСМ | Беспартыйныя | Усяго | У проц. |
|---|---|---|---|---|---|
| Ліквідатары . | 58 | 576 | 1798 | 2432 | 58,8 |
| Організатары . | 206 | 122 | 156 | 484 | 11,7 |
| Мэтодыстыя . | 14 | 7 | 205 | 226 | 5,5 |
| Політасьв. работа . . | 273 | 152 | 465 | 890 | 21,5 |
| Працаўнікі пры штабе . . | 23 | 17 | 63 | 103 | 2,5 |
| Усяго . | 574 | 874 | 2687 | 4135 | 100 |
| | 13,9 | 21,1 | 65 | 100 | — |

Партыйцы, якія ўхіляліся ад лікбезработы, прыцягваліся да партадказнасьці і падлягалі партспагнаньням. Удзел у лікбезпаходзе парторганізацыяй лічыцца як партнагрузка.

У сельсаветах створана такое пачуцьцё адказнасьці, што старшыні сельсаветаў ня менш намаганьняў трацяць на выкананьне контрольных лічбаў па лікбезпаходу, чым па хлебазагатоўках. Я чытаў пастанову сельсавету, дзе пленум сельсавету сам сабе выносіць вымову за невыкананьне контрольнай лічбы па лікбезпаходу і абяцае лічбу выканаць у 24 гадзіны. Гэта да некаторай ступені сьмешна, але характэрна. Адказнасьць за пасьпяховае правядзеньне лікбезпаходу ўскладваецца пэрсанальна на кіраўнікоў партыйных і савецкіх органаў данай мясцовасьці.

Дзякуючы непасрэднаму партыйнаму кіраўніцтву ў Саратаве ўдалося стварыць вялізарную добраахвотную армію па лікбезпаходу.

## Кіраўніцтва лікбезпаходам

Адзін з прынцыпаў Саратаўскага культпаходу—гэта пабудова сеткі па тэрыторыяльнай адзнацы. Увесь горад быў падзелены на 8 раёнаў, раёны—на вучасткі, а вучасткі—на кварталы. З пачатку лікбезпаходу кіраўніцтва ў горадзе концэнтравалася ў руках асобнай комісіі, якая ўрэшце зьлілася з ГарАНА і ператварылася ў штаб культпаходу.

У час утварэньня комісіі (1/IX-28 г.) яна паставіла сабе задачу ліквідаваць няпісьменнасьць да 1 мая 1929 году, але разам з гэтым пашырыла свае задачы, бяручы курс на вялікую палітасьветную работу сярод няпісьменных і малапісьменных. У яе задачу ўваходзілі: а) ліквідацыя тэхнічнай няпісьменнасьці, б) культасьветработа, в) работа па барацьбе з палітняпісьменнасьцю, г) работа па барацьбе з хваробамі быту, д) антырэлігійная пропаганда, е) консультацыйна-бытавая работа. Такая рознастайная па зьместу работа патрабавала рознастайных мэтодаў і форм.

Для сувязі асобнай комісіі з рознымі ўстановамі і організацыямі быў створаны пры комісіі шырокі савет з прадстаўнікоў гэтых устаноў і прадпрыемстваў. Асобная комісія ў сваім складзе мела больш 30 чал.

Комісія абрасла вялікай колькасьцю сэкцый, у якіх адчулася патрэба ў процэсе работы. Асобная комісія зьяўлялася адзіным органам кіраўніцтва, якая ўсю работу ажыцьцяўляе праз свой сэкрэтарыят, сэкцыі і бюро.

Усю работу асобная комісія праводзіць пры дапамозе наступнага апарату: а) сэкрэтарыят асобнай комісіі, б) сэкцыя навучальная, в) сэкцыя політасьветы, г) сэкцыя агітацыйна інформацыйная і друку, д) сэкцыя організацыйна-разьмеркавальная, д) сэкцыя грашовых спраў і справаздачнасьці, ж) сэкцыя матар'яльнага забесьпячэньня, з) сэкцыя кватэрная, і) сэкцыя сувязі, к) рэдакцыя газэты для малапісьменных, л) консультацыйнае бюро.

Па колькасьці членаў сэкцыі разьмяркоўваюцца такім чынам: 1) сэкцыя грашовых спраў—8 асоб, 2) навучальна-мэтодычная—11 асоб, 3) забесьпячэньня—4 асобы, 4) політасьветы—16 асоб, 5) консультац.—13 асоб, 6) агітдруку—15 асоб, 7) організацыйна - разьмеркавальная—7 асоб, 8) сувязі—3 асобы, 9) кватэрная—5 асоб, 10) інформацыйна-статыстычная—6 асоб.

Такая вялізарная махіна на першы погляд можа паказацца непатрэбнай, але на справе гэта было неабходна. Праўда, у процэсе работы некаторыя сэкцыі адмерлі, як сэкцыі пры асобнай комісіі, але іх функцыі і зьмест работы перайшлі ўніз аж да квартальнага ўпаўнаважанага.

Пяройдзем упаасобку да вызначэньня функцыі кожнага органу, створанага пры асобнай комісіі.

Сэкрэтарыят асобнай комісіі фактычна зьяўляецца апаратам ГарАНА, які вядзе ўсю організацыйна-координуючую работу па заданьню старшыні.

Навучальная сэкцыя організуе мэтодычнае кіраўніцтва ўсяе работы, складае навучальныя пляны, організуе курсы, інструктуе ліквідатараў, прыцягвае мэтодыстых, вядзе падлік работы.

Політасьветная сэкцыя організуе лекцыі, даклады, экскурсіі, концэнтруе ў сваіх руках усю політасьветработу Пры сэкцыі ўтвараецца 5 бюро:

а) бюро політпропаганды;
б) бюро антырэлігійнай пропаганды;
в) бюро аздараўленьня быту;
г) бюро экскурсійнае;
д) бюро клюбна-мастацкае.

Перад агітацыйна-інформацыйнай сэкцыяй стаіць задача вядзеньня сыстэматычнай работы па ўцягненьню няпісьменных і малапісьменных у вучобу. Гэта робіцца пры дапамозе друку, шляхам організацыі кампаніі, выданьня бюлетэняў і г. д.

Сэкцыя організацыйна-разьмеркавальная, якая ў сучасны момант носіць назву мобілізацыйнай сэкцыі, мобілізуе кадры і разьмяркоўвае іх па раёнах.

Фінансавая сэкцыя адшукоўвае сродкі, складае і выконвае каштарысы, вядзе справаздачнасьць і сочыць за рацыянальным выкарыстоўваньнем сродкаў. Мы бачым, што гэта быццам звычайная, але і ў той-жа час нязвычайная фінчасьць, да функцый якой далучаецца адшуканьне грамадзкіх сродкаў.

Сэкцыя матар'яльнага забясьпечаньня набывае, захоўвае і разьмяркоўвае ўсё навучальнае абсталяваньне.

Кватэрная сэкцыя адшукоўвае неабходныя для заняткаў памяшканьні.

Дзеля вядзеньня першапачатковага вучоту і сувязі школы з вучастковымі інструктарамі у раёнах організуюцца сэкцыі сувязі.

Як відаць, кожная з сэкцый мае пэўныя і вызначаныя задачы. Усе яны, за выключэньнем некаторых, і надалей існуюць пры штабах па асобных паходах. Праз гэтыя сэкцыі ў работу лікбезпаходу ўцягваюцца вялізарныя масы працаўнікоў на добраахвотных пачатках, якія пры ўмелым выкарыстаньні даюць вялікія вынікі ў сваёй рабоце.

Такім самым чынам будуецца работа і ў нізавых зьвеньнях.

Для поўнага малюнку трэба прывесьці схэму структуры раённага апарату, якая нязначна зьмянілася ў процэсе культпаходу.

Гарадзкая комісія ў раёне прызначае раённага інструктара-організатара, яго намесьніка і інструктара-мэтодыста. Раённы інструктар-організатар організуе ўсю работу ў раёне, а таксама кіруе і контролюе яе. Аб сваёй рабоце ён робіць справаздачу перад гарадзкой асобнай комісіяй.

Пры райорганізатару ўстанаўляецца раённы савет у складзе прадстаўнікоў партыйных, грамадзкіх і профэсіянальных організацый. Савет склікаецца не радзей 1 разу ў 3 м-цы.

Райорганізатар, калі патрэбна, склікае ў сваім раёне нарады і конфэрэнцыі, вядзе вучот школ і груп раёну, разьмяркоўвае працаўнікоў і г. д.

На інструктару-мэтодыстым ляжыць організацыя мэтодычнай дапамогі.

Раён падзяляецца на вучасткі, у якіх вядуць работу вучастковыя організатары і інструктары. Толькі такім чынам організаваўшы работу, удалося ахапіць тыя вялізарныя масы, якія накіраваліся супроць няпісьменнасьці. Старыя формы габінэтнага кіраўніцтва зыйшлі на нішто, патанулі ў хвалях грамадзкасьці. Апарат аброс цэлай арміяй добраахвотных культпрацаўнікоў. Асобныя комісіі пераварыліся ў штабы, якія сталі на чале масавага руху. Яны потым гэтак і пачалі звацца. І сапраўды, калі зайсьці ў вучастак лікбезпаходу, зараз жа адчуваеш рэволюцыйныя тэмпы, баявую абстаноўку. Глядзіш—маленькі пакойчык, набіты народам, сярод людзей цяжка адрозьніць організатара. Як можна інакш назваць тых, якія працуюць у кутку на стругальных скрынках, як не штабам? А ў Саратаве адзін паход зачапіў другі, і лёд крануўся. За лікбезпаходам пацягнуўся дашкольны паход, пасьля—бібліотэчны, санпаход, аграпаход на вёсцы і г. д. Для новых паходаў патрабаваліся новыя штабы, і паўстала пытаньне аб рэорганізацыі ўсяго апарату.

У процэсе культпаходу, які разгарнуўся, паўстала пытаньне аб поўнай рэорганізацыі ўсіх кіруючых органаў. З практыкі лікбезпаходу стала відавочна, што апаратным шляхам, дырэктывапісаньнем справіцца з разгорнутым культпаходам ні ў якім разе нельга. Пачалі зьяўляцца нават нездаровыя тэндэнцыі аб ліквідацыі савецкага апарату ў галіне народнае асьветы. Гэта, бязумоўна, крайнасьць, якой быў сваячасова даны адпор.

Падставы, на якіх базаваўся лікбезпаход, ясна падказвалі, што органы народнае асьветы павінны базавацца на шматлікіх дапаможных ячэйках добраахвотнікаў—культармейцаў, якія несьліб тыя ці іншыя абавязкі ў організатарскай і мэтодычнай рабоце.

У першую чаргу на новыя рэйкі перабудаваўся ГарАНА, які зьмяніў сваю назву на штаб культпаходу. Пачаліся перабудоўвацца апараты ў другіх раёнах, асабліва апарат тых раёнаў, дзе прайшла суцэльная колектывізацыя.

Узьнік проект перабудовы ўсіх органаў народнай асьветы ў краёвым маштабе. Згодна гэтага проекту, уся работа разьбіваецца на паходы: лікбезпаход, аграпаход, дашкольны паход, бібпаход, тэхпаход, школьны паход і цэлы рад паходаў, якія ў далейшым могуць узьнікнуць. На чале кожнага паходу стаяў штаб.

Выходзячы з прынцыпу будаўніцтва культработы па паходах, у гарсавет па культпаходу прыцягваецца цэлая армія рабочых. У савеце культбудаўніцтва павінна быць каля 1100 членаў. Кожнае прадпрыемства ад 300 абіральнікаў пасылае аднаго выбарнага ў культсавет. Гэты выбарчы актыў, прасеяны праз сіта грамадзкасьці, вядзе культработу ва ўсіх галінах. Кожны нясе якую-небудзь функцыю работы, у залежнасьці ад здольнасьці. Такім чынам, перш чым трапіць ў культсавет і пасьля—на кіруючыя месцы, трэба быць правераным шырокай рабочай грамадзкасьцю. Кіраваць культпаходам могуць толькі тыя, якія маюць дастатковыя організатарскія здольнасьці, якія выявілі сябе ў процэсе работы. Магчыма, што да гэтага часу тыя, якія сядзелі ў апаратах АНА, будуць нядольнымі для гэтай работы, і шэраг саратаўскіх прыкладаў красамоўна аб гэтым сьведчыць. Але замест іх зьяўляюцца новыя, вылучаныя пролетарскай грамадзкасьцю, організатары, якія ідуць з самых нізоў.

Савет культпаходу склікаецца чатыры разы ў год. Уся бягучая работа праводзіцца штабамі паасобных паходаў, якімі кіруе выканбюро савету, якое абіраецца на пленуме, у складзе 15-17 асоб. Выканбюро зацьвярджаецца пленумам гарсавету.

Бязумоўна, гэтыя проекты будуць мець тыя ці іншыя папраўкі, але асноўны прынцып, прынцып уцягненьня грамадзкасьці будзе захаваны ва ўсіх яго зьменах.

### Мэтодычнае кіраўніцтва

Большасьць з уцягненых у армію ліквідатараў упяршыню браліся за навучаньне грамаце. Аб знаёмстве з мэтодамі навучаньня няма чаго і казаць. У горадзе яшчэ да некаторай ступені была захавана норма ведаў для ліквідатараў—„ня менш сямігодкі“, але і то да некаторай ступені. Асабліва на ўскраінах абавязкі ліквідатараў несьлі куды менш пісьменныя. Зусім іншы малюнак атрымліваецца на вёсцы. Там стаіць пытаньне, што сіламі адных настаўнікаў ні ў якім выпадку нельга будзе справіцца з пастаўленымі перад сабой задачамі. Больш мэтазгодна настаўніка выкарыстаць у якасьці арганізатара-мэтодыстага, які асабіста кіруе ўсёй арміяй пісьменных сялян. Таму паўстала пытаньне аб узмоцненым мэтодычным кіраўніцтве, арганізацыі асабістага інструктажу.

Асабліва вялікія задачы паўсталі перад краёвай мэтодычнай комісіяй і лікбезгабінэтам. Пры кожным штабе былі створаны мэтодычныя сэкцыі, у кожным вучастку прызначаны інструктар-мэтодысты.

Першапачатковая база мэтодычнага кіраўніцтва—гэта апорная школа. У гэту школу звычайна прызначаецца мэтодычна больш моцны выкладчык, які „не сказам, а паказам“ дапамагае ў рабоце лікпунктаў данага вучастку. Працаўнікі лікпункту прыходзяць знаёміцца з мэтодамі выкладаньня, дзе імі зараз жа, пасьля праведзенае лекцыі выкладчыкам базавай школы, даюцца тлумачэньні аб праведзенай лекцыі і на пытаньні, якія ўзьнiклі ў процэсе работы саміх ліквідатараў.

Кожныя 5-10 ліквідатараў абслугоўваюцца пры дапамозе вучастковых інструктароў-мэтодыстых. Яны робяць абсьледваньне і інструктаж працаўнікоў на месцах, улічваюць работу апорнай школы для перанясеньня яе практыкі ў іншыя школы данага вучастку. У раённым маштабе мэтодычнай работай кіруе мэтодычная сэкцыя пры штабе. У раёне звычайна ёсьць адзін штатны працаўнік мэтодыст. На раённага інструктара-мэтодыста ўскладзена кіраўніцтва мэтодычнай работай на вучастках, вучот мэтодычнай работы. Раённы інструктар склікае вучастковых інструктароў, вядзе абсьледваньне школ.

У сёлах і вёсках мэтодычнае кіраўніцтва ажыцьцяўляецца праз раённыя мэтодбюро, якія цяпер ператварыліся ў сэкцыі пры штабах паасобных паходаў.

Уся нізавая мэтодычная работа будуецца на непасрэдным асабістым інструктажы. Поўны малюнак нізавой мэтодычнай работы мы ўбачым з ніжэйпрыведзенага статуту базавай школы.

### Статут базавай школы

1. Для правядзеньня сыстэматычнага вуснага праз паказ кіраўніцтва мэтодычнай работай усіх школ у раёнах арганізуюцца базавыя школы.

2. Базавая школа зьяўляецца мэтодычным цэнтрам для прымацаваных да яе школ і груп.

3. Пры базавай школе організуецца школьны савет у складзе настаўніка базавай школы, вучастковых мэтодыстых, настаўнікаў прымацаваных школ і гурткоў, выбарных прадстаўнікоў ад вучняў і вучастковых організатараў. Старшыня школьнага савету – пэдагог апорнай школы.

4. Школьны савет організуецца ў мэтах коордынаваньня работы паасобных настаўнікаў, вучоту памылак і дасягненьняў і колектыўнага абмеркаваньня іх.

5. Кіраўніцтва прымацаванымі школамі і групамі базавая школа ажыцьцяўляе праз: а) непасрэдны паказ пэдагогічнага процэсу (на лекцыях) і разбор з працаўнікамі школ і груп; б) вусны інструктаж усіх працаўнікоў, якія прыходзяць; в) нарады з прымацаванымі да школы працаўнікамі-выкладчыкамі; г) праз вучастковага мэтодыста, прымацаваннага да апорнай школы, які наведвае ліквідатараў вучастку і ўсе пытаньні вырашае з пэдагогам апорнай школы.

6. Базавая школа кіруе работай па комплектаваньню школ і груп свайго вучастку.

7. Базавая школа ў сваёй рабоце падпарадкуецца раённаму мэтодысту.

8. У раённай нарадзе і ў раённых гарконфэрэнцыях базавая школа прымае абавязковы ўдзел.

9. Апорная школа організуе насьцен-газэту вучняў ня толькі свае школы, але і прымацаваных да яе школ і груп, ствараючы аб'яднаны гурток сьценкораў і аб'яднаную рэдколегію (газэта абыходзіць усе гурткі і групы, прымацаваныя да апорнай школы).

10. Апорная школа організуе правядзеньне палітычных і грамадзкіх кампаній і вечароў ня толькі для свае школы, але і для прымацаваных да яе груп і гурткоў, узгадняючы гэтую работу з політыка-асьветнай сэкцыяй.

11. Усе працаўнікі базавых школ удзельнічаюць у рабоце мэтодычнага аб'яднаньня пры габінэце ліквідатара, чэрпаючы адтуль матар'ял для работы і інструктажу на месцы.

Увага. Уся організацыйная работа па вучастках праводзіцца райорганізатарам праз вучастковых організатараў.

* * *

Вялікую і сьпешную работу прышлося правесьці з усёй мобілізаванай арміяй. Гэта было дасягнута шляхам правядзеньня кароткатэрміновых курсаў. Самыя доўгія па сваёй працягласьці курсы падрыхтоўкі ліквідатараў—гэта 2 месячныя для татарскага і мардоўскага насельніцтва. Іншыя курсы праводзіліся ў вельмі кароткія тэрміны, як курсы-конфэрэнцыі.

Па навучальнаму пляну акруговых месячных курсаў для падрыхтоўкі апорных ліквідатараў на грамадзка-політычны цыкль адводзіцца 20 гадзін, організацыйныя пытаньні—34 гадзіны, мэтодыку ліквідацыі няпісьменнасьці—70 гадзін, мэтодыку ліквідацыі малапісьменнасьці—62 гадз., політасьветцыкль—15 гадзін, усяго—199 гадзін. Курсантам шмат часу адводзіцца для самастойнай прапрацоўкі. З 199 гадзін на самастойную прапрацоўку адводзіцца 129; 34 гадзіны ідуць на лекцыі, гутаркі і 38 гадзін—на конфэрэнцыі.

Спэцыяльныя курсы-конфэрэнцыі былі праведзены і з іншымі працаўнікамі лікбезпаходу. Для некаторых працаўнікоў лікбезу проста прачытвалася некалькі дакладаў інструкцыйнага характару.

На такія курсы-конфэрэнцыі з організатарамі школ было адведзена 12 гадзін; для організатараў політасьветработы—24 гадзіны; інструкцыйнай нарады організатараў лекцыйнай работы—6 гадзін, нарады організатараў экскурсійнай работы—4 гадз.; курсаў бібліотэчных працаўнікоў—20 гадзін; курсаў дашкольных працаўнікоў—16 гадзін; інструкцыйнай нарады працаўнікоў рэдколегіі насьцен-газэт—6 гадзін; організатараў клюбнай самадзейнасьці—6 гадзін. Дзякуючы гэтым курсам удалося культармейцам бегла і павярхоўна азнаёміць з асноўнымі пытаньнямі будучай работы, але практыка паказала, што пры добра організаванай мэтодычнай дапамозе атрымліваюцца добрыя вынікі.

Для змаганьня з рэцыдывамі няпісьменнасьці выдаецца пэрыодычная газэта „Вперед". Гэта газэта ўяўляе сабою вельмі вялікую цікавасьць. Яна толькі тым розьніцца ад усіх нашых газэт, што друкуецца буйным шрыфтам і падбіраецца матар'ял у вельмі даступным для малапісьменных выкладаньні.

Сярод вучняў была шырока разгорнута політасьветработа. Для політасьветработы былі вылучаны спэцыяльныя кадры культармейцаў. Для чытаньня лекцый была мобілізавана профэсура. Лекцыямі было абслужана 85 тысяч асоб. У гарадзкіх школах быў уведзены політчас, для правядзеньня якога было спэцыяльна вылучана 460 партыйцаў. Пленум краёвага савету профсаюзаў адзначыў, што культпаход прайшоў без дастатковага ўдзелу політасьветаў. Той жа пленум адзначае, што саюзныя клюбы прымаюць вельмі малы ўдзел у паходзе. Ня глядзячы на паасобныя выпадкі бюрократычных адносін непасрэдна заінтэрэсаваных ў разгортваньні політасьветработы організацый і ўстаноў, удалося разгарнуць масавае політыка-асьветнае абслугоўваньне вучняў у горадзе, чаго нельга сказаць у дачыненьні да вёскі.

Добра ўдалося паставіць у Саратаве антырэлігійную работу. Усе програмы і выданьні зварочваюць вялікую ўвагу на

антырэлігійную пропаганду, увязваючы яе з грамадзка-політычнымі, агрономічнымі і прыродазнаўчымі тэмамі.

Сыстэматычная работа праводзілася кожную нядзелю. Масавыя лекцыі, даклады і экскурсіі на антырэлігійныя тэмы наведвалі кожны тыдзень ад 1500 асоб да 2000. Сярод вучняў было організавана 112 антырэлігійных гурткоў, якія ахапілі каля 1500 вучняў. Мне самому давялося быць сьведкай таго, як на конфэрэнцыі курсантак-дашкольніц, выключна хатніх гаспадынь, жонак рабочых і служачых, было ўзьнята пытаньне аб тым, каб адну з цэркваў аддаць пад дашкольную ўстанову. Прапанова была прынята, і я ўпэўнены, што гэтыя хатнія гаспадыні куды лепш правядуць збор подпісаў сярод жанчын, чым гэта рабілася-б з боку іншых.

У кожным раёне працавала вольнаслухацкае бюро па розных пытаньнях. На працягу году было праведзена 3 тысячы экскурсій з удзелам 48 тысяч асоб. Вялізарная маса вучняў была прапушчана не дармова праз кіно, тэатры і гэтак далей.

Па падліку ўсе гэтыя мерапрыемствы па гораду павінны былі-б абыйсьціся ў два мільёны рублёў, а па краю—у 350 мільёнаў рублёў. Зразумела, што такія асыгнаваньні ні краёвы, ні рэспубліканскі бюджэт ня змог-бы даць. Гэта ўсё было дасягнута толькі дзякуючы організацыі шырокіх мас працоўных.

Але лікбезпаход сам собою не абмежаваўся, ён пацягнуў за сабою цэлы шэраг іншых паходаў. З перапісу вучняў відаць, што ²/₃ вучняў—гэта жанчыны, якіх к дому прывязваюць дзеці. Зараз жа паўстала пытаньне аб організацыі дзіцячых пакояў на час заняткаў матак на лікпунктах. За пакоямі пайшлі дзіцячыя сады, і зноў, шляхам організацыі сіл і сродкаў пачынаецца дашкольны паход. Месца дашкольніц займаюць праслухаўшыя некалькі інструкцыйных дакладаў жанчыны. Шмат хто працуе зусім бясплатна, чаргуючыся адзін з адным. На чале ўсяго дашкольнага паходу стаіць штаб па тэй самай схэме, што і ў лікбезпаходзе. На вёсцы шырока разгортваецца агропаход, пачынаецца тэхпаход у горадзе і цэлы шэраг іншых паходаў. На чале кожнага паходу стаіць свой штаб. Агульнае кіраўніцтва ажыцьцяўляецца саветамі культпаходу. У самым паходзе былі і адмоўныя бакі, якія цалкам затушоўваюцца дасягнутымі вынікамі.

Галоўным чынам на вёсцы і часткова ў горадзе была слаба пастаўлена політасьветработа. У некаторых месцах, дзе слабое парткіраўніцтва і нявысокае політычнае разьвіцьцё працуючых у культпаходзе, былі тэндэнцыі ўсю работу зьвесьці да культурніцтва. Але гэтыя памылкі паступова выпраўляліся, хоць з пастаноўкай політзаняткаў на вёсцы і да гэтага часу ня зусім добра.

Аднак, падводзячы агульныя вынікі практыкі першага году, трэба сказаць, што ўвесь культпаход быў прасякнуты творчай ініцыятывай шырокіх мас працоўных. У гэтым яго посьпехі, якія дасягнуты пры вялікай затраце організатарскай энэргіі з боку партыйных і савецкіх організацый.

**Шляхі адшуканьня сродкаў**

Для правядзеньня ліквідацыі няпісьменнасьці так, як гэта было зроблена ў Саратаве, патрабавалася-б 2.000.000 руб. Асыгнаваньне гарсавету складала 19000 р. Хоць пры наяўнасьці такой сумы добраахвотных ліквідатараў двух мільёнаў і не патрабавалася, але трэба было мець вялікія сродкі для самых простых выдаткаў, як на падручнікі, паперу і інш.

Апроч таго, быў некаторы заўсёды заняты штат у асобе выкладчыкаў апорных школ і мэтодыстых. Узяліся за ўтварэньне адзінага культпаходу і адшуканьне сродкаў з іншых крыніц. Пастановаю адпаведных органаў з культфонду профсаюзаў 20 проц. было адлічана на лікбезпаход. Коопэрацыя таксама прышла на дапамогу. Рэшта сродкаў адшукоўвалася цэлым шэрагам іншых спосабаў: абкладаньне на піва, кіно, тэатр, білеты, нядзельнікі і г. д. Было сабрана 104.704 руб. 51 к.

Некалькі слоў аб падшуканьні памяшканьняў. Для разьмяшчэньня такой вялікай колькасьці вучняў, акрамя школ, патрабаваліся і дадатковыя памяшканьні. Былі створаны спэцыяльныя ячэйкі па адшуканьню памяшканьняў. У першую чаргу вечарамі былі заняты памяшканьні ўстаноў. Некаторая частка займалася групамі на прыватных кватэрах. Так быў вырашаны кватэрны крызіс.

Якія вынікі даў першы год лікбезпаходу? Калі да паходу ў Саратаве сярэдні проц. адсеву вучняў са школ быў 65-70, дык у 1928-29 г. у часе паходу адсеў роўны 8-10 проц. Гэты факт гаворыць аб тым, якую вялізарную ролю адыграла ў гэтых адносінах мобілізацыя грамадзкасьці.

За першы год паходу па Саратаву ліквідавана няпісьменнасьць і малапісьменнасьць сярод 17.104 чал. Па ўсяму краю гэта лічба дасягнула 250.000 чалавек.

---

А. В. Савельлеў

# Культурнасьць сучаснай вёскі[1]

Адным з вельмі яскравых паказальнікаў ступені культурнасьці насельніцтва зьяўляецца разьмер зваротаў яго пры захворваньні за дапамогай да мэдычнага пэрсоналу і ступень даверлівасьці да варажбітак, знахароў, шаптуноў і бабак

Пры высьвятленьні гэтага пытаньня ў часе культурна-бытавога абсьледваньня вёскі Віцебшчыны мы сустрэліся ня толькі з досыць шматлікімі яшчэ выпадкамі сувязі сялянства з варажбітамі і знахарамі, а нават і з выпадкамі, калі ў самай абсьледуемай гаспадарцы былі члены сям'і, якія займаюцца знахарствам. Наяўнасьць знахарства ў нашых вёсках констатавалася і настаўнікамі-удзельнікамі абсьледваньня.

Сетка лекавых устаноў у сельскіх мясцовасьцях акругі досыць густая, каб адсутнасьць лячэбніц і мэдпэрсоналу маглі служыць галоўнай прычынай шырокага ўдзелу варажбітак і знахароў у дапамозе сялянству пры захворваньнях.

З 1558 сялянскіх гаспадарак, якія далі адказ на запытаньне, да каго яны зьвяртаюцца за мэддапамогай пры захворваньні, 1254 гаспадаркі (ці 80,5 проц.) адказалі, што зьвяртаюцца выключна да ўрачоў, лекпомаў і акушэрак, 248 гаспадарак (ці 15,9 проц.) карыстаюцца дапамогай і мэдыцынскага пэрсоналу і знахароў, 42 гаспадаркі (ці 2,7 проц.) шукаюць лекавай дапамогі толькі ў варажбітак, 13 гаспадарак (0,9 проц.) зварочваюцца за мэдычнай дапамогай да ўрачоў, паслугачоў культу і настаўнікаў, а 1 гаспадарка нават паказала, што за дапамогай ідуць альбо да знахара, альбо да папа. Такім чынам з прыведзеных лічбаў мы бачым, што знахары ў вёсцы яшчэ адыгрываюць нямалую ролю (сувязь з імі трымаюць 19,5 проц. абсьледваных гаспадарак), і дапамога мэдработнікаў і сетка лекустаноў яшчэ недастатковыя, бо інакш пайшлі-б да ўрача, а ня шукалі-б мэддапамогі ў настаўніка. Але-ж разам з гэтым трэба констатаваць, што наяўнасьць 80,5 проц. гаспадарак, якія зьвяртаюцца за мэддапамогай выключна да мэдпэрсоналу, гаворыць аб тым, што адбыўся пералом у масах сялянства.

Разглядаючы ступень зварочваемасьці за дапамогай да знахароў паасобных груп сялянства, мы бачым, што найбольшы процант шукаючых мэддапамогі ў асоб не мэдыцынскага складу выяўляецца ў групе А („няпісьменных" гаспадарках), дзе ён даходзіць да 30 проц.; найбольшая сувязь у справах мэддапамогі з урачамі і лекпомамі наглядаецца ў гаспадарках групы Б (92,1 проц.), дзе, паміж іншым, няма ніводнай сям'і, якая-б трымала сувязь выключна з знахарамі і варажбітамі. Зьвяртаюць на сябе ўвагу

[1]) Гл. артыкулы пад загалоўкам „Культурнасьць сучаснай вёскі" ў № 4. і № 5

крайнія групы (пролетарская і дробна-капітал. гаспадарак), якія даюць найменшы процант хворых, што карыстаюцца выключна дапамогай урачоў і іншых асоб мэдпэрсоналу ў вёсцы. 7,9 проц. гаспадарак пролетарскай групы шукаюць лекавай дапамогі ў знахароў, 17,5 проц. зварочваюцца і да ўрача і да знахара і ледзь 71,4 проц. гэтых гаспадарак маюць сувязь выключна з мэдпэрсоналам. Група дробна-капіталістычных гаспадарак толькі ў 72,7 проц. яе карыстаюцца звычайна дапамогай мэдпэрсоналу, 23,4 проц. гэтых гаспадарак зварочваюцца і да ўрачоў і да знахароў і 2,6 проц.—выключна да знахароў.

З усіх абсьледваных намі гаспадарак у працягу 1928-29 г. зьвярталіся за лекавай дапамогай да мэдпэрсоналу 83,3 проц. Гэты процант хістаецца па асобных групах абсьледваных гаспадарак наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| пролетарыят | 63,0 | проц. |
| паўпролетарыят | 71,8 | „ |
| прост. тавараВыт. | 86,2 | „ |
| дробна-капіт. гасп. | 15,4 | „ |

Заслугоўвае ўвагі сярэдняя частата зваротаў да мэдработнікаў за лекавай дапамогай. У сярэднім на 1 гаспадарку ў мінулым гаспадарчым годзе было 6,5 выпадкаў звароту да ўрачоў і лекпомаў, пры чым па групе пролетарскіх гаспадарак мы маем толькі 3,7 зваротаў у год на 1 гаспадарку, а па групе дробна-капіталістычных гаспадарак—9,6 выпадкаў у сярэднім на гаспадарку. З гэтага відаць, што пры параўнаўчай большасьці выпадкаў зваротаў за лекавай дапамогай бядняцкіх гаспадарак да мэдпэрсоналу, заможныя гаспадаркі значна перавышаюць іх сярэдняй колькасьцю зваротаў у працягу году. Побач з гэтым прадстаўляе значную цікавасьць пытаньне аб ступені абслугоўваньня мэдпэрсоналам паасобных груп сельскага насельніцтва дома (хатняя мэддапамога). З матар'ялаў абсьледваньня мы знаходзім, што 17,5 проц. усіх абсьледваных гаспадарак у працягу году наведваліся мэдпэрсоналам. Гэты процант па асобных групах дае значнае хістаньне (ад 5,5 проц. па пролетарскай групе да 26,9 проц. па групе дробна-капіталістычных гаспадарак). Аднак, пры вылічэньні адноснай колькасьці зробленых мэдпэрсоналам наведваньняў сялянскіх гаспадарак для хатняй мэддапамогі, мы знаходзім іншыя суадносіны паміж асобнымі групамі сялянства, якія карыстаюцца гэтай дапамогай, а менавіта наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| пролетарыят | 1,4 | проц. |
| паўпролетарыят | 12,0 | „ |
| простыя тавараВытв. | 79,2 | „ |
| дробн. капіталіст. гасп. | 7,4 | „ |

Гэтыя лічбы характарызуюць дзейнасьць нашых мэдработнікаў у галіне хатняй мэддапамогі ў социяльна-клясавым разрэзе абслугоўваемай імі сялянскай масы.

Тутака трэба мець на ўвазе, што адносна невялікі процант мэдабслугоўваньня дома бядняцкіх гаспадарак тлумачыцца прычынамі экономічнага парадку. Вельмі слабое забесьпячэньне вясковых мэдработнікаў сродкамі перасоўкі часта ставіць пытаньне аб наведваньні хворага на вёсцы ў сувязі з магчымасьцю пераезду да хворага; у той час, калі экономічна больш моцная гаспадарка, якая мае патрэбу ў лекавай дапамозе дома, мае магчымасьць прадаставіць мэдработніку сродкі перасоўкі да месца знаходжаньня хворага, бядняцкая гаспадарка не заўсёды гэтую магчымасьць мае.

Сярэдняя колькасьць наведваньня мэдпэрсоналу хворых у хаце ў сярэднім па ўсіх гаспадарках дае 2,6 наведваньняў у год. Па асобных групах мы маем наступную колькасьць наведваньняў:

| | | |
|---|---|---|
| пролетарыят | 1,5 | проц. |
| паўпролетарыят | 2,8 | „ |
| простыя тавараВытв. | 2,5 | „ |
| дробн. капіталіст. гасп. | 3,3 | „ |

З асобных відаў лекавай дапамогі, якая даецца вясковаму насельніцтву з боку лекавых устаноў і мэдработнікаў, асаблівай увагі заслугоўвае дапамога пры радох. У клопатах аб новым пакаленьні і, галоўнае, у мэтах барацьбы з дзікімі дзедаўскімі прыёмамі дапамогі радзіх, у выніку якой і калечацца маткі і губяцца дзеці, справа дапамогі пры радох ставілася і ставіцца органамі НКАЗ пад асаблівы нагляд. Шырокая тлумачальная работа сярод вясковага насельніцтва,

узмацненьне кадраў мэдработнікаў, асабліва акушэрак у сельскіх мясцовасьцях, радзільнае аддзяленьне ў лячэбніцах і іншыя мерапрыемствы, праведзеныя ў жыцьцё савецкай уладай, не маглі не знайсьці водгуку ў сялянскіх масах.

Зьніжэньне проценту сьмяротнасьці дзяцей ва ўзросьце да аднаго месяца, падзеньне проценту мертванароджаных, значнае зьмяншэньне выпадкаў сьмерці ад радоў зьяўляюцца рэальнымі вынікамі ўсіх гэтых мерапрыемстваў.

Аднак, разглядаючы даныя, якія атрыманы ў выніку абсьледваньня 1929 г., мы бачым, што ў галіне дапамогі радзіхам нам прадстаіць яшчэ нямалая работа.

З 288 радоў, што зафіксаваны ў абсьледваных гаспадарках, 6,9 проц. радоў былі ў лячэбніцах, а 93,1 проц. дома, у сваёй хаце. Прыведзены вышэй процант радоў у лячэбніцах зьяўляецца станоўчым паказальнікам, бо ён значна перавышае процант патолёгічных радоў, і гэта кажа за тое, што і пры нормальных радох сялянства зьвяртаецца ў лячэбніцу.

Аднак, умовы радоў „у сваёй хаце“ кажуць аб нездавальняючым становішчы справы мэддапамогі пры радох па-за лячэбніцай.

Ня кажучы ўжо аб тым, што санітарныя ўмовы вясковых хат, як мы ўбачым ніжэй, мала адпавядаюць мінімальным санітарным умовам, патрэбным пры радох, вельмі важным зьяўляецца пытаньне аб тым, хто-ж дапамагае радзіхам у часе радоў.

Тут мы бачым, што 61,2 проц. выпадкаў радоў у вясковых хатах адбываюцца з дапамогаю вясковых бабак, а каля $^1/_4$ усіх радоў—наогул бяз усякай дапамогі радзіхам. Калі гаварыць, што ў вясковых умовах за мэддапамогай пры радох да ўрача зьвяртаюцца ў большасьці пры складаных выпадках радоў, дык адносны разьмер удзелу акушэрак у справе мэддапамогі сялянцы-радзіхі трэба прызнаць яшчэ вельмі недастатковымі. З 268 выпадкаў радоў дома, толькі ў 31 (ці 11,6 проц.) прысутнічала акушэрка Таксама мала спрыяючым зьяўляецца малюнак дапамогі пры родах, пры разглядзе зафіксаваных абсьледваньнем выпадкаў радоў па социяльна-эканомічных групах. З 41 выпадкаў радоў у бядняцкіх і паўбядняцкіх групах толькі ў адным выпадку мы маем дапамогу радзісе з боку акушэркі, што складае ледзь 2,4 проц., а ў астатніх выпадках пры радох альбо прысутнічалі вясковыя бабкі (58,5 проц.), альбо нікога ня было (39,1 проц.). Тлумачэньне гэтаму нельга шукаць у адноснай велічыні культурнасьці паасобных сялянскіх груп, як і ў пытаньні наведваньня урачоў сялянскіх хат (хатняя дапамога). Тутака адыгрывае першую ролю вялікі радыус урачэбных вучасткаў і слабая забясьпечанасьць іх сродкамі перасоўкі.

Асаблівай увагі заслугоўвае пытаньне аб выдатках сялянскага двара на лячэньне. Ня гледзячы на прыняты ўрадам шэраг рашучых захадаў да забесьпячэньня бядняцка-серадняцкіх пластоў сялянства бясплатнай дапамогай, па даным абсьледваньня мы знаходзім, што ў 1928-29 г. 58,2 проц. гаспадарак, якія зварочваліся за лекавай дапамогай да мэдпэрсаналу, трацілі грошы на куплю лекаў і 17,8 проц. на аплату мэдработнікаў.

Кожная з абсьледваных гаспадарак, якая купляла лекі, выдаткоўвала на гэту справу ў сярэднім 5 р. 65 к., што складае ў сярэднім на ўсе ахопленыя абсьледваньнем сялянскія двары 2 р. 73 к. Гэты разьмер выдаткаў значна хістаецца па асобных групах: з 1 р. 92 к. на бядняцкую гаспадарку да 8 р. 88 к. на дробна-капіталістычную гаспадарку.

Прынцып бясплатнасьці лекавай дапамогі, якая павінна аказвацца сялянству, таксама фактычна ня вытрымліваецца. Пэўна, што выпадкі аплаты сялянамі ўрача, акушэркі грашыма зьяўляюцца выключнымі, і гэтая аплата ў большасьці носіць характар падзякі „натурай“—яйкамі, салам, малаком і г. д., аднак, у грашовым выразе гэтыя выплаты прадстаўляюцца ў сумах, якія перавышаюць нават выдаткі на здабыцьцё лекаў. Так, у сярэднім на кожную з гаспадарак, якая карысталася дапамогай мэдпэрсоналу ў 1928-29 г., выдатак на аплату мэдпэрсоналу складае 6 р. 73 к. Па „няпісьменных“ гаспадарках (група „А“) гэтая сума ўзрастае да 8 р. і па гаспадарках групы „Б“ зьніжаецца да 6 р. 28 к.

Апошняе асабліва паказальна: нават гаспадаркі, у склад якіх уваходзяць члены партыі ці КСМ, гаспадаркі перадавога сялянства, і тыя робяць гэтыя выдаткі.

У сярэднім на ўсе ахопленыя абсьледваньнем гаспадаркі выдаткі на аплату мэдпэрсоналу складаюць 99 к., пры чым па групе паўпролетарыяту гэтая сума зьніжаецца да 37 к., а па дробна-капіталістычных гаспадарках даходзіць да 3 р. 62 к.

Цікава адзначыць, што з 46 гаспадарак пролетарскай групы, якія зварочваліся за мэддапамогай да ўрачоў і іншых асоб мэдпэрсоналу, ніводная не рабіла выдаткаў на іх аплату.

Як было сказана вышэй, колькасьць гаспадарак, якія карыстаюцца дапамогай знахароў і бабак меншая за тых, якія зварочваюцца да мэдработнікаў. Пры высьвятленьні пытаньня аб тым, у што абыходзіцца гэтая лекавая дапамога сялянству, мы сустрэліся з шэрагам выпадкаў, калі гаспадары ўхіляліся ад дачы гэтых зьвестак, і адказ на запытаньне аб разьмерах выдаткаў на знахароў далі ледзь 45,6 проц. гаспадароў, што мелі ў 1928-29 г. справу з знахарамі, бабкамі ды інш. асобамі ня мэдычнага пэрсоналу пры захворваньнях. Выдатак гаспадаркі, якая карысталася лекавай дапамогай, акрамя мэдработнікаў, на аплату асоб, аказаўшых гэтую дапамогу, у сярэднім складае 2 р. 81 к. Па гаспадарках, якія ня маюць пісьменных членаў сям'і (група „А"), гэты выдатак дасягае ў сярэднім 3 р 40 к. Па гаспадарках пролетарскай групы, якія не выдаткоўвалі нічога на аплату мэдпэрсоналу, на гэтую мэту ў сярэднім прыпадае выдатак у су..е 80 к. Значны выдатак нясе група паўпролетарскіх гаспадарак (5 р. 83 к.), якая ў гэтым стаіць побач з групай дробна-капіталістычных гаспадарак, што трацяць у сярэднім 5 р. 33 к. на гаспадарку.

Нарэшце трэба спыніцца на сувязі сялянства з органамі і работнікамі вэтэрынарыі.

Пераканаць сялянства ў значнай розьніцы паміж лячэбнай дапамогай жывёле вэтэрынарамі і канавалами і знахарамі больш цяжка, чым у справе дапамогі пры захворваньнях людзей. Аднак і тутака мы маем значны зрух.

Па ахопленых абсьледваньнем гаспадарках зварочваньне сялянства да вэтэрынараў і частата гэтага звароту прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Групы гаспадарак | Проц. гаспадарак, якія зьвярталіся да вэтработнікаў у 1928-29 г. | Колькасьць зваротаў да вэтработнікаў у сярэднім на 1 гаспадарку |
|---|---|---|
| Усе гаспадаркі . . . | 47,3 | 2,4 |
| А . . . . . . . . | 38,2 | 1,8 |
| Б . . . . . . . . | 52,8 | 2,6 |
| Пролетарыят . . . . | 24,7 | 1,6 |
| Паўпролетарыят . . | 31,6 | 2,1 |
| Простыя таваравытворцы . . . . . . | 50,6 | 2,4 |
| Дробн. капіталістычныя гаспадаракі . | 57,7 | 3,0 |

Памянёны вышэй пералом у адносінах да вэтпэрсоналу, такім чынам, мы бачым па ўсіх групах сельскага насельніцтва. Некаторую павольнасьць тэмпу зьмен гэтых адносін трэба аднесьці ня столькі да коснасьці сялянства, колькі да недастатковай густаты сеткі вэтустаноў і малой, параўнаўча, колькасьці вэтработнікаў.

II

Пераходзячы да пытаньня аб ступені ўжываньня прымітыўнейшых санітарна-гігіенічных звычак сялянствам Віцебшчыны, перш за ўсё трэба сказаць, што гэтае пытаньне не зьяўлялася прадметам досьледаў і вывучэньня ў стары час, а паасобныя досьледы ў пасьлякастрычнікавыя гады[1]) рабіліся пры вельмі нязначнай колькасьці об'ектаў.

„Дасьледчыкі" дарэволюцыйнага часу характарызавалі беларускае сялянства (у тым ліку і сялянства Віцебшчыны), як узор неахайнасьці, аднак з усіх абсьледваных гаспадарак мы не знайшлі, ніводнай, у якой гігіену цела не прызнавалі-б, дзе мыцьцё цела ў лазьні ці дома ня лічылася-б бясспрэчнай неабходнасьцю. 97,9 проц. усіх апытаных

[1]) Д-рам Магілеўчыкам і д-рам Казанскай.

гаспадарак мыюцца ў лазьні і 2,1 проц.—дома. Больш паловы сялянскіх сямей (52,1 проц.) мыюцца ў лазьні (ці дома) два разы ў месяц узімку, каля ¼ часткі (24,6 проц.)--па 4 і больш разоў у месяц і толькі 1,5 проц. сямей мыюцца ў сярэднім менш 1 разу ў месяц узімку.

Зьмена нацельнай бялізны па сваёй частаце перавышае наведваньне лазьні (ці мыцьцё цела дома). Так, у сярэднім па ўсіх абсьледваных гаспадарках мы маем проц. сямей, якія ў зімовы месяц:

| | менш 1 разу | 1 раз | 2 разы | 3 разы | 4 і больш разоў |
|---|---|---|---|---|---|
| мыюцца ў лазьні ці дома | 1,5 | 10,4 | 52,1 | 11,4 | 24,6 |
| мяняюць бялізну | 0,5 | 3,8 | 51,4 | 12,3 | 32,0 |

Штодзённае ўмываньне ўваходзіць цьвёрда ў быт сялянскай сям'і. Зараз мы маем па абсьледваных гаспадарках 3,4 проц. сем'яў, дзе штодня яшчэ ня мыюцца. Цікава адзначыць, што па асобных групах гаспадарак мы маем у заможнай групе проц. гаспадарак, дзе члены сем'яў ня мыюцца штодзённа, значна больш за сярэдні (3,8 проц.).

Нельга не заўважыць і самыя спосабы ўмываньня. Трэба констатаваць, што найбольш негігіенічны прыём умываньня—„цераз рот"—займае яшчэ вялікае месца: 21,4 проц. усіх абсьледваных гаспадарак ужываюць гэты прыём умываньня; нават і ў экономічна-моцнай групе (дробна-капіт. гаспадаркі) мы нагляддаем 11,9 проц. гэтакіх гаспадарак. Скарыстаньне рукамыйніка мае найменшае распаўсюджаньне (у сярэдн. 12,8 проц. усіх гаспадарак); агульная міска, як прыбор для ўмываньня, знаходзіцца ў 33,4 проц. гаспадарак, і 32,4 проц. гаспадарак скарыстоўваюць для ўмываньня конаўку, з якой паліваюць рукі і твар.

Мыцьцё рук перад ядою зараз ужо мае шырокае распаўсюджаньне. Сярод апытаных гаспадарак знойдзена толькі 9,4 проц. такіх сямей, дзе ня мыюць рук перад ядою. Па гаспадарках групы „Б" гэты процант зьніжаецца да 3,8 проц.; наадварот, у „няпісьменных" гаспадарках групы „А" процант сем'яў, дзе перад ядою ня мыюць рук, дасягае 14,5. Але-ж у большасьці мыюць рукі бяз мыла; мыюць рукі з мылам толькі ў 12,3 проц. Процант тых, што мыюць рукі з мылам, па гаспадарках групы „Б" дасягае 20,9 проц., і, наадварот, у групе няпісьменных гаспадарак (гр. „А") гэтакіх мы знаходзім толькі 5,5 проц.

Найбольш яскравым паказальнікам зьяўляецца колькасьць мыла, якая скарыстоўваецца сям'ёю. Гэтае пытаньне ў шэрагу выпадкаў выклікала цяжкасьці для апытваемых гаспадароў, якія не маглі досыць дасканала ўспомніць, колькі фунтаў мыла было выдаткавана ў працягу году ў гаспадарцы, і ў гэтых выпадках адказ не запісваўся. У выніку, з абсьледваных 1627 гаспадарак мы маем больш-менш дасканалыя адказы па 1597 гаспадарках.

У сярэднім па ўсіх групах гаспадарак мы маем выдаткі мыла ў 15½ фунтаў на сям'ю ў год.

Па даных абсьледваньня сялянскіх бюджэтаў [1]), беларуская сялянская сям'я ў сярэднім скарыстоўвае ў год 12,86 ф. мыла. Калі заўважыць, што бюджэтнае абсьледваньне ахапіла пераважна серадняцкія і серадняцка-заможныя групы, і што 1928-29 год, у якім адбывалася наша абсьледваньне, зьяўляўся годам асаблівай напружанасьці сялянскага бюджэту, дык трэба прызнаць, што нават за апошнія гады ў шырокія колы сялянства больш моцна ўваходзіць разуменьне неабходнасьці ўжываньня прымітыўнейшых гігіенічных звычак.

Па ўсіх абсьледваных у 1929 г. гаспадарках мы знаходзім 18,4 проц. сем'яў, скарыстаньне мыла ў якіх перавышае 2 ф. у месяц, 24,6 проц. гаспадарак скарыстоўвае ад 1 да 2 ф. у месяц, 32,6 проц.—ад ½ ф. да 1 ф. і, урэшце, да ½ ф. у месяц скарыстоўвалі 24,4 проц. абсьледваных гаспадарак.

Паказаны вышэй сярэдні разьмер скарыстоўваньня мыла (15,5 ф. у год) вельмі хістаецца па асобных групах гаспадарак. Так, у групе „няпісьменных"

---

1) „Статыстычны штогоднік 1925-26 г.", выд. ЦСУ БССР, 1928 г.

сем'яў (група „А“) гадавы выдатак мыла амаль што на палову меншы сярэдняга (8,7 ф.), а група перадавога сялянства (гр. „Б“) ў сярэднім скарыстоўвае 19,2 ф. мыла ў год. Таксама ў гр. „А“ больш паловы гаспадарак (52,3 проц.) скарыстоўвае ў месяц менш 1/2 ф. мыла і амаль 5,6 проц. сем'яў гэтай групы скарыстоўваюць больш 2 ф. у месяц; з другога боку, па гр. „Б“ мы маем толькі 14,8 проц. гаспадарак, сярэдні месячны выдатак мыла якіх не перавышае 1/2 ф., і, наадварот, проц. сем'яў, якія выдатковаюць больш 2 фунтаў мыла ў месяц, даходзіць да 29.

Калі заўважыць, што паказаная колькасьць мыла ў сялянскай сям'і скарыстоўваецца і на ўмываньне, і на мыцьцё ў лазьні, і на мыцьцё бялізны, гэтую колькасьць мыла трэба прызнаць вельмі невялікай. Пры гэтым важна адзначыць, што 62,5 проц. усіх гаспадарак ня ўжываюць мыла пры штодзённым умываньні, пры чым па гаспадарках групы „А“ гэты % даходзіць да 81,8, а па групе „Б“ зьніжаецца да 37,7 проц. Зьяўляецца характэрным, што эканамічна-моцная група дробна-капіталістычных гаспадарак мае ў сваім складзе 46,2 проц. сем'яў, якія штодзённа ня ўжываюць мыла для ўмываньня.

Галоўнымі выкарыстальнікамі мыла пры ўмываньні зьяўляюцца дзеці школьнага ўзросту, моладзь і дарослыя ва ўзросьце да 40 год. Старыя, амаль што ўсе, мыла пры ўмываньні ня ўжываюць.

Ступень замацаваньня санітарна-гігіенічных звычак у сялянскім быце яшчэ зусім нязначная. Так, напрыклад, карыстаньне усіх членаў сям'і адным ручнікам мы маем амаль што ва ўсіх сем'ях. Нават і ў эканамічна-моцнай групе (дробна-капітал. гаспад.) толькі 9 проц. гаспадарак маюць некалькі ручнікоў для карыстаньня паасобнымі членамі сям'і. Гэтае зьявішча мае ў нашых умовах вялікае значэньне, асабліва ў сувязі са значным разьвіцьцём трахомы ў акрузе.

У 61,5 проц. гаспадарак, якія ахоплены абсьледваньнем, у часе яды стол нічым не накрываецца, у 4,8 проц. гаспадарак—накрыты цыратаю і толькі 1/3 частка (33,7 проц.) сем'яў накрывае абедзены стол абрусам у часе сьняданьня. Разглядаючы гэтыя паказальнікі па асобных групах, нельга ня спыніцца на групе дробна-капіталістычных гаспадарак, дзе проц. сем'яў, якія нічым не накрываюць стол у часе сьняданьня, дасягае 52,6 проц., у той час, як эканомічна больш слабая група „Б“ дае толькі 46,6 проц. такіх гаспадарак.

Даныя абсьледваньня паказваюць на зрух, які пачаўся ў справе пераходу ад яды з агульнай міскі да індывідуальнай талеркі. Яшчэ зусім нядаўна гэты вельмі негігіенічны від сьняданьня ўсяе сям'і з аднэй агульнай міскі наглядаўся ва ўсіх сялянскіх сем'ях. Зараз ужо мы маем магчымасьць канстатаваць, што перадом зроблены, і ў сярэднім ад яды з агульнай міскі адмовілася каля 9 проц. сялянскіх гаспадарак.

Найбольшы проц. сем'яў, якія сьнедаюць з аднэй міскі, мы маем па групе „няпісьменных“ гаспадарак (97,3 проц.), найменшы—па групах дробна-капіталістычнай (75,6 проц.) і паўпралетарскай (81,1 проц.).

Умовы ночнага адпачынку сялянскай сям'і далёка не задавальняюць мінімальных запатрабаваньняў гігіены. Толькі 91,1 проц. усіх абсьледваных гаспадарак наогул маюць у хаце ложкі, і амаль што ніводная сям'я ня мае ложкаў па колькасьці членаў сям'і. Процант сем'яў, якія маюць ложкі ў пралетарскіх і паўпралетарскіх групах значна ніжэй паказанага вышэй процанту (пралетарск.—74,0 проц., паўпралетарск.—80,6 проц.), але і ў эканомічна-моцнай групе (дробна-капіт. гаспад.) 2,6 проц. гаспадарак зусім ня мае ложкаў. Як месца для сну скарыстоўваюцца і падлога, і палаткі, і лавы, і печ.

8,1 проц. гаспадарак скарыстоўваюць падлогу замест ложку, пры гэтым мы маем выпадкі сну на падлозе асобных членаў сялянскага двара па гаспадарках бядняцкай групы звыш чым у 19 проц. сем'яў, па паўпралетарскай групе—у 11,2 проц. сем'яў і па заможнай групе—у 9 проц. сем'яў. Найменшую колькасьць выпадкаў скарыстаньня падлогі для сну мы знаходзім па групе простых таваравытворцаў (6,9 проц.).

У 13,8 проц. усіх абсьледваных гаспадарак паасобныя члены сям'і сьпяць на палатках. У найбольшай ступені палаткі замяняюпь ложак у бядняцкіх гаспадарках.

Скарыстоўваюцца для снулавы у 9,5 проц. усіх гаспадарак.

Найбольш шырока скарыстоўваецца, як месца для сну, печ. Па усіх групах гаспадарак у сярэднім у 86,7 проц. сялянскіх сем'яў асобныя члены двара сьпяць на печы. Гэты процант па асобных групах дае невялікія адхіленьні, за выключэньнем дробна-капіталістычных гаспадарак, у групе якіх проц. двароў, што скарыстоўваюць печ, як месца для сну, дасягае толькі 65,4 проц.

Зразумела, ні печ, ні вузкая лава, ні палаткі і тым больш падлога ня могуць лічыцца здавальняючымі месцамі для сну з санітарна-гігіенічнага пункту погляду. Таксама нездавальняюча вырашаецца пытаньне і аб тым, чым накрываюцца ў сялянскай хаце ў часе ночнага адпачынку. Тут мы бачым, што коўдрамі накрываюцца ў часе сну толькі менш чым у 1/3 частцы гаспадарак (30,4 проц.), амаль што такая-ж колькасьць гаспадарак замест коўдраў скарыстоўвае верхнюю вопратку (галоўным чынам кажухі); 35,3 проц. сялянскіх сем'яў накрываюцца і верхняй вопраткай і коўдрамі, а некаторая частка сялянства (3,8 проц.) замест коўдраў ужывае гунькі, якія ў большасьці аднaчасова скарыстоўваюцца як палавікі, а ў асобных выпадках як папоны.

Разьмеры ўжываньня тых ці іншых рэчаў для таго, каб накрывацца ў часе сну, па асобных групах гаспадарак стаяць у непасрэднай сувязі з экономічнай моцнасьцю сялянскіх двароў. Так, коўдрамі накрываюцца ў пролетарскай групе 15,1 проц. гаспадарак, а па групе дробна-капіталістычных гаспадарак—палова (50 проц.), коўдрамі і верхняй вопраткай пролетарск. групе—20,4 проц. гаспадарак, у дробна-капіталістычнай—35,9 проц.; але-ж накрываюцца толькі верхняй вопраткай у групе пролетарскай 64,4 проц., а ў заможнай—каля 14,1 проц. Апошні паказальнік, паміж іншым, вельмі характэрны для групы дробна-капіталістычных гаспадарак, і экономічна-моцныя гаспадаркі ня лічаць патрэбным забясьпечыць свой ночны адпачынак больш лепшымі з гігіенічнага боку ўмовамі.

Асаблівую цікавасьць мае пытаньне гігіены пры даглядзе за грудны́мі дзяцьмі. Пэўна, абсьледваньне 1929 г. гэтае пытаньне закранула вельмі мала, і яно было пастаўлена толькі ў разрэзе высьвятленьня рэчаў, якія скарыстоўваюцца, як соскі для грудных дзяцей. У выніку абсьледваньня 334 сялянскіх сем'яў, дзе былі грудныя дзеці, мы знаходзім, што больш паловы апошніх (56 проц.) маюць гумавыя соскі, 4,8 проц. карыстаюцца саском ад кароўяга вымені і больш чым 1/4 дзяцей (25,4 проц.) ссуць жвачку праз анучку. Апошнія лічбы кажуць, што і ў гэтай галіне ня ўсё добра.

У заключэньне трэба сказаць, што пры наяўнасьці зруху ў справе павялічэньня санітарна-гігіенічных звычак у сялянскай сям'і, мы павінны констатаваць, што ў бліжэйшыя часы перад намі стаіць вялікая работа ў галіне санасьветы. Патрэб у гэтым стане яшчэ больш яскравай, калі мы азнаёмімся з жыльлёвымі ўмовамі сялянскай сям'і.

## III

У абсьледваньні культурна-бытавога становішча вёскі Віцебшчыны разьдзел, які ахаплівае пытаньне жыльлёвых умоў, зьяўляецца найбольш складаным. Ён патрабуе асаблівай увагі, дакладнага вымеру плошчы і г. д. Прымаючы пад увагу, што пры недастаткова ўважлівым запаўненьні гэтага разьдзелу формуляр абсьледваньня мог няправільна выявіць увесь малюнак стану тае ці іншай хаты, апрацоўка гэтага матар'ялу рабілася асабліва асьцярожна, і ў выніку было ўзята ў апрацоўку апісаньне толькі 1435 сялянскіх хат (87 проц. усіх ахопленых абсьледваньнем).

Калі мы падзелім усе апісаныя пры абсьледваньні сялянскія хаты па часу іх будоўлі на чатыры адрэзкі: 1) да кастрычніка, 2) пасьля кастрычніка і да 1922 г., 3) з 1922 г. да 1926 г. і 4) апошнія тры гады—1927-29 г., дык атрымаем наступны малюнак:

Хаты, пабудаваныя да рэволюцыі складаюць 47,5 проц., пабудаваныя з 1917 па 1921 г., 19,1 проц.; за час з 1922 па 1926 г.—24,1 проц. і з 1927 па 1929 г.—9,3 проц. З гэтага бачым, што першыя пяць год пасьля рэволюцыі далі значны ўздым вясковага жыльлёвага будаўніцтва, дзякуючы лёгкасьці атрыманьня лесу. Наступныя пяць год (1922-26 г.), якія характарызуюцца найбольш моцным тэмпам хутарызацыі акругі, далі яшчэ большую колькасьць нанова пабудаваных хат. Апошнія тры гады, калі мы бачым больш цьвёрдую лінію ў справе забесьпячэньня будаўнічай драўнінай і больш уважлівы падыход да выдаткаваньня лесу, мы маем значнае падзеньне проценту вясковага жыльлёвага будаўніцтва.

Удзел паасобных сацыяльна-экономічных груп у гэтым будаўніцтве прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Час пабудовы жылых хат | % будынкаў, якія пабудаваны гаспадаркамі. Групы: Пролетарыяту | Паўпролетарыяту | Простых тавара-вытворцаў | Дробна-капіталістычн. |
|---|---|---|---|---|
| Да 1917 г. . . . . . | 3,5 | 11,2 | 79,3 | 6,0 |
| З 1917 па 1921 г. . . | 4,4 | 13,5 | 78,1 | 4,0 |
| З 1922 па 1926 г. . . | 4,9 | 9,6 | 81,4 | 4,1 |
| З 1927 па 1929 г. . . | 7,5 | 17,9 | 70,9 | 3,7 |

Тут мы бачым, што ўдзел бядняцкіх груп у агульным росьце вясковага жыльлёвага будаўніцтва ўвесь час узрастае, пры чым у апошнія тры гады гэтая група ў агульным будаўніцтве займае проц., які ў $1^1/_2$ разы перавышае процант папярэдняй пяцігодкі. Серадняцкая група гаспадарак, якая дасягнула ў пэрыод 1922—26 г. максымальнага ўдзелу ў агульным будаўніцтве (81,4 проц.) у апошнія гады крыху прыпыняе свой уздым; заможная дробна-капіталістычная група гаспадарак таксама ў гэты пэрыод дае зьніжэньне ў сваім удзеле ў жыльлёвым вясковым будаўніцтве.

Тэмп забесьпячэньня паасобных груп гаспадарак у пасьлярэволюцыйны час жыльлёвымі будынкамі выяўляецца ў наступных лічбах процантных суадносін хат кожнай з социяльна-экономічных груп, якія пабудаваны ў працягу прынятых намі 4 адрэзкаў часу:

| Год пабудовы | Пролетарыят | Паўпралетарыят | Простыя тавара-вытворцы | Дробна-капіталістычныя гаспадаркі |
|---|---|---|---|---|
| Да 1917 г. . . . . . | 38,1 | 44.7 | 47,8 | 57,7 |
| З 1917 па 1921 г. . . | 19,0 | 21,8 | 18,9 | 15,5 |
| „ 1922 „ 1926 „ . . | 27,0 | 19,4 | 24,9 | 19,7 |
| 1927-29 г. . . . . . | 15,9 | 14,1 | 8,4 | 7,1 |
| Разам . . | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Такім чынам, мы бачым, па-першае-значнае павялічэньне жыльлёвых бу, дынкаў у пасьлярэволюцыйны час па ўсіх групах і, па-другое, падзеньне тэмпу новых пабудоў заможнай групай сялянства, што зьявілася як вынік першых мерапрыемстваў па націску на кулацкую частку вёскі.

Калі ўзяць нанова пабудаваныя пасьля рэволюцыі сялянскія хаты дзьвюма крайнімі социяльна экономічнымі групамі і вылічыць сярэдні ў год проц., які прыпадае на прынятыя намі тры пэрыоды пасьля 1917 г., дык атрымліваем наступнае:

| Пэрыоды часу | У сярэднім у год будавалася да ўсяе колькасьці нанова пабудаван. хат: Гаспадаркамі пролетарскай групы (у проц.) | Дробна-капіталістычнымі гаспадаркамі (у проц.) |
|---|---|---|
| З 1917 па 1921 г. . | 6,1 | 7,5 |
| „ 1922 „ 1926 „ . | 8,7 | 9,3 |
| „ 1927-29 г . . . | 8,6 | 5,5 |

У часы грамадзянскай вайны пролетарскім пластом сялянства нельга было шмат клапаціцца аб палепшаньні жыльлёвых умоў, аб павялічэньні колькасьці жыльлёвых будынкаў; у гэты-ж час больш моцная група пачынае разгортваць новае жыльлёвае будаўніцтва і ў часы НЭП'у вельмі значна павялічвае колькасьць новых будынкаў; у пасьляваенны час узмацняецца будаўніцтва бядняцкай групай і з вельмі нязначным зьніжэньнем працягваецца ў апошнія

тры гады; адваротны процэс назіраецца па групе дробна-капіталістычных гаспадарак, дзе разьмер новага жыльлёвага будаўніцтва за 1927-29 г. дае рэзкае зьніжэньне.

Характэрным для розных пэрыодаў будоўлі вясковых хат зьяўляюцца іх разьмеры. Па ўвайшоўшых у падлік абсьледваных 1434 сялянскіх хатах, мы маем у сярэднім на адну хату наступныя разьмеры агульнай і жылой плошчы:

| У ХАТАХ ПАБУДАВАНЫХ | Сярэдня-агульная плошча падлогі | Сярэдняя-жыльлёвая плошча |
|---|---|---|
| Да 1917 г. . . . . | 89,2 кв. арш. | 78,4 кв. арш. |
| З 1917 па 1921 г. . | 93,4 „ „ | 82,9 „ „ |
| „ 1922 „ 1926 „ . | 92,1 „ „ | 81,9 „ „ |
| У 1927 29 г. . . . | 86,4 „ „ | 77,0 „ „ |
| У сярэднім па ўсіх хатах . . . . . | 90,4 кв. арш. | 80,0 кв. арш. |

Такім чынам, у сярэднім па ўсіх жыльлёвых будынках зараз мы маем у параўнаньні з дарэволюцыйным часам павялічэньне і агульнай плошчы хат і жылой іх плошчы. Аднак, па паасобных пэрыодах будоўлі мы маем досыць значныя хістаньні. Першыя пяць год пасьля рэволюцыі—гады шырока практыкуемага водпуску дармовага ці вельмі таннага лесу на будынкі—даюць значнае павялічэньне разьмераў будуемых хат. Ужо ў наступныя 5 год разьмеры будуемых хат крыху зьмяншаюцца, пры чым сярэдні, досыць вялікі разьмер і агульнай і жылой плошчы хат, пабудаваных за гэты час, трымаецца за кошт працягу буйнай будоўлі, якая робіцца заможнай капіталістычнай часткай сялянства, што пераживала росквіт НЭП'у. Рэзкае зьніжэньне разьмераў жыльлёвых будынкаў даюць апошнія тры гады, калі ўстанаўленьне цьвердых норм водпуску лесаматар'ялаў, павялічэньне кошту іншых будаўнічых матар'ялаў, а таксама некаторае ўскладненьне экономічнага становішча сялянства, якое зьявілася ў выніку слабых ураджаяў 1928 і 1929 г. г., прымушала сялянства скарочваць свае пляны жыльлёвага будаўніцтва.

Паказаная вышэй сярэдняя жыльлёвая плошча сялянскай хаты (80 кв. арш,) значна хістаецца па хатах гаспадарак паасобных соцыяльна-экономічных груп:

| | | |
|---|---|---|
| Пролетарыят . . . . . | 51,8 | кв. арш. |
| Паўпролетарыят . . . | 59,1 | „ „ |
| Простыя таваравытворцы . . . . . . | 82,6 | „ „ |
| Дробныя капіталістычныя гаспадаркі . . | 113,4 | „ „ |

Пры групоўцы сялянскіх хат па разьмерах іх жыльлёвай плошчы ў межах кожнай соцыяльна-экономічнай групы сялянскіх гаспадарак мы знаходзім наступныя суадносіны:

| ПА ГРУПАХ ГАСПАДАРАК | Усяго хат | У тым ліку з жыльлёвай плошчай | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | да 50 кв. аршын | ад 50,1 да 70 кв. арш. | ад 70,1 да 90 кв. арш. | ад 90,1 да 100 кв. арш. | 100,1 і больш кв. арш. |
| Пролетарыят . . . | 100,0 | 50,8 | 22,2 | 25,4 | 1,6 | — |
| Паўпролетарыят . | 100,0 | 37,1 | 33,0 | 18,8 | 5,3 | 5,8 |
| Простыя таваравытворцы . . . . . | 100,0 | 17,9 | 22,2 | 25,0 | 8,8 | 26,1 |
| Дробн. капіталістычныя гаспадаркі . . | 100,0 | 9,9 | 8,4 | 19,7 | 9,9 | 52,1 |
| Усе групы . . | 100,0 | 21,2 | 22,8 | 24,1 | 8,1 | 23,8 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, якая яшчэ вялікая розьніца паміж хатай бядняцкай і больш заможных груп сялянства. Калі хаты з жыльлёвай плошчай разьмерам менш 50 кв. аршын ў групе дробна-капіталістычных гаспадарак складаюць менш 1/10 часткі, па бядняцкай групе такіх хат больш паловы, і, наадварот, калі заможная група мае больш паловы хат з плошчай звыш 100 кв. арш., па гаспадарках бядняцкай групы, што ўвайшлі ў падлік матар'ялаў абсьледваньня, такіх хат мы не знайшлі.

Сярэдняя вышыня пакояў абсьледваных хат 3,3 арш. Ва ўсіх абсьледваных і ўвайшоўшых у падлік сялянскіх хатах 40,1 проц. маюць сьцены вышынёю ад 2,6 да 3,0 аршын, больш нізкія пакоі знойдзены ў 8,7 проц. хат, астатнія перавышаюць 1 саж. Калі мы паставім гэтыя суадносіны колькасьці хат з пакоямі рознай вышыні з такімі-ж групамі

хат, што пабудаваны да рэволюцыі, дык убачым наступнае:

| Час пабудовы | % хат з вышынёй пакояў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | да 2,5 арш. | ад 2,6 да 3 арш. | ад 3,1 да 3,5 арш. | ад 3,6 да 4 арш. | 4, і больш аршын |
| Да 1917 г. . . . . . | 9,5 | 42,2 | 30,2 | 16,6 | 1,5 |
| З 1917 па 1921 г. . . | 6,6 | 36.9 | 33,2 | 21,2 | 2,1 |
| „ 1922 „ 1926 „ . . | 8,7 | 40,6 | 25,5 | 22,3 | 2,9 |
| „ 1927 „ 1929 „ . . | 8,2 | 35,1 | 29,9 | 26,1 | 0,7 |
| Разам . . | 8,7 | 40,1 | 29,6 | 19,7 | 1,9 |

Будоўля пасьлярэволюцыйных гадоў павялічыла ўдзельную вагу хат з больш высокімі пакоямі, зьменшыўшы адносную колькасьць нізкіх хат.

Узрост патрэбны ў больш добрых жыльлёвых умовах прымушае адмаўляцца ад нізкай хаты. У першыя пяць год пасьля рэволюцыі нізкія хаты з вышынёю сьцен да 2,5 арш. складалі 6,6 проц. усяе колькасьці пабудаваных у гэты пэрыод хат, а з вышынёю сьцен ад 2,6 да 3 арш.—36,9 проц. Тут, зразумела, знайшлі адбітак і таннасьць лесу і шырокія магчымасьці дармовага атрыманьня яго, а роўным чынам і становішча будуючых гаспадарак (серадняцтва і заможныя групы).

У хатах, што пабудаваны ў наступныя пяць год (1922-1926), хаты з вышынёю пакояў да 2,5 аршын займаюць ужо 8,7 проц., з вышынёю ад 2,6 да 3,0 арш. 40,6 проц. У гэтыя гады, побач з бурным тэмпам будаўніцтва серадняцкай і заможнай часткі вёскі, выступае будаўнікам і бедната і слабая частка серадняцтва.

У вясковым жыльлёвым будаўніцтве апошніх трох год мы ўжо наглядаем зноў пералом: значна ўзрастае проц. хат, пабудаваных з вышынёю пакояў ад 3,1 да 4 арш. за лік больш нізкіх хат і будынкаў з вышынёю сьцен больш за 4 арш.

58,5 проц. абсьледваных сялянскіх хат уяўляюць з сябе пакой з вялікай печкай. Процант хат з некалькімі пакоямі мы маем наступны: з 2 пакоямі—31,5 проц., з 3 пакоямі—6,3 проц. і з 4 пакоямі—3,7 проц. Пры гэтым цікава адзначыць, што з хат, пабудаваных да рэволюцыі 62,6 проц. складаюць хаты з 1 пакоем, у той жа час у складзе пабудаваных за апошнія тры гады (1927—1929 год) такія хаты займаюць толькі 56,7 проц.

Усе прыведзеныя вышэй лічбы гавораць аб павялічэньні культурных патрэб сялянства і імкненьні да стварэньня больш лепшых жыльлёвых умоў. Аднак, ня гледзячы на гэта, жыльлёвыя ўмовы сялянства Віцебшчыны з пункту погляду прымітыўнейшых патрабаваньняў санітарыі і гігіены яшчэ вельмі нездавальняючыя.

## IV.

Буйны ўздым жыльлёвага будаўніцтва ў вёсцы, характэрны для пасьлярэволюцыйных гадоў, значна пашырыў жыльлёвую плошчу ў сельскіх мясцовасьцях. Аднак, у працягу апошніх год мы мелі значнае павялічэньне натуральнага прыросту насельніцтва, і ў выніку нельга констатаваць вялікіх палепшаньняў у забесьпячэньні вясковага жыхара жылой плошчай на 1 чалавека.

У сярэднім па ўсіх увайшоўшых у падлік 1434 сялянскіх хатах на кожнага жыхара іх прыпадае 15,1 кв. аршын жылой плошчы. Па разьмерах забесьпячэньня жылой плошчай на 1 жыхара ўсе гэтыя хаты падзяляюцца наступным чынам:

| % хат, якія маюць жылую плошчу на 1 чалав. у разьмеры | | | | |
|---|---|---|---|---|
| да 8-мі квадр. арш. | ад 8,1 да 10,0 кв. арш. | ам 10,1 да 12 кв. арш. | ад 12,1 да 14,0 кв. арш. | 14,1 і больш кв. арш. |
| 15,6 | 9,7 | 12,1 | 9,3 | 53,3 |

Адзначаючы гэтыя нязначныя нормы жыльлёвай плошчы на 1 чалавека і вышэй прыведзеныя даныя аб вышыні пакояў, зараз жа можна сказаць аб нездавальняючай кубатуры паветра, якое падае на 1 вясковага жыхара ў сялянскай хаце.

Па разьмерах кубатуры паветра на 1 чалавека узятыя намі ў падлік 1434

сялянскія хаты з насельніцтвам у іх у 7599 чалавек разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| | | З кубатурай паветра на 1 чалавека | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | да 1 кб. с. | 1, 1—1,5 кб. с. | 1, 6—2,0 кб. с. | Больш 2 кб. с. |
| Колькасьць хат | Абс. . . | 176 | 994 | 252 | 12 |
| | Проц. . | 12,3 | 69,3 | 17,6 | 0,8 |
| У іх насельніцтва | Абс. . . | 1144 | 5446 | 983 | 26 |
| | Проц. . | 15,1 | 71,7 | 12,9 | 0,3 |

З гэтае табліцы мы бачым, што больш-менш чыстым паветрам у хаце карыстаецца наогул вельмі нязначная частка вясковага насельніцтва, але-ж да гэтага трэба дадаць, што больш 80 проц. вясковых хат ня маюць ніякай вэнтыляцыі. Па апісаных 1434 хатах мы маем:

| | | З кубатурай паветра на 1 чалавека | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 1 куб. с. | Ад 1,1 да 1,5 кб. с. | Ад 1,6 да 2-х кб. с. | Больш 2-х кб. саж. |
| Колькасьць хат, якія ня маюць вэнтыляцыі | Абс. . . | 157 | 835 | 176 | 5 |
| | Проц. . | 13,4 | 71,2 | 15,0 | 0,4 |
| У іх насельніцтва | Абс. . . | 1011 | 4501 | 621 | 10 |
| | Проц. . | 16,5 | 73,2 | 10,1 | 0,2 |

Такім чынам 80,8 проц. вясковага насельніцтва жыве пры поўнай адсутнасьці вэнтыляцыі паветра ў хаце.

Слабая забясьпечанасьць большасьці сялянскіх гаспадарак здавальняючымі будынкамі гаспадарчага прызначэньня, у прыватнасьці, досыць цёплымі хлявамі і нізкая сярэдняя тэмпэратура зімовага часу прымушае гаспадароў у найбольш халодныя месяцы зімы трымаць у жылой хаце дробную жывёлу, птушак, а ў выключных выпадках—нават і буйную рагатую жывелу.

Культурна-бытавое абсьледваньне вёскі Віцебшчыны 1929 г. паказала ў выніку што з 1627 ахопленых ім гаспадарак 59,7 проц. у мінулую зіму (1928-29 году) трымалі ў хаце жывёлу ці птушак, пры гэтым жывёла была у сялянскай хаце ўзімку у 15,7 проц., а птушак—ў 56,3 проц. усіх апытаных гаспадарак.

Гэты проц. гаспадарак, якія трымалі ўзімку жывёлу і птушак у жылой хаце, па асобных соцыяльна-эконамічных групах гаспадарак хістаецца наступным чынам:

| Групы гаспадарак | % гаспадарак, якія ўзімку трымалі ў хаце | | |
|---|---|---|---|
| | Розную жыўнасьць | З таго ліку трымалі | |
| | | Жывёлу | Птушак |
| Пролетарыят . . | 72,6 | 21,9 | 71,2 |
| Паўпролетарыят . | 64,6 | 21,4 | 62,6 |
| Простыя таваравытворцы . . . . . | 59,0 | 14,6 | 55,1 |
| Дробн. капіталіст. гаспадар. . . . | 46,2 | 11,5 | 44,9 |

Трэба мець на ўвазе, што год, у які было абследваньне, быў годам выключна халоднай зімы. Гэтым і павінен тлумачыцца паказаны вышэй вельмі вялікі проц. гаспадарак, якія трымалі ў хаце жывёлу. Нават і эканомічна моцныя гаспадаркі дробна-капіталістычнай групы далі за мінулую зіму 11,5 проц. гаспадарак, якія трымаюць жывёлу з-за марозаў у хаце.

У пераліку відаў жывёлы, якую трымалі ў мінулую зіму па хатах у ахопленых абсьледваньнем гаспадарках, мы знаходзім ня толькі цялят, авечак, ягнят і сьвіней (трыманьне якіх у хаце ўзімку досыць звычайнае зьявішча), але і буйную рагатую жывёлу (ў 15 гаспадарках) і коняй (у 3 гаспадарках).

Па памянёных вышэй 1434 сялянскіх хатах умовы жыцьця насельніцтва, якое знаходзіцца ў іх, прадстаўляюцца ў наступным выглядзе:

| Колькасьць насельніцтва | З кубатурай паветра на аднаго чалавека | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да аднаго куб. саж. | | Ад 1,1 да 1,5 куб. саж. | | Ад 1,6 да 2,0 куб. саж. | | Больш 2-х куб. саж. | |
| | Ва ўсіх хатах | У т. л. ня маюць вэнтыляцыі | Ва ўсіх хатах | У т. л. ня маюць вэнтыляцыі | Ва ўсіх хатах | У т. л. ня маюць вэнтыляцыі | Ва ўсіх хатах | У т. л. ня маюць вэнтыляцыі |
| У хатах, дзе ўзімку трымалі жыўнасьць | | | | | | | | |
| Абс. | 779 | 717 | 3465 | 3089 | 426 | 315 | 3 | 2 |
| % | 10,3 | 9,4 | 45,6 | 40,7 | 5,6 | 4,1 | 0,0 | 0,0 |
| У хатах, дзе трымалі і жывёлы і птушак | | | | | | | | |
| Абс. | 186 | 166 | 826 | 785 | 84 | 75 | — | — |
| % | 2,4 | 2,1 | 10,9 | 10,3 | 1,1 | 0,9 | — | — |
| У хатах, дзе трымалі толькі жывёлу | | | | | | | | |
| Абс. | 12 | 12 | 128 | 109 | 5 | — | — | — |
| % | 0,2 | 0,2 | 1,7 | 1,4 | 0,1 | — | — | — |
| У хатах, дзе трымалі толькі птушак | | | | | | | | |
| Абс. | 581 | 539 | 2511 | 2195 | 337 | 240 | 3 | 2 |
| % | 7,7 | 7,1 | 33,0 | 29,0 | 4,4 | 3,2 | 0,0 | 0,0 |

Увага. % па ўсіх графах вылічаны да агульнай колькасьці насельніцтва ўзятых у палік гаспадарак.

З гэтага мы бачым, што наогул невялікая кубатура паветра для 61,5 проц. вясковага насельніцтва ў зімовы час яшчэ памяншаецца ў сувязі з трыманьнем жыўнасьці ў хаце, што санітарнае становішча хат з насельніцтвам, якое складае 16,4 проц. сялянства, ахопленага апісаньнем у 1434 хатах, значна пагаршаецца наяўнасьцю ў хаце жывёлы, і што 14,9 проц. насельніцтва вёскі ўзімку прымушана жыць у хаце без вэнтыляцыі і разам з жывёлай. Таму можна судзіць, наколькі ўмовы зімовага жыцьця ў хатах мала адпавядаюць самым мінімальным патрабаваньням санітарыі і гігіены.

Гэтакія хатнія ўмовы—бруд па закутах хат, нечыстата ложкаў і іншых месцаў для сну, шчыліны ў сьценах унутры хат зьяўляюцца спрыяючай глебай для выплоджваньня розных паразытаў. Па ўсіх абсьледваных гаспадарках толькі 17,9 проц. іх паказваюць аб адсутнасьці ў іх хаце паразытаў. Па паасобных групах найбольшы проц. гаспадарак, у якіх няма ў хаце паразытаў, дае група „Б“ (25,2 проц.), найменшую колькасьць „вольных ад паразытаў“ хат мы знаходзім у групе „няпісьменных“ гаспадарак (группа „А“). Характэрна, што найбольш экономічна-моцная група сялянства (дробна-капіталістычныя гаспадаркі) дае толькі сярэдні проц.—17,9 хат, дзе няма паразытаў, ня глядзячы на тое, што жыльлёвыя ўмовы гэтых гаспадарак куды лепшыя, чым умовы жыцьця сялянства іншых груп.

З розных відаў паразытаў у найбольшай колькасьці хат мы знаходзім клапоў (у 67 проц. усіх абсьледваных гаспадарак); у 53,9 проц. хат ёсьць блохі; наяўнасьць вошай была адзначана ў 30,2 проц. абсьледваных гаспадарак, і, урэшце, у 12,2 проц. хат былі знойдзены тараканы і прусакі.

Тут трэба агаварыцца, што і ў большасьці гаспадарак, якія намі аднесены да групы, што „ня маюць паразытаў“, бязумоўна, апошнія ёсьць, але параўнаўча ў такой невялікай колькасьці, што сяляне не зьвяртаюць на іх увагі.

Наколькі недастатковасьць паветра ў хаце і трыманьне ў ёй жыўнасьці спрыяюць размнажэньню паразытаў, мы можам судзіць па ніжэйзьмяшчаемых лічбах, якія атрыманы ў выніку абсьледваньня 1434 сялянскіх хат. Калі мы возьмем проц. насельніцтва хат, якія маюць паразытаў у адносінах да ўсяе колькасьці насельніцтва хат гэтых груп, дык убачым наступнае:

| | Ва ўсіх апісаных гаспадарках. | У тым ліку ў хатах з кубат. паветра на 1 чал. | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Да 1 кб. саж. | Ад 1,1 да 1,5 кб. саж. | Ад 1,6 да 2 кб. саж. |
| Па ўсіх хатах . . . . | 82,4 | 86,9 | 83,1 | 63,2 |
| У хатах, дзе ўзімку трымалі розн. жыўнасьць | 87,4 | 88,7 | 87,5 | 73,9 |
| У тым ліку: | | | | |
| У хатах, дзе трымалі жывёлу і птушак . . | 97,3 | 100,0 | 96,4 | 89,3 |
| У хатах, дзе трымалі толькі жывёлу . . . | 89,7 | 100,0 | 92,2 | ня было зьявічша |
| У хатах, дзе трымалі толькі птушак . . . . | 84,1 | 84,9 | 84,4 | 71,2 |

З гэтых лічбаў яскрава відаць, наколькі мае ўплыў на наяўнасьць паразытаў у сялянскай хаце трыманьне ў ёй жыўнасьці, і простая сувязь колькасьці паветра з ступеньню распаўсюджаньня паразытаў. Па гэтых жа лічбах можна судзіць, наколькі наяўнасьць жывёлы ў хаце зьяўляецца большым фактарам размнажэньня паразытаў, чым зімоўка ў хаце птушак.

Вельмі нездавальняючым трэба прызнаць і натуральнае асьвятленьне сялянскіх хат Віцебшчыны. Для характарыстыкі размераў асьвятленьня сялянскіх хат усе ўзятыя для падліку 1434 хаты падзелены па нормах коэфіцыенту асьвятленьня на чатыры групы: 1—добрае, з коэфіцыентам 1:10; 2—здавальняючае—1:12; 3—нездавальняючае—1:20 і 4—паўцёмнае і абсолютна няпрыгоднае з пункту погляду санітарна-гігіенічных запатрабаваньняў—1:30.

Пры падзеле апісаных сялянскіх хат па гэтых групах мы маем больш 1/3 усіх хат (34,7 процэнтаў) з дрэнным асьвятленьнем (паўцёмных). Хаты з добрым і здавальняючым асьвятленьнем складаюць 23,1 проц., астатнія—42,2 проц. маюць асьвятленьне нездавальняючае.

Паказаныя суадносіны значна зьмяняюцца ў межах паасобных социяльна-эканомічных груп сялянскіх гаспадарак.

| Коэфіцыент асьвятленьня / Групы гаспадарак | 1:10 | 1:12 | 1:20 | 1;30 |
|---|---|---|---|---|
| Пролетарыят . . . . . | 4,4 | 4,3 | 39,1 | 52,2 |
| Паўпролетарыят . . . . | 6,1 | 7,5 | 39,5 | 46,9 |
| Простыя таваравытворц. | 12,8 | 11,5 | 42,9 | 32,8 |
| Дробн. капіт. гаспадаркі | 24,3 | 12,1 | 39,4 | 24,2 |

Тут мы бачым, што бядняцкая частка вёскі яшчэ жыве ў паўцёмнай хаце, і толькі 8,7 проц. бядняцкіх хат маюць асьвятленьне добрае і здавальняючае.

Аднак было-б няправільна сьцьвярджаць, што вясковае жыльлёвае будаўніцтва пасьля рэволюцыйнага пэрыоду ня мела і ў гэтым пытаньні—асьвятленьня хат-зьмен. Калі мы параўнаем групы ўсіх абсьледваных хат па коэфіцыенту асьвятленьня з тымі, якія былі пабудаваны да рэволюцыі, дык убачым наступнае:

| Коэфіцыент асьвятленьня / Групы гаспадарак | 1:10 | 1:12 | 1:20 | 1:30 |
|---|---|---|---|---|
| Усе ўвайшоўшыя ў падлік 1434 хаты . . . | 12,3 | 10,8 | 42,2 | 34,7 |
| З іх пабудаваныя да рэволюцыі . . . . . . | 10,5 | 7,8 | 38,3 | 43,4 |

З гэтага відаць, што ўдзельная вага паўцёмных хат значна зьнізілася за 12 пасьлярэволюцыйных год, пры чым ня толькі за кошт суседняй групы (з „нездавальняючым“ асьвятленьнем), процант удзелу якой павялічыўся толькі на 3,9 проц., але-ж і за кошт хат з добрым і здавальняючым асьвятленьнем.

Нездавальняючае натуральнае асьвятленьне сялянскай хаты ў зімовы час пагаршаецца яшчэ і ўхутваньнем вокан. У мэтах захаваньня цяплыні ў хаце, да апошніх часоў разьмер вакон усюды быў

вельмі малы. Пры адсутнасьці-ж падвойных рам у 37,2 проц. усіх гаспадарак, з тэй жа мэтай затрымаць цяпло ў хаце 30,3 проц. гаспадарак ухутваюць саломенымі матамі вокны з надворнага боку.

Наколькі распаўсюджана ўхутваньне вакон, мы можам судзіць па наступных лічбах, якія атрыманы ў выніку абсьледваньня 1929 г.

| ГРУПЫ ГАСПАДАРАК | % хат, дзе ўзімку ухутваюць усе ці некалькі вокан | % ахутваемых вокан да ўсяе колькасьці іх у абсьледваных гаспадарках |
|---|---|---|
| Усе . . . . . . . . | 30,3 | 23,0 |
| Пролетарыят . . . . . | 33.8 | 25,3 |
| Паўпролетарыят . . . . | 29,4 | 21,4 |
| Простыя таваравытворц. | 30.6 | 23,3 |
| Дробна-капітал. гаспад. | 26,3 | 20,7 |

З гэтай табліцы відаць, што 1/2, 1/3, а ў іншых месцах і 3/4 сьветавой плошчы вакна захутваецца і таму, унутранасьць хаты амаль што зусім зацямняецца.

Урэшце, нельга ня спыніцца на адным з пытаньняў, якое характарызуе ступень выконваньня сялянствам самых простых патрабаваньняў санітарыі, а уласна, на пытаньні наяўнасьці ў сялянскай гаспадарцы спэцыяльна пабудаванай прыбіральні.

Д-р Казанская, грунтуючыся на мат'яле абсьледваньня беларускай вёскі ў 1924 г., адзначае, што толькі 2 проц. гаспадарак маюць спэцыяльна пабудаваныя для гэтай мэты памяшканьні[1]). Па даных абсьледваньня 1929 г. у Віцебшчыне мы знаходзім, што 83 проц. абсьледваных гаспадарак ня маюць адходнага месца. Трэба адзначыць, што па гаспадарках групы „А“ („няпісьменных“) процант гаспадарак, якія ня маюць спэцыяльнага памяшканьня для прыбіральні, дасягае 92,7 проц. Нават па групе „Б“ гэты процант дасягае 72,3.

Усё сказанае вышэй настойліва высоўвае перад намі пытаньне аб неабходнасьці ўзмацненьня санітарна-асьветнай работы на вёсцы. Імкненьне сялянства да стварэньня лепшых, з пункту погляду санітарыі і гігіены, умоў жыцьця павінна быць ўзмоцнена шырокім разгортваньнем санасьветнай работы. Да вырашэньня гэтага пытаньня павінна быць зараз жа прыступлена, і санасьветная праца сярод сялянства павінна заняць першае месца ў рабоце ня толькі санурачоў, але і ўсіх мэдработнікаў вёскі і гораду.

Другой задачай, якая патрабуе хуткага і найлепшага яе вырашэньня, зьяўляецца вясковае будаўніцтва. Толькі забясьпечанасьць сялянскай гаспадаркі цёплым хлевам вызваліць селяніна ад неабходнасьці ў суровую зіму (а такіх у нас досыцъ) хаваць у жылой хаце жывёлу, толькі належным чынам пабудаваная хата будзе дастаткова захоўваць цяплыню і дазволіць адмовіцца ад маленькіх вакон і ўхутваньня апошніх на зіму, што дасьць павялічэньне коэфіцыенту асьвятленьня хаты наогул, а ў зімовы час у прыватнасьці. Трэба прызнаць, што ў справе тэхнічнай дапамогі сялянству пры будаўніцтве ім жылых хат і гаспадарчых будынкаў намі нічога не рабілася. Да гэтага часу амаль што ўсімі сялянамі будоўля вялася дзедаўскімі спосабамі. Зараз, калі мы стаім на парозе вялікіх будаўнічых работ, якія будуць вытварацца ў сельскіх мясцовасьцях колгасамі, гэтае пытаньне тэхнічнай дапамогі пры будаўніцтве зьяўляецца надзвычайна вострым. Калі хутка ня будуць ужыты захады да забесьпячэньня калгаснага будаўніцтва тэхнічнай дапамогай, можа зьявіцца пагроза, што ў паасобных выпадках мы сустрэнемся са старымі недахопамі ў будоўлі, якія мэханічна могуць быць ужыты пры будаўніцтве новых будынкаў, замацаванымі ў частцы сялянства традыцыямі і загадамі дзядоў. Мы павінны забясьпечыць сталым і ўважлівым наглядам і дапамогай тэхнікаў і спэцыялістых будаўніцтва ў колгасах, бо гэта зьявіцца першай парукай стварэньня добрых санітарна-гігіенічных умоў жыцьця сялянства ў новых гаспадарчых формах.

## V.

Вышэй мы адзначалі нязначнасьць натуральнага асьвятленьня ў сялянскіх хатах. У кароткі зімовы дзень пры

[1]) Д-р Казанская „Санитарное состояние крестьянской избы и гигиена“. Бел. Мэд. Думка, 1925 г., № 3.

ўхутаных вокнах хаты зусім застаюцца паўцёмнымі, а цемны зімовы час у нас на поўначы Беларусі, досыць доўгі. Побач з гэтым вялікае значэньне мае пытаньне штучнага асьвятленьня хаты.

З ахопленых абсьледваньнем 1674 сялянскіх хат асьвятляюцца газавай лямпай 87,2 проц., газавай лямпай і газьніцай („капцілкай")—7 проц., толькі „капцілкай"—4,9 проц., „капцілкай" і лучынай—0,4 проц., газавай лямпай і лучынай—0,4 проц., аднэй лучынай—0,05 проц. і толькі 0,1 проц. маюць электрычнае асьвятленьне.

Па асобных групах гаспадарак мы маем наступныя суадносіны спосабаў асьвятленьня хат:

| Групы гаспадарак | % хат, якія асьвятляюцца | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Газавай лямпай | Газавай лямпай і „капцілкай" | „Капцілкай" | Газав. капцілкай і лучынай | Толькі лучынай | Газавай лямпай і лучынай | Электрычнасьцю |
| Усе гаспадаркі . | 87,2 | 7,0 | 4,9 | 0,4 | 0,05 | 0,4 | 0,1 |
| „А" . . . . . | 69,6 | 10,7 | 17,9 | 0,9 | 0,9 | — | — |
| „Б" . . . . . | 93,4 | 5,4 | 1,2 | — | — | — | — |
| Пролетарыят . . | 75,7 | 9,5 | 14,8 | — | — | — | — |
| Паўпролетарыят . | 76,7 | 10,9 | 9,4 | 2,0 | 0.5 | 0,5 | — |
| Прост. таваравыт. | 89,1 | 6,5 | 3,8 | 0,2 | — | 0,3 | 0,1 |
| Дробн. капітальн. гасп. . . . . . | 92,8 | 3,6 | 2,4 | — | — | 1,2 | — |

Першае, што тут спыняе ўвагу, гэта існаваньне яшчэ такіх глухіх куткоў у Віцебскай акрузе, дзе да гэтага часу яшчэ жыве лучына, як спосаб асьвятленьня хаты. Пэўна, ува ўсёй масе абсьледваных гаспадарак лучына „у чыстым відзе", як адзіны сродак асьвятленьня, намі знойдзены толькі ў аднэй гаспадарцы, аднак выпадкі скарыстаньня яе разам з газавай лямпай ці „капцілкай" складаюць ужо каля 1 проц. абсьледваных гаспадарак.

Калі ў паасобных выпадках карыстаньне лучынай можна-б было тлумачыць напружанасьцю бюджэту маламоцных сялянскіх гаспадарак, дык гэтае-ж зьявішча, зафіксаванае ў заможнай (дробна-капіталістычнай) гаспадарцы, трэба аднесьці выключна да яе малакультурнасьці.

Ня гледзячы на нязначнае яшчэ разьвіцьцё сельскай электрыфікацыі па Віцебскай акрузе, мэханічны адбор гаспадарак пры абсьледваньні 1929 г. выявіў і наяўнасьць выпадкаў асьвятленьня хат электрычнасьцю.

Асьвятленьне хат „капцілкамі" (тып начніка з разьмерам сьвету лямпадкі) з 1918-19 гадоў моцна увайшло ва ўжытак сялянскай хаты, і „капцілку" мы знаходзім больш чым у 12 проц. абсьледваных гаспадарак; нават і ў дробна-капіталістычнай групе гаспадарак мы бачым існаваньне „капцілкі" ў 6 проц. гаспадарак.

У пераважнай колькасьці сялянскіх хат крыніцай сьвятла ў доўгія асеньнія і зімовыя вечары зьяўляецца газавая лямпа. Найменшы проц. гаспадарак, якія карыстаюцца для асьвятленьня хаты газавай лямпай, наглядаецца ў групе „А" („няпісьменныя" гаспадаркі), і, наадварот гаспадаркі групы „Б" амаль што ўсе (98,8 проц.) маюць газавыя лямпы.

Зразумела, што толькі правядзеньне ў жыцьцё пляну сельскай электрыфікацыі дасьць у сялянскую хату патрэбнае асьвятленьне, аднак змаганьне за выгнаньне з ужытку сялянскай хаты лучыны і „капцілкі" павінна быць разгорнута зараз жа. Ня кажучы аб тым брудзе і сапсаваным паветры ў хаце, якія зьяўляюцца вынікам асьвятленьня хаты лучынай і „капцілкай", сьвятло, якое яны даюць, настолькі малое і тусклае, што нельга ні чытаць, ні працаваць пры ім бяз шкоды для вачэй.

Прымітыўныя хаты, асабліва збудаваныя ў стары час, дрэнна захоўваюць цяплыню ў хаце, чым выклікаецца патрэба ва установцы на зіму пераноснай жалезнай печы. У 28 проц. абсьледваных сялянскіх гаспадарак узімку ставіцца ў хаце такая печь. Гэта мы знаходзім і ў хатах бядняцкай групы сялянства (26 проц.) і ў заможных гаспадароў (27 проц.).

Апалам для печаў служаць дровы, ламачча, карчы і торп. Дровы скарыстоўваюць 94,8 проц., ламачам топяць печы 4,6 проц. гаспадарак, карчы ідуць на апал толькі ў 0,2 проц. гаспадарак. Ня гледзячы на значныя запасы торпу ў межах нашае акругі, ужываньне яго як

апалу сялянамі вельмі ня значнае (0,4 проц. усіх гаспадарак).

Апошняя акалічнасьць служыць яскравым падцьвярджэньнем таго, наколькі яшчэ мала зроблена адпаведнымі арганізацыямі і ўстановамі ў справе папулярызацыі тарпянога апалу Гэты прабел патрабуе хуткага выпраўленьня, бо ва ўмовах Віцебшчыны перавод большасьці сялянскіх гаспадарак на тарпяны апал зьяўляецца магчымым. Трэба яшчэ адзначыць, што сярод ахопленых абсьледваньнем гаспадарак дробна-капіталістычнай групы ня было знойдзена ніводнай, якая-б карысталася торпам для апалу. Тое-ж самае мы бачым і сярод гаспадарак групы „Б“, якія павінны былі-б даць прыклад скарыстаньня гэтага віду апалу, які эканоміць каштоўны для акругі лес.

Кажучы аб абсталяваньні хаты селяніна Віцебшчыны, нельга не заўважаць росту культурных запатрабаваньняў нават і ў хатнім быце.

У старыя часы амаль што ва ўсіх хатах месцам хаваньня посуду зьяўляліся заложнікі—дашчаныя паліцы, прыбітыя на сьцяне адна да другой, нічым не закрытыя. Зараз больш чым у палове хат, ахопленых абсьледваньнем ёсьць шафы.

Насьценныя гадзіньнікі, якія ў стары час былі рэдкасьцю ў сялянскай хаце, зараз маюць амаль што $^{1}/_{4}$ часткі гаспадарак.

Разуменьне таго, што ўжываньне гэтых рэчаў ня ёсьць раскоша, а толькі неабходнасьць, ужо пранікла ва ўсе пласты сялянства, і мы бачым, што і эканомічна слабыя групы гаспадарак маюць для свайго ўжытку гэтыя прадметы.

| Групы гаспадарак | % гаспадарак, якія маюць у хаце | |
|---|---|---|
| | Шафы | Насьцен. гадзіньнікі |
| Усе гаспадаркі | 57,8 | 23,9 |
| „А“ | 32,7 | 10,0 |
| „Б“ | 63,5 | 33,3 |
| Пролетарыят | 19,2 | 4,1 |
| Паўпролетарыят | 32,1 | 5,7 |
| Простыя таваравытворц | 62,0 | 26,0 |
| Дробн. капіталістычныя гасп. | 92,3 | 57.7 |

Побач з гэтым у большай палове сялянскіх гаспадарак мы знаходзім ужо крэслы, якія разам з табурэтамі пачынаюць выжываць з хаты доўгія лавы, якія яшчэ ў нядаўні час былі абавязковай прыналежнасьню абсталяваньня хаты беларускага селяніна.

Барацьбу старога быту з новым у сялянскай хаце мы можам наглядаць нават і ў рэчах, якія скарыстоўваліся і скарыстоўваюцца для, ўнутранага ўпрыгожваньня хаты. У даным выпадку мы бярэм тыя малюнкі і рэпродукцыі, якія знаходзяцца на сьценах у абсьледваных сялянскіх хатах.

Малюнкі і рэпродукцыі былі знойдзены амаль што ў 1/3 апісаных гаспадарак (29,7 проц.), пры гэтым у гаспадарках групы „Б“ імі ўпрыгожаны больш паловы (57,2 проц.) хат. Гэтае імкненьне да ўпрыгожаньня жыльля малюнкамі мы наглядаем па ўсіх групах сялянства; так хаты, дзе сьцены прыбраны малюнкамі і рэпродукцыямі, па гаспадарках пролетарскай групы складаюць 12,3 проц., па групе паўпролетарыяту—21,4 проц., па гаспадарках простых таваравытворцаў—31,7 проц. і па дробна-капіталістычных гаспадарках—35,9 проц.

Калі мы падзелім хаты па часу выданьняў малюнкаў, якія знаходзяцца ў іх на сьценах, дык убачым наступнае.

| Групы гаспадарак | % хат, якія маюць на сьценах малюнкі выданьняў | | |
|---|---|---|---|
| | Толькі дарэволюцыйнага часу | Толькі савецкіх | Аднвчасова і савецкіх і дарэволюцыйных |
| Усе гаспадаркі | 1,2 | 90,3 | 8,5 |
| „Б“ | — | 90,1 | 9,9 |
| Пролетарыят | — | 88,9 | 11,1 |
| Паўпролетарыят | 2,3 | 90,9 | 6,8 |
| Прост. таваравытворцы | 1,0 | 90,8 | 8,2 |
| Дробн. капіталіст. гасп. | 3,6 | 82,1 | 14,3 |

Стары лубок, старая олеографія больш моцна затрымалася ў хаце заможнага селяніна.

Разьмеры распаўсюджаньня малюнкаў дарэволюцыйных выданьняў рознага

зьместу прадстаўляюцца ў наступным выглядзе: малюнкі з св. гісторыі і рэлігійнага зьместу ёсьць у 1 проц. хат, портрэты розных генэралаў і духоўных асоб—у 1,2 проц., батальных малюнкаў („Бой под Цусимой“, „Подвиг Кузьмы Крючкова“, эпізоды з нямецкай вайны і г. д.) упрыгожваюць сьцены 0,6 проц. хат, і, урэшце, навучальны малюнак („Ступени жизни“ і інш.)—0,2 проц.

З выданьняў пасьлярэволюцыйнага часу пераважнае месца па ступені распаўсюджанасьці на вёсцы займаюць портрэты, і перш за ўсё портрэт Ул. І. Леніна. Трэба адзначыць, што наогул портрэт т. Леніна ёсьць амаль што ў кожнай чацьвёртай хаце на сяле. З усіх хат, сьцены якіх прыбраны малюнкамі ці рэпродукцыямі, 83,0 проц. маюць портрэт т. Леніна. Нават у гаспадарках дробна-капіталістычнай групы ў 64,8 проц. хат, якія маюць на сьценах малюнкі, мы знаходзім портрэт т. Леніна.

З портрэтаў правадыроў другое месца за Ул. І Леніным займае па ступені распаўсюджаньня ў сялянскіх хатах портрэт М. І. Калініна, які ёсьць амаль што ў 1/5 частцы (19,0 проц.) гаспадарак; портрэты тав. Сталіна знойдзены ў 10,6 проц. сялянскіх хат і тав. Чарвякова—у 3,7 проц. хат з ліку тых, што маюць на сьценах малюнкі і рэпродукцыі.

Портрэты іншых правадыроў і гэрояў рэволюцыі ёсьць у 24,8 проц. гаспадарак, хаты якіх прыбраны малюнкамі. Найбольш распаўсюджаны портрэты т.Рыкава, Варашылава, Будзёнага і т. Галадзеда.

Урэшце, у 7,5 проц .хат мы знаходзім портрэты пісьменьнікаў, поэтаў і вучоных. У гэтай групе пераважнае месца займаюць портрэты Янкі Купалы, Дзям'яна Беднага, Якуба Коласа і т. Ігнатоўскага; роўным чынам досыць часта сустракаюцца портрэты Пушкіна, Льва Талстога і Гогаля.

Што датычыцца рэпродукцый малюнкаў, дык трэба сказаць, што галоўная маса іх складаецца з малюнкаў сучасных мастакоў на тэмы грамадзянскай вайны і соцыялістычнага будаўніцтва (ў 16,8 проц. хат, якія маюць малюнкі на сьценах) і на тэмы новага быту. Трэба аддаць належнае выдавецтву маскоўскай „Крестьянской газеты“: выданыя ёю, як дадатак да газэты, рэпродукцыі з малюнкаў „Чырвоны дазор“ і „Хадакі ў Леніна“ ёсьць у большасьці сялянскіх хат. Рэпродукцыі з малюнкаў старых мастакоў ёсьць толькі ў 10 проц. хат.

Выхаваўчае значэньне малюнку ў сялянскай хаце бясспрэчна. Мастацкі выкананы і вытрыманы па зьместу малюнак у хаце, які заўсёды знаходзіцца на вачох селяніна, павінен адыграць нямалую ролю, як фактор, які спрыяе культурнаму ўздыму сялянства. Да вырашэньня пытаньня аб прасоўваньні мастацкага лубку і рэпродукцый малюнкаў сучасных мастакоў у вёску павінна быць прыцягнута ўвага ня толькі выдавецкіх і гаспадарчых організацый, але-ж і ўсіх культработнікаў вёскі і вясковай грамадзкасьці.

Процэсы перабудовы быту, якія ў рабочай масе праходзяць больш хуткім тэмпам і з большымі посьпехамі ў выніку моцнага ўплыву колектыву, у сялянскай масе, раздробленай і распыленай, маюць больш зацяжны характар і праходзяць больш цяжка. Калі, напрыклад, рабочая маса ў параўнаўча кароткі час амаль што цалкам адмовілася ад рэлігійных сьвят і адзначае рэволюцыйны сьвяты і дні адпачынку, гэты пераход сярод сялянства яшчэ далёка ня скончаны. Сьвяткаваньне каляд, вялікадня, розных „багародзіц“, Пятровых, Ільліных і Міколавых дзён ахоплівае яшчэ шырокія колы сялянства. Аднак, было-б памылкова лічыць, што ў гэтым пытаньні мы ня маем зруху. Бязумоўна, па асобных пластох сялянства мы маем адмаўленьне ад сьвяткаваньня рэлігійных сьвят, мы ведаем паасобныя выпадкі коллектыўнае работы ў дні рэлігійных сьвят, але-ж гэтага пакуль што яшчэ нельга сказаць аб ўсёй сялянскай масе нашае акругі. Аднак побач з гэтым, мы наглядаем ўжо шматлікія выпадкі сьвяткаваньня рэволюцыйных сьвят, выпадкі, калі не адзінкі-гаспадары, а вёскі і цэлыя сельсаветы адмаўляюцца ад работы ў рэволюцыйныя дні.

Па даных культурна-бытавога абсьледваньня вёскі Віцебшчыны 1929 г., з ахопленых ім 1627 гаспадарак 68 проц. сьвяткуюць рэволюцыйныя сьвяты. Па асобных групах гаспадарак гэты проц. хістаецца наступным чынам:

Пролетарыят . . . . . . 71,2 проц.
Паўпролетарыят . . . . . 68,0 „
Простыя таваравытворцы. 68,5 „
Дробн. капіталіст. гаспадар. 56,4 „

Пры гэтым дзень Кастрычніцкай рэволюцыі сьвяткуюць 91,1 проц., гаспадарак, 1-е мая—88,5 проц. і дзень памяці Леніна—16,5 проц.

Такім чынам, зараз мы маем той пераходны пэрыод, калі карэньні старога быту яшчэ ня выкарчаваны, але-ж новае моцна пускае свае парасткі ў быт. Старое вельмі цэпка трымае сялянскую сям'ю, і выключна хутчэйшы тэмп колектывізацыі ня толькі гаспадаркі, але і быту зможа абрубіць і назаўсёды адкінуць застыўшы яшчэ бруд і сьмяцьцё былой прыгнечанасьці беларускага селяніна.

## VI.

У шэрагу паказальнікаў ступені культурнасьці сельскага насельніцтва адным з найбольш яскравых зьяўляецца паказальнік актыўнасьці сялянства ў грамадзкай дзейнасьці. Няма чаго казаць аб агульным павялічэньні ўдзелу сялянскіх мас у грамадзкіх організацыях: усім вядомы штогодні ўзрост членаў сялян ва ўсялякіх грамадзкіх організацыях. Існуючы ва ўсіх таварыствах досыць дакладны падлік удзелу ў іх сялянства, а таксама сыстэматычны падлік удзелу сялянства ў перавыбарах саветаў і іншай масавай савецкай рабоце ня выклікалі вострай неабходнасьці ўключыць у програму культурна-бытавога абсьледаваньня вёскі гэтага пытаньня.

Таму програмай абсьледваньня 1929 г. было прадугледжана толькі пытаньне аб наведваньні розных сходаў і нарад асобнымі групамі сялянства.

У выніку мы маем, што з ахопленых абсьледваньнем 1627 сялянскіх гаспадарак толькі з 103 гаспадарак (6,3 проц.) ніхто з членаў сям'і ніколі не наведваў у 1928/29 годзе ніякіх сходаў. Амаль што пятая частка гэтых пасыўных гаспадарак выпадае на групу „А", у якіх няма ніводнага пісьменнага члена сям'і.

Гэты проц. гаспадарак, нібы адарваўшыхся зусім ад грамадзкасьці, тлумачыцца надзвычайнай дробнасьцю насельных пунктаў Віцебскай акругі і вельмі значнай колькасьцю раскіданых хутароў.

Калі мы возьмем насельніцтва абсьледваных гаспадарак ва ўзросьце ад 18 год і параўнаем з колькасьцю тых, што наведваюць з іх сходы і розныя нарады, дык убачым, што ўдзел у сходах і розных нарадах прымалі 83,7 проц. усіх мужчын і 49,1 проц. жанчын гэтых гаспадарак. Па асобных групах гаспадарак гэтыя суадносіны даюць наступныя хістаньні:

| Групы гаспадарак | °/о наведваючых сходы | |
|---|---|---|
| | мужчын | жанчын |
| „А" . . . . . . . . . | 82,9 | 49,3 |
| „Б" . . . . . . . . . | 86,9 | 50,0 |
| Пролетарыят . . . . . . . . | 89,0 | 48,5 |
| Паўпролетарыят . . . . . . | 86,3 | 60,7 |
| Простыя таваравытворцы . . | 84,0 | 47,8 |
| Дробн. капіталістычн. гасп . | 73,2 | 43,9 |

Найбольшы процант актыўнасьці дае група „Б", дзе проц. наведваючых сходы мужчын перавышае амаль што ўсе астатнія групы, і дзе палова ўсіх жанчын таксама прымае ўдзел у грамадзкай рабоце. Па групе „А" „няпісьменных гаспадарак заслугоўвае ўвагі досыць вялікі процант наведваньня сходаў жанчынамі гэтае групы перавышаючы сярэдні проц. па ўсіх гаспадарках, у той час як наведваючыя сходы мужчыны гэтае групы даюць проц. ніжэй сярэдняга.

Трэба адзначыць досыць значны проц. наведвальнікаў сходаў з бядняцкіх груп гаспадарак.

Па асобных узросных групах насельніцтва проц. наведвальнікаў сходаў прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Узросныя групы насельніцтва | Па роду | Пролетарыят | Паўпролетарыят | Простыя таваравытворцы | Дробныя капіталістычн. гаспадаркі. | Разам па ўсіх соц.-эконом групах | Група «Б» |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ад 18 да 22 год | муж. | 76,5 | 95,0 | 83,3 | 79,2 | 83,8 | 88,6 |
| | жан. | 45,5 | 69,1 | 57,3 | 64,0 | 58,4 | 64,9 |
| ад 23 да 29 год | муж. | 77,8 | 85,1 | 92,2 | 80,0 | 89.9 | 96,1 |
| | жан. | 38,5 | 61,2 | 57,7 | 60,0 | 57,7 | 62,5 |
| ад 30 да 39 год | муж. | 93.8 | 89,1 | 90,3 | 69,6 | 89,2 | 92,6 |
| | жан. | 54,2 | 69,0 | 54,9 | 42,9 | 56,3 | 67,9 |
| 40 год і старэй | муж. | 968 | 81,5 | 78.8 | 70,4 | 79,0 | 79,8 |
| | жан. | 50,0 | 50,9 | 36,5 | 29,5 | 38,1 | 41,8 |

Найбольш актыўнымі зьяўляюцца мужчыны ва ўзросьце ад 22 да 39 год (больш 80 проц. наведваюць сходы); па пролетарскай групе найбольшы проц. наведвальнікаў сходаў даюць мужчыны ва ўзросьце ад 30 год і старэй. Жанчыны ва ўзросьпе да 39 год наведваюць сходы ў колькасьці, якая перавышае палову ўсяго жаночага складу насельніцтла; ва ўзросьце старэй 40 год актыўна наведваюць сходы жанчыны бядняцкіх гаспадарак (больш паловы ўсіх старых жанчын). Жанчыны гаспадарак дробна-капіталістычнай групы толькі ва ўзросьце да 30 год даюць больш-менш значны процант наведвальнікаў сходаў, у групах жа больш старых узростаў проц. наведваючых сходы вельмі рэзка зьніжаецца, і ва ўзроснай групе 40 год і старэй дае найменшы проц. наведваючых сходы жанчын.

Члены гаспадарак групы „Б“ па ўсіх узростах даюць павялічаны супроць сярэдняга проц. наведваючых сходы і нарады.

Калі заўважыць адзначаную вышэй распыленасьць вясковага насельніцтва, мы павінны констатаваць досыць вялікую актыўнасьць сялянства ў грамадзкай рабоце. Асабліва заслугоўвае ўвагі ўдзел жанчын у розных сходах: амаль што палова сялянак наведвала сходы ў 1928/29 годзе.

Згуртаваньне сялянства вакол цэнтраў колгасу зьнішчыць раскіданасьць насельніцтва і паслужыць парукай далейшага ўздыму актыўнасьці адстаючых груп сялянства ў наведваньні сходаў і грамадзкай рабоце. Паглыбленьне работы сярод жанчын-сялянак і больш шырокае ўцягваньне іх у савецкую і грамадзкую работу дапаможа ім хутчэй стаць фактычна роўна з мужчынамі ў справе ажыцьцяўленьня сваіх грамадзянскіх правоў і абавязкаў.

Пэўным паказальнікам ступені культурнасьці сельскага насельніцтва зьяўляецца і пісьмовая сувязь—колькасьць атрымоўваемых і адпраўляемых лістоў сялянскіх сям'яў.

Параўнаўчае палепшаньне паштовай сувязі ў сельскіх мясцовасьцях за апошнія гады (увядзеньне кальцавой пошты, павялічэньне паштовых пунктаў, агенцтваў і аддзяленьняў у па-загарадзкіх мясцовасяцях) не магло не знайсьці адбітку на разьмерах звароту паштовай корэспондэнцыі на вёсцы і на сярэдняй колькасьці адпраўляемых і атрымліваемых сялянамі лістоў.

Па даным культурна-бытавога абсьледваньня вёскі Віцебшчыны мы бачым, што 56,3 проц. усіх ахопленых абсьледваньнем гаспадарак атрымлівалі ў працягу 1928—29 году праз пошту лісты; колькасьць сялянскіх гаспадарак, якія адпраўлялі ў тым жа годзе лісты, некалькі меншая (54,9 проц.) Калі мы паглядзім, як гэтыя велічыні зьмяняюцца па асобных групах гаспадарак, дык убачым наступнае:

| Групы гаспадарак | Проц. гаспадарак, якія ў працягу 1928-1929 гасп. году | |
|---|---|---|
| | атрымлівалі лісты | адпраўлялі лісты |
| Усе гаспадаркі | 56,3 | 54,9 |
| „А“ | 30,0 | 28,2 |
| „Б“ | 84,3 | 83,0 |
| Пролетарыят | 31,5 | 26,0 |
| Паўпролетарыят | 46,1 | 46,6 |
| Простыя тавараvытворцы | 58,4 | 56,9 |
| Дробн. капіт. гаспад. | 71,8 | 71,8 |

Найбольшую пісьмовую сувязь падтрымліваюць гаспадаркі групы „Б". Нават па групе гаспадарак, якія ня маюць у сваім складзе пісьменных, амаль што ¹/₈ атрымлівае і пасылае лісты. Аднак колькасьць пішучых і атрымліваючых лісты бядняцкіх гаспадарак усё-ж такі нязначная. Прычыны гэтага трэба шукаць у адноснай дарагоўлі аплаты паштовай корэспондэнцыі і да некаторай ступені ўсе-ж яшчэ недастатковай густаце сеткі паштовых пунктаў.

У сярэднім за год кожная з гаспадарак, якія ахоплены абсьледваньнем, атрымоўвала 11,3 лістоў і адпраўляла 10,9 лістоў. Перавышэньне колькасьці атрыманых лістоў супроць пасланых мы бачым па ўсіх групах гаспадарак, за выключэньнем групы пролетарыяту і дробна-капіталістычных, у якіх колькасьць адпраўленых лістоў больш колькасьці атрыманых. У нязначных разьмерах мы няглядаем гэта і па групе „няпісьменных" гаспадарак (групы „А").

У сярэднім па асобных групах на адну гаспадарку ў працягу 1928-29 году прыпадае наступная колькасьць пасланых і атрыманых лістоў:

| Групы гаспадарак | Атрымана лістоў | Адпраўлена лістоў |
|---|---|---|
| „А" . . . . . . | 6,5 | 6,8 |
| „Б" . . . . . . | 19,8 | 17,9 |
| Пролетарыят . . . . | 4,8 | 5,3 |
| Паўпролетарыят . . | 10,4 | 9,6 |
| Простыя таваравытв. | 11,4 | 11,0 |
| Дробн. капіт. гасп. . | 13,9 | 14,0 |

Толькі група „Б" дае досыць значнае паступленьне і адпраўленьне корэспондэнцыі.

Калі, карыстаючыся абсолютнымі данымі аб колькасьці адпраўленых і атрыманых сялянствам абсьледваных намі гаспадарак лістоў, мы паглядзім на ўдзельную вагу кожнай з соцыяльна-эканомічных груп сялянства ў кліентуры паштовага ведамства, дык знойдзем, што 81,6 проц. корэспондэнцыі мае адрасатам ці адправіцелем серадняцкую гаспадарку – простых таваравытворцаў, корэспондэнцыя пролетарскіх гаспадарак займае 1,1 проц., паўпролетарыят складае ў кліентуры пошты 9,5 проц., і 7,8 проц. усяе корэспондэнцыі мае група дробна-капіталістычных гаспадарак. Гэтыя паказальнікі не адпавядаюць ні суадносінам проц. пісьменных па гэтых групах, ні ўдзельнай вазе кожнай з памянёных соцыяльна-эканомічных груп сялянства ў нашай акрузе.

Усё гэта кажа аб тым, што пытаньне аб узмацненьні паштовай сувязі на вёсцы—спрашчэньні прыёмаў адпраўкі і атрыманьня корэспондэнцыі, выразнасьці работы апарату паштовага ведамства, популярызацыі паштовых зносін сярод працоўных вёскі і, урэшце, пытаньне тарыфу паштовай аплаты корэспондэнцыі павінны завастрыць на сабе ўвагу грамадзкасьці і культработнікаў.

Побач з гэтым трэба спыніцца і на ступені забясьпечанасьці сялянскай гаспадаркі пісьмовымі прыладамі.

Трэба сказаць, што зараз атрамант не зьяўляецца рэдкасьцю ў сялянскай хаце, а наадварот, і папера для пісьма і атрамант становяцца неабходнай прыналежнасьцю ў сялянскай сям'і. З абсьледваных намі сялянскіх гаспадарак у 65,3 проц. мы знаходзім атрамант і у 71,5 проц. гаспадарак паперу для пісьма. Шырокае ўжываньне алоўка для ўсялякіх запісаў і пры пісаньні лістоў прымушае лічыць процант гаспадарак, забясьпечаных пісьмовымі прыладамі, некалькі большым, бо ў 83,9 проц. сялянскіх хат мы знаходзім аловак, які часам замяняе атрамант. Наяўнасьць у хаце пісьмовых прылад зараз не зьяўляецца прывілеем эканомічна-моцнай гаспадаркі, і, як паказана ніжэй, амаль што палова бядняцкіх гаспадарак мае атрамант у хаце, каля ³/₄—алоўкі і палова мае паперу для пісьма.

Забясьпечанасьць пісьмовымі прыладамі гаспадарак розных соцыяльна-эко-

номічных груп прадстаўляецца ў наступным выглядзе.

| ГРУПЫ ГАСПАДАРАК | Проц. гаспадарак, якія маюць | | |
|---|---|---|---|
| | атрамант | алоўкі | паперу для пісьма |
| Пролетарыят | 41,1 | 65,8 | 45,2 |
| Паўпролетарыят | 49,5 | 71,8 | 55,3 |
| Простыя таваравытворцы | 68,4 | 86,3 | 74,7 |
| Дробн. капіталіст. гасп. | 78,2 | 93,6 | 85,9 |

Ужо нават такое шырокае пранікненьне прылад для пісьма ў гушчу сялянства гаворыць аб тым, які моцны крок уперад зроблен працоўнымі вёскі па шляху замацаваньня свае пісьменнасьці адмовы ад былога замкнёнага жыцьця.

* * *

Нам здаецца, мы не памылімся, калі дапусьцім, што культурна-бытавое становішча сялянства Віцебшчыны мала адрозьніваецца ад ступені культурнасьці і ўмоў жыцьця сялянства іншых частак Беларускай ССР. Таму мы лічым патрэбным, каб прыведзеныя тут вынікі абсьледваньня вёскі Віцебшчыны, што зроблены паўгода таму назад, былі заўважаны ўсімі работнікамі, якія вядуць работу на вёсцы: работнікамі асьветы, аховы здароўя і асабліва работнікамі, якія заклíканы пабудаваць жыцьцё ўнутры колгасаў.

Толькі ўлічваючы недахопы сучаснага быту сялянства, мы зможам у новыя формы жыцьця, жыцьця ў колектыве, не дапусьціць пранікненьня звычак старога быту.

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ

В. Тэпін

## Першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці ў пляне школьных заняткаў па мове

У сучасны момант мэтодыка кожнага прадмету школьнага выкладаньня ставіць сваёй мэтай прыстасаваць выкладаньне прадмету да тых запатрабаваньняў, якія выклікае наша грамадзкае жыцьцё. Мэтодычная літаратура распрацоўвае пытаньні аб тым, якім чынам надаць прадметам школьнага выкладаньня выхаваўчае значэньне і зрабіць іх адным з шляхоў вывучэньня і азнаямленьня з нашым соцыялістычным будаўніцтвам.

У галіне выкладаньня мовы і літаратуры ў апошнія часы ў шэрагу пэдагогічных часопісяй, пераважна ў часопісі «Русский язык в советской школе», мы сустракаем шмат цікавых артыкулаў, прысьвячоных гэтаму пытаньню.

У сувязі з гэтым я хацеў бы некалькі застанавіцца на некаторых прыёмах, якія зараз практыкуюцца ў маскоўскіх гарадзкіх школах для дасягненьня так званай выхаваўчай мэты пры выкладаньні літаратуры. Прыёмы гэтыя двох радоў: першы—гэта прыём падкрэсьліваньня некаторых момантаў пры вывучэньні мастацкага твору, калі самы зьмест твору дае тую ці іншую магчымасьць закрануць пытаньні выхаваўчага парадку (антырэлігійныя, інтэрнацыянальныя, вайсковыя і г. д.). Для гэтай мэты скарыстоўваюцца як сучасная мастацкая літаратура, так і творы старых пісьменьнікаў. Шляхам кляснае гутаркі праводзіцца вылучэньне паасобных момантаў зьместу твору, даецца соцыяльна-эканомічны і гісторычны комэнтарый найбольш яскравых вынятак з тэксту, даюцца заданьні для самастойнай творчай работы вучняў і г. д.

Я ня буду застанаўлівацца на гэтым таму, што гэты прыём не зьяўляецца ўжо навіной для беларускай школы, якая зараз карыстаецца спэцыяльным зборнікам, больш-менш прыстасаваным да выкладаньня літаратуры ў другім концэнтры (Шашкоў, Самковіч, Пігулеўскі —Антырэлігійнае выхаваньне ў школе).

Другі прыём—гэта прыём так званай паглыбленай прапрацоўкі на лекцыях літаратуры таго ці іншага літаратурнага матар'ялу або тэмы, якая мае баявое значэньне для нашае сучаснасьці. Для гэтае паглыбленае прапрацоўкі з пачатку году вызначаецца для школы некалькі тэм у сувязі з курсам тае ці іншай клясы, і гэтыя тэмы павінны быць распрацаваны больш шырока і грунтоўна, напр.: «У барацьбе за новы быт і культуру», «Чырвоная армія і абарона Саюзу», «Д. Бедны ў барацьбе з рэлігіяй» і г. д.

На распрацоўку гэтых тэм адводзіцца дастатковая колькасьць навучальнага часу, значна больш, чым на распрацоўку звычайнае тэмы програмы. Пры паглыбленай прапрацоўцы тэмы скарыстоўваецца матар'ял, які ёсьць у падручніках і школьных выпісах, але-ж шэраг твораў прапрацоўваецца шляхам хатняга чытаньня. У часе распрацоўкі матар'ялаў дапасоўваюцца розныя мэтодычныя прыёмы з тым разьлікам, каб ня толькі ахапіць значную колькасьць матар'ялу, але і распрацаваць гэты матар'ял як мага лепш і каб у вучняў засталося пэўнае ўражаньне. Па сканчэньні гэтае распрацоўкі выкладчыкі робяць даклады ў раённых аб'яднаньнях аб тым, як вялася распрацоўка тэмы, якія

сустрэліся перашкоды, і якія былі агульныя вынікі. Далей ідзе абгаварэньне дакладу, абмен думкамі і колектыўная ацэнка праробленага прысутнымі настаўнікамі.

Мне давялося быць на пасяджэньні мэтодычнага аб'яднаньня выкладчыкаў мовы і літаратуры Замасквярэцкага раённага аддзелу асьветы, на якім выкладчык VII групы дзяліўся вынікамі паглыбленай прапрацоўкі тэмы «Наш горад» у сувязі з агульнай тэмай па вывучэньню пяцігадовага пляну.

Самая прапрацоўка літаратурнай тэмы адбывалася наступным парадкам:

Перш за ўсё ў клясе лябораторным шляхам быў распрацаваны шэраг мастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць горад у мінулым: горад (Пецярбург) у часе імпэрыялізму эпохі Мікалая I, паступовае накапленьне экономічных супярэчнасьцяй; горад у часе росквіту капіталізму і капіталістычнай тэхнікі. Творы: Пушкин—Уступ да твору «Медный Всадник»; Некрасов—«О погоде», Брюсов—«Город», Горький—«Челкаш» (Від гавані прыморскага гораду) .

Падагуленьне прачытанага было зроблена шляхам колектыўнай гутаркі на тэму: «Рысы старога і новага ў нашым горадзе». У падагульняючай гутарцы былі падкрэсьлены наступныя моманты: пераджыткі старасьветчыны, якія захаваліся да сучаснага моманту, тыновыя асаблівасьці дваранскага і буржуазна-гандлярскага стылю паасобных вуліц і памяшканьняў, а таксама процілегласьці паміж цэнтрам гораду і яго ўскраінамі.

У якасьці адлюстраваньня характэрных рысаў сучаснага гораду і высьвятленьня яго агульнае мэтаімкнёнасьці настаўнік скарыстаў урывак з роману Т. Гладкова—«Цемент» (гл. «Волны») і верш Д. Беднага «Ленинград»; гэтыя творы былі абраны з тэй мэтай, каб даць вучням ня толькі адпаведны малюнак, але, галоўным чынам, патрэбную эмоцыянальную зарадку.

Далей ішла найбольш цікавая і адказная частка працы. Вучні павінны былі свае літаратурныя ўражаньні ад мастацкіх вобразаў мінулага супроцьставіць уражаньням сучаснае Масквы з яе бадзёрым жыцьцём, напружаным соцыялістычным будаўніцтвам.

Для гэтае мэты вучні 7-е клясы былі падзелены на паасобныя брыгады, і кожная брыгада павінна была зрабіць экскурсію ў адпаведную частку гораду. Для кожнай паасобнай экскурсіі быў складзены свой маршрут, а таксама з вучнямі была праведзена спэцыяльная гутарка, якая павінна была належным чынам накіраваць увагу вучняў пры аглядзе таго ці іншага месца, установы, і г. д.) Некаторыя экскурсіі былі праведзены пад кіраўніцтвам настаўніка, а некаторыя—самастойна. I ў тым і ў другім выпадку, пры наглядань-нях, вучні кіраваліся спэцыяльна складзеным плянам.

Вынікі гэтых наглядаваньняў былі апрацаваны вучнямі ў форме пісьмовых прац на тэму «Наш горад». У сваіх укладаньнях вучні яскрава адзначылі як моманты, характэрныя для Масквы ў мінулым, так і моманты, тыповыя для Масквы сучаснай, пролетарскай, схапілі ў паасобных сцэнках стыль і тэмп жыцьця, контрасты старога і новага, пэйзаж паасобных пунктаў гораду, як стары, так і сучасны—індустрыяльны.

Настаўнік, калі праглядаў гэтыя пісьмовыя працы, адзначаў найбольш удалыя месцы вучнёўскіх прац, у якіх адлюстроўвалася аблічча сучаснага гораду з яго асаблівасьцямі.

Такім чынам, атрымаўся шэраг цікавых вынятак, і, зразумела, зьявілася думк аб тым, каб з гэтых урыўкаў вучнёўскіх думак укласьці нешта цэльнае. Такой формай, якая дала магчымасьць аб'яднаць лепшыя часткі пісьмовых прац, зьявіўся мастацкі плякат на тэму «Наш горад».

Зьместам плякату былі, з аднаго боку, найбольш яскравыя малюнкі быту, пэйзажу, здарэньняў з жыцьця сучаснае Масквы, а з другога—ілюстрацыі паасобных тыповых момантаў, якія падмацоўваюць агульнае мастацкае ўражаньне.

Мастацкае афармленьне плякату рабілася пры дапамозе выкладчыка графіч-

нае граматы, а самыя тэмы ілюстрацый былі строга падпарадкаваны зьместу вучнёўскіх прац. Трэба адзначыць тое, што для правядзеньня гэтае працы патрабавалася значная колькасьць часу, але-ж мэта была дасягнута: літаратурна-мастацкія ўражаньні далі нейкі стымул да вывучэньня сучаснасьці і самастойнай вучнёўскай творчасьці на грунце сучаснасьці.

Калі я слухаў гэты даклад, я падумаў аб тым, як бы цікава было скарыстаць гэты вопыт маскоўскіх школ у нас, у Менску. Зразумела, што моманты, характэрныя для старога і новага гораду, ёсьць і ў Менску; праўда, іх ня так багата, яны незаўсёды досыць яскравыя і выразныя, але-ж яны ёсьць і могуць даць тэмы для правядзеньня так званых вобразна-творчых альбо сынтэтычных экскурсій, якія, выходзячы з вывучэньня кніжнага тэксту, падводзяць вучня да непасрэднага знаёмства з фактамі нашай рачаіснасьці, да адбору патрэбнага экскурсанту жыцьцёвага матар'ялу і, урэшце, да слоўнага афармленьня тых уражаньняў, якія складаліся ў вучняў у выніку назіраньня гэтага матар'ялу. У сувязі з гэтым я хачу некалькі застанавіцца на адной конкрэтнай магчымасьці, якую наша школа павінна будзе скарыстаць самым шырокім парадкам у пачатку навучальнага году ў мэтах знаёмства з соцыялістычным будаўніцтвам краіны. Гэтую магчымасьць дае нам першая ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, якая павінна ў поўнай меры разгарнуць процэс соцыялістычнае пабудовы народнае гаспадаркі.

Усебеларуская выстаўка ставіць вялізарнейшыя задачы па выяўленьню ўсіх дасягненьняў соцыялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі і павінна адлюстраваць барацьбу рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі з клясавым ворагам, які перашкаджае соцыялістычнаму будаўніцтву. На выстаўцы ў натуральных экспонатах будзе прадэманстравана ўся народная гаспадарка за час існаваньня БССР.

Прамысловасьць на выстаўцы таксама яскрава пакажа свае дасягненьні і выявіць кіруючую ролю ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Мне здаецца, што пытаньне аб вывучэньні выстаўкі, як нейкага комплексу, паўстане ў пачатку году перад школаю ў сувязі з прынцыпамі політэхнізацыі навучаньня, і на долю выкладчыка мовы і літаратуры выпадзе вялікая і адказная задача.

Ён павінен паклапаціцца аб тым, каб уражаньні вучняў ад агляду выстаўкі атрымалі адпаведную літаратурную форму і былі скарыстаны ў якасьці матар'ялу для школьнае працы па мове і літаратуры.

З пачатку навучальнага году пачнуцца організаваныя школьныя экскурсіі на выстаўку. Кожная навучальная дысцыпліна зацікаўлена будзе ў тым, каб скарыстаць гэтыя экскурсіі ў навучальных мэтах, а таму выкладчык мовы і літаратуры павінен прыняць з свайго боку ўдзел у школьным вывучэньні выстаўкі.

Зараз яшчэ нельга казаць аб тым, у якую форму павінна выліцца праца па кожным прадмеце ў часе вывучэньня выстаўкі, таму што мы яшчэ ня маем пад рукамі ні самога об'екту вывучэньня, ні добра складзеных проспэктаў, ні адпаведнага загаду НКА. Пакуль што выкладчык мовы і літаратуры павінен сам тэорытычна падрыхтавацца да свае працы па ўзору маскоўскай распрацоўкі тэмы «Наш горад», а дзеля гэтага патрэбна:

1. Настаўніку, самому азнаёміцца з сучаснай мэтодычнай літаратурай па пытаньні вобразна-творчых экскурсій (сьпіс літаратуры гл. ніжэй).

2. Правесьці падбор адпаведнай мастацкай літаратуры па пытаньнях індустрыялізацыі народнае гаспадаркі, а таксама саўгаснага і колгаснага землеробства для кляснага чытаньня ў сувязі з аглядам выстаўкі (эмоцыянальны момант).

3. Вызначыць для кожнае клясы тэмы літаратурнай апрацоўкі вучнёўскіх уражаньняў па агляду выстаўкі; пытаньне аб об'екце нагляданьня, па магчымасьці, узгадніць з другімі выкладчыкамі і агульнай програмнай устаноўкай клясы.

4. Распрацаваць для паасобных груп экскурсантаў плян-маршрут вядзеньня нагляданьняў на выстаўцы паводле вызначаных тэм.

Вось тыя галоўныя моманты, на якія выкладчык павінен зараз накіраваць сваю ўвагу.

Як павінна ісьці далейшая работа пасьля агляду выстаўкі, зараз нельга даваць пэўных рэцэптаў, бо вялікае значэньне тут мае вынаходлівасьць выкладчыка, яго ўменьне ўзбудзіць дзіцячую самадзейнасьць і г. д.

Таксама і канчатковае афармленьне ўсяе праробленай працы ў занятках па мове і літаратуры можа пайсьці шляхам укладаньня дакладаў, уласных вучнёўскіх твораў, плякатаў і, урэшце, у канцы работы можна наладзіць спэцыяльны школьны вечар, афяраваны ўражаньням ад усебеларускай выстаўкі.

Літаратура па гэтым пытаньні:

Спутник преподавателя-словесника за 1930 г., стр. 140-146, 195-196.

*Рыбникова М. А.*—Постановка творческих работ по родному языку. «Русск. яз. в советской школе», 1930 г., № 1.

Пятилетка в программе школ II ступени. «Вестн. Просв.», 1929 г., № 11.

Производственные экскурсии— сборн. под ред. Менжинского.

*Пыжов*—Советский город.

*Родин*—Деловая улица большого города. (Выданьне «Работник просвещения»).

*Сяргейчык П. М.*—Першая ўсебеларуская выстаўка.

*Паскрэбка Ўл.*—Рыхтуйся да выстаўкі.

*Кіпрыянец К.*—Соцыялістычнае земляробства і прамысловасьць БССР на першай усебеларускай выстаўцы. (Выданьні Белдзяржвыдавецтва)

*Кіпрыянец К.* — Сельскагаспадарчы сэктар на 1-й усебеларускай выстаўцы.

*Кіпрыянец К.*—Прамысловы сэктар на ўсебеларускай выстаўцы. («Наш край», 1930 г., №№ 1 і 3).

*Таўкач Л.* — Першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці «Коопэрацыя БССР», 1930 г., № 1-2

Палачанін

## Агульны фронт беларускіх і польскіх фашыстых у барацьбе супроць Т-ва Беларускай Школы

Пасьля разгрому Бел. Сял.-Раб. Грамады, польская фашысцкая ўлада асаблівую сваю ўвагу зьвярнула на Т-ва Беларускай Школы—гэтую адзіную легальную масавую організацыю беларускіх рабочых і сялян на Заходняй Беларусі.

Усе патугі ўлады накіраваны былі на апанаваньне гэтай організацыяй, у першую чаргу праз рэнэгацкую групу беларускіх нацыянал-фашыстых Луцкевіча ў 1928 г., калі Галоўная Управа (цэнтральнае кіраўніцтва) Т. Б. Ш. была прычынена ўладай, а кіраўніцтва Т. Б. Ш. было перадана т. з. Поўнамоцнай Комісіі, якая складалася з беларускай нацыянал-фашысцкай тройкі. Спробы гэтыя, аднак, скончыліся поўным паражэньнем гэтае групы. На так званым нелегальным сходзе (недазволеным уладай) Т-ва Беларускай Школы 19/V 1929 г., ня гледзячы на дзікі тэрор з боку фашызму, была абрана новая Галоўная Управа (цэнтральнае кіраўніцтва) Т. Б. Ш. з рашучых прыхільнікаў нацыянальна-вызваленчага руху на Заходняй Беларусі, а з ліку сяброў Таварыства былі выкінуты галоўныя беларускія нацыянал-фашыстыя на чале з Луцкевічам; беларускія рабочыя і сяляне гэткім спосабам яскрава дэманстравалі сваю нязломную волю да барацьбы за сваю масавую організацыю—Т. Б. Ш.

Сіла дэманстрацыі была настолькі вялікая, што Луцкевіцкая група, канчаткова скомпромэтаваўшы сябе перад масамі, мусіла часова скапітуляваць перад новаабранай Галоўнай Управай (абранай воляю беларускіх працоўных мас на сходзе 19/V 1929 г.) і санкцыянаваць яе на сваім т. з. санацыйным сходзе Т-ва 9/VII 1929 г., не адмаўляючыся, рэч зразумелая, у далейшым ад спроб захвату Т. Б. Ш. у свае рукі

Пасьля гэтае няўдачы на першы плян барацьбы з Таварыствам Беларускай Школы з яшчэ большай сілай выступае фашысцкая ўлада. Справаздача аб палажэньні Таварыства Беларускай Школы, якая зьмешчана ў № 3 радыкальнае беларускае газэты „На варце“ ад 28 сакавіка 1930 г., малюе страшэнны абраз разгрому паасобных організацый Т-ва на провінцыі: „Слонімскі павет. у Казлавіцкім гуртку арыштавана 15 сяброў. Арыштаваны сябры б. Слонімскай Акруговай Управы Лябэцкая і Жыткевіч. Касоўскі павет. Ува ўсіх сяброў Акруговае Управы і па ўсіх гуртках Т. Б. Ш. у адзін дзень адбыліся рэвізіі (вобыскі.—П.). Арыштавалі віцэ-старшыню Акруговай Управы і адаслалі ў Пружанскі астрог. Стаўпецкі павет. Арыштаваны старшыня Дон-Шынайка і віцэ-старшыня Акруговай Управы, узяты пад нагляд паліцыі. Забраны пры рэвізіі протоколы зьезду 19/V 1929 г і прамовы паслоў БСРП клюбу. Ваўкавыскі павет. Са складу Акруговай Управы і Сьвіслацкага гуртка арыштаваны Варановіч К., Еська К., Піваварчык Я. і Трахімік А. Баранавіцкі павет. Вобыскі былі ўва ўсіх сяброў Акр. Управы; пратрымаўшы некалькі гадзін, іх вызвалілі. Паўстаўскі павет. Арыштаваны некаторыя сябры адзінага фактычна існуючага на ўсю Пастаўшчыну Рымкоўскага гуртка, пры чым арыштаваны стары, сьляпы бацька памёршага нядаўна сябра ўправы гуртка, у якога

знайшлі нейкую літаратуру сына. Пружанскі павет. Ператрэсьлі блізка ўсе гурткі, дакладных зьвестак аб ліку арыштаваных няма. Ашмянскі павет. Рэвізія была ў Белевіцкім гуртку, дзе забрана ўся канцэлярыя гуртка па распараджэньню судовых уладаў. Горадзенскі павет. Тэрор прайшоў па паасобных гмінах: Вяліка-Берастовіцкай, Азерскай, Вяліка-Эйсмонтаўскай, Сьнідэльскай і інш." („На варце", 28/III-30 г.).

Такія наскокі на Т-ва Беларускай Школы польскі фашызм робіць і рабіў не адзін раз: яны паўтараюцца пэрыодычна, не гаворачы аб сталых рэпрэсіях, якія, ня спыняючыся, растуць crescendo і пераходзяць часамі ўва ўсеагульны пагром Т-ва Б. Ш. як у цэнтры, так і на провінцыі, прыкладам якога можа служыць вышэйпрыведзеная справаздача з газэты „На варце".

Адначасна з гэтым пагромам у беларускай фашысцкай „Наперад" пачынаецца шалёная кампанія супроць Т-ва Бел. Школы. На Т. Б. Ш. беларускія нацыянал-фашыстыя робяць адкрытыя даносы, стараюцца перакласьці адказнасьць за расправу над Т. Б. Ш. з плеч фашысцкай улады на Т. Б. Ш., абвінавачіць Т. Б. Ш. у сувязі з падпольнымі організацыямі і г. д.

На фоне гэтых рэпрэсій і тэрору фашысцкай улады цкаваньне Т. Б. Ш. з боку газэты „Наперад" (орган беларускіх нацыянал-фашыстых), якая павяла такую шалёную кампанію супроць Т. Б. Ш., зьяўляецца асабліва провокацыйным, але адначасна і лішні раз пацьвярджае існаваньне агульнага фронту польскіх і беларускіх фашыстых і іх імкненьні разьбіць і задушыць нацыянальна-вызваленчы рух на Заходняй Беларусі.

Так, шляхам комбінаванага ўзьдзеяньня на Т. Б. Ш., шляхам рэпрэсій, провокацый, тэрору і хлусьні фашысцкая ўлада стараецца спыніць дзейнасьць масавай рабоча-сялянскай організацыі Т. Б. Ш., але дарэмна. У сваёй рэзолюцыі па гэтаму поваду ад 4 красавіка 1930 г. Галоўная Ўправа Таварыства Беларускай Школы, між іншым, гаворыць, што „Галоўная Управа, адкідаючы рашуча ілжывыя провокацыі і даводзячы аб гэтым да ведама шырокіх мас, згуртаваных у Т. Б. Ш., верыць, што і на гэты раз сялянска-работніцкія гушчы яшчэ шчыльней згуртуюцца вакол сваёй Галоўнай Управы і адкажуць: „рукі прэч ад Т-ва Беларускай Школы", і, ня гледзячы на рэпрэсіі і на працу розных „Гаспадарчых Зьвязаў", „Інстытуту Гаспадаркі і Культуры", далей павядуць сваю працу над абуджэньнем сваёй сьвядомасьці і не дазволяць задушыць культурна-вызваленчых імкненьняў беларускіх сялян і рабочых, сваімі рэзолюцыямі дадуць рашучы адпор разьбівачом Таварыства Беларускай Школы".

Польская фашысцкая ўлада можа зачыняць гурткі і арыштоўваць сяброў Т. Б. Ш., але сфашызаваць Т-ва не ў яе сілах, нават і пры дапамозе здраднікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

І. Д. Туміловіч

## Ці патрэбны практыкавальныя школы пры пэдтэхнікумах

Гэтае пытаньне амаль зусім ня ставілася ў нашай пэдагогічнай літаратуры. Традыцыі настаўніцкіх сэмінарыяў паклалі моцны адбітак на пэдагогічную школу, тым больш, што шмат працаўнікоў сучасных пэдтэхнікумаў прайшлі праз настаўніцкія сэмінары і інстытуты, а некаторая частка мае і практыку арганізацыйнай работы ў іх. Вось чаму да гэтага часу лічылася бясспрэчным, што практыкавальныя школы патрэбны. Магчыма, па гэтай прычыне і аўтор гэтага артыкулу ня зусім рашуча ставіць пытаньне. І, сапраўды, рабіць катэгорычныя вывады адносна патрэбы практыкавальных школ, ці адмаўляць іх неабходнасьць пакуль што нельга без улічэньня ўсіх довадаў за і супроць. Трэба сабраць мотывы абодвух пунктаў гледжаньня і затым рабіць практычныя вывады.

Навукова-мэтодычны савет магілеўскага пэдтэхнікуму ставіў гэтае пытаньне на сваім паседжаньні. З абгаварэньняў выявілася, што абаронцаў тых практыкавальных школ, якія зараз існуюць пры пэдтэхнікумах, зусім няма. Практыкавальныя школы не задавальняюць патрэб шырока разгорнутай пэдагогічнай практыкі студэнтаў тэхнікуму. Цяпер, пры наяўнасьці ў тэхнікумах падвойных, а часам і патройных аднолькавых курсаў, нават прадметны практыкум другіх курсаў ня будзе забясьпечаны практыкавальнаю школаю. Натуральна, што концэнтраваны комплексны практыкум 3-га курсу будзе ў нялепшых умовах. Існуючыя пры пэдтэхнікумах розныя шматгруповыя курсы (аднагадовыя і 2-гадовыя), якія існуюць пры пэдтэхнікумах, ужо і да гэтага часу павінны былі праводзіць практыкум у масавых школах. Можна сумнявацца і ў якасьці тае практыкі, якая атрымлівалася студэнцтвам у практыкавальных школах да гэтага часу. Якімі новымі формамі працы аўладалі яны? Што паказальнага яны маглі там назіраць, а затым і замацоўваць на практыцы? Адкрыта кажучы, вельмі мала давала ім у гэтых адносінах практыкавальная школа. Больш таго, яна часам дэзорыентавала студэнта. Вельмі часта тэорытычныя курсы мэтодыкі і праца школы былі слаба ўвязаны ці, проста кажучы, адарваны адно ад другога, дзякуючы чаму студэнт заражаўся абывательскім скэптыцызмам— «тэорыя адно, а практыка другое». Новых мэтодаў і форм работы практыкавальная школа не спрабавала, а праводзіла сваю работу з году ў год па старынцы. Такая пастаноўка работы змаглі выхаваць рутынёраў і дылетантаў, а не падрыхтаванага пэдагога-экспэрымэнтатара, чулага да мэтодычных і пэдагогічных павей, які штодзённа шукае шляхоў да ўзьняцьця якасьці свае работы. Нельга не адзначыць і таго, што перагрузка практыкавальнай школы практыкаю зьяўляецца перашкоднай для нормальнай навучальна-выхаваўчай работы школы. Ужо тое, што вельмі часта зьмяняюцца працаўнікі (разумеецца частая зьмена практыкантаў) з рознымі ўяўленьнямі аб нормах паводзін дзіцяці-школьніка, тое, што цэлы шэраг учынкаў дзяцей не сустракаюць адпаведнага і сваячасовага

ўзьдзеяньня—«конспэктам не прадбачана»,—выводзіць дзяцей з нормальных каляін і не дае мажлівасьці групаводу праводзіць сыстэматычную выхаваўчую работу. Калі да гэтага дадаць тое, што малавопытнымі практыкантамі часта дапушчаюцца грубыя памылкі і ляпсусы (мала дапамагае тое, што яны пасьля будуць выпраўлены), дык стане відавочным, што практыкавальная школа зараз, ставячы дзяцей на ўвесь час навучаньня ў I концэнтры ў падэкспэрымэнтальнае палажэньне, сьвядома дапушчае калечаньне дзяцей. Няма нічога дзіўнага, калі да практыкавальных школ з боку насельніцтва адчуваецца пэўнае ахаладжэньне.

Аднак нам здаецца, што перанясеньне ўсяе практыкі ў масавыя школы пакуль што таксама немажліва. Пры занятасьці мэтодыстых у тэхнікуме нельга будзе наладзіць дастатковы і сваячасовы інструктаж і контроль за работаю практыкантаў, тым часам як пры недастатковай кваліфікацыі масавага пэдагога гэта будзе неабходна ў максымальнай ступені. Пры выпадковым складзе пэдагогічных працаўнікоў масавых школ, дзе будзе адбывацца практыка, нельга будзе пакласьціся на іх і ў кіраваньні практыкантамі і ў ацэнцы работы іх. Урэшце, нам здаецца патрэбным даць мажлівасьць студэнту, будучаму настаўніку, назіраць узор мэтодычна даскანала організаванай пэдагогічнай работы. Трэба толькі дабіцца шляхам падбору працаўнікоў і стварэньня адпаведных матар'яльных умоў сапраўды ўзорнай пастаноўкі работы такіх школ. Было-б зусім натуральна, калі-б групаводы гэтых школ былі адначасова і выкладчыкамі мэтодык у тэхнікуме. Такім парадкам быў-бы зьнішчаны той разрыў, які зараз існуе паміж тэорытычным курсам мэтодык і пэдагогічнай практыкай нашых школ. Такія школы з задачамі апорна-паказальных не абавязкова павінны організоўвацца пры тэхнікумах. Паколькі іх задачай будзе мэтодычная дапамога школам раёну ці акругі, яны могуць быць з тэхнікумам організацыйна і ня зьвязаны, але, паколькі яны павінны дапамагчы тэхнікумам у падрыхтоўцы мэтодычна падрыхтаваных пэдагогічных кадраў, яны працуюць у шчыльным контакце з пэдтэхнікумам. У гэтых школах студэнты 2-га курсу праводзяць толькі назіраньні над работаю, ахапляючы шляхам чаргаваньня ўсе моманты пэдагогічнага працэсу. Прадметная практыка студэнтаў 2-га курсу, як і концэнтраваная комплексная 3-га курсу, павінны быць цалкам перанесены ў масавыя школы, гарадзкія і вясковыя. Організатару пэдпрактыкі трэба наперад азнаёміцца са школамі і падабраць з іх найбольш падыходзячыя для практыкі. Да гэтага часу, з прычыны недастачы сродкаў, масавы пэдпрактыкум у школах мы прымушаны былі праводзіць па месцы жыцьця студэнтаў без аніякага падбору школ. Раскіданасьць гэтых школ, адсутнасьць сродкаў не дазвалялі праводзіць дастатковы інструктаж і контроль за работаю студэнта, у выніку гэтага пэдпрактыкум не даваў належнага эфэкту. Мы лічым, што будзе найбольш пажаданай такая організацыя пэдпрактыкуму, калі ўсе сілы і студэнтаў і мэтодыстых концэнтруюцца ў адным раёне. Гэта будзе найбольш мэтазгодна ў сэнсе абслугоўваньня пэдпрактыкі мэтодычным кіраўніцтвам, а таксама мэтодычнай дапамогай масавага настаўніцтва. У выніку такога практыкуму раённыя і падраённыя настаўніцкія гурткі атрымаюць шмат новага і цікавага матар'ялу для сваіх заняткаў. Гэта будзе і сродкам падвышэньня якасьці працы школ раёну, выяўляючы найбольш вузкія месцы ў іх організацыі. Для студэнта-практыканта такая практыка будзе асабліва карыснай таму, што ён, маючы ўяўленьне аб дасканала мэтодычна організаванай рабоце, на падставе папярэдняй практыкі, у гэтай практыцы наблізіцца ўсьцяж да конкрэтных умоў масавай школы, да работы ў якой ён рыхтуецца. Урэшце, такая практыка будзе добрым выхадам для грамадзка-карыснай работы навучальнай установы сярод працоўнага насельніцтва.

# НАШ ВОПЫТ

Рудакоўская і Раманінаў

## На дашкольных пляцоўках у колгасах

Выкананьне культурнай пяцігодкі патрабуе падрыхтоўкі вялікай колькасьці культурных працаўнікоў, і ў першую чаргу працаўнікоў асьветы. Нашы пэдагогічныя навучальныя ўстановы, вышэйшыя і сярэднія, ня могуць яшчэ забясьпечыць кадрамі як масавыя школы соцвыху, так і дашкольныя ўстановы горада і вёскі. Гэтым тлумачыцца, што побач са стацыянарнымі пэдагогічнымі навучальнымі ўстановамі ў нас у апошнія часы разгарнулася сетка розных кароткатэрміновых курсаў.

Асабліва востра стаіць у нас пытаньне з кадрамі дашкольных работнікаў, бо існуючыя дашкольныя тэхнікумы зусім ня могуць забясьпечыць дашкольныя ўстановы кіраўнікамі.

Улічваючы ўсё гэта, Менская апорная школа 9-цігодка МББ чыгункі з пачатку 1929-30 навучальнага году надала VIII клясе пэдагогічны (школьны) ўхіл. Мелася на ўвазе праз тры гады зрабіць выпуск настаўнікаў школы 1 ступені, але ў канцы III чвэрткі перад вучнямі і настаўнікамі VIII групы і перад усімі школьнымі організацыямі паўстала пытаньне аб тым, каб у сувязі з задачамі, якія стаялі перад школай па колектывізацыі сельскае гаспадаркі, ужо ў гэтым годзе падрыхтаваць вучняў VIII клясы для практычнай работы ў колгасах. Восьмая кляса—і вучні, і настаўнікі—абвясьціўшы сябе ўдарнай, бярэ на сябе абавязак выканаць навучальны плян па ўсіх дысцыплінах без скарачэньняў да 15 мая, скарыстаўшы ўдарныя тэмпы работы, каб потым вучні маглі паехаць у колгасы для работы на дзіцячых пляцоўках. Бязумоўна, трэба было ўвесьці дадатковыя тэмы ў пляны заняткаў па некаторых прадметах, каб падрыхтаваць вучняў да дашкольнай работы. Былі ўведзены наступныя тэмы.

1) Мэты дашкольнага выхаваньня.

2) Організацыя дашкольных устаноў у колгасах.

3) Біолёгічныя асаблівасьці дашкольнага ўзросту.

4) Гігіена дашкольнага ўзросту.

5) Інфэкцыйныя хваробы ў дашкольным узросьце і меры барацьбы з імі.

6) Агульныя прынцыпы дашкольнага выхаваньня.

7) Грамадзка-політычнае выхаваньне.

8) Праца ў дашкольных установах.

9) Фізычнае выхаваньне і гульні ў дашкольных установах.

10) Мастацкае выхаваньне.

11) Сьпевы ў дашкольных установах.

12) Жывое слова ў дашкольных установах.

13) Прырода ў дашкольных установах.

14) Навучаньне грамаце.

15) Організацыя дзіцячага колектыву.

16) Плянаваньне і падлік работы.

17) Грамадзка-пэдагогічная работа.

18) Фінансава-гаспадарчая частка ў дашкольных установах.

Усе гэтыя тэмы распрацоўваліся на лекцыях: па агромінімуме, асновах савецкай працоўнай школы, мэтодыцы працоўных процэсаў, сьпевах, маляваньню, фізвыху, беларускай мове. Акрамя таго, былі праведзены дадатковыя заняткі школьна-санітарнымі дзіцячымі ўрачамі і загадчыцай дзіцячага саду ў парадку грамадзкай нагрузкі.

Дзеля таго, што ў колгасах у некаторых выпадках, замест дзіцячых пляцовак, адкрываюцца ўстановы зьмешанага

тыпу—пляцоўкі-яськлі, дзяўчаты былі накіраваны яшчэ на курсы ахматмладу, якія адкрыліся пры чыгуначных яськлях.

Адначасова з тэорытычнай падрыхтоўкай быў наладжаны дашкольны практыкум у 2 чыгуначных дзіцячых садох, а для дзяўчат—яшчэ і пераддашкольны ў яськлях. Практыкум адбываўся пад кіраўніцтвам работнікаў дзіцячых садоў і ўрача, загадчыка яськляй.

Пасьля практыкуму ў дзіцячых садох і яськлях даваліся аб практыцы кожнага вучня водзывы, у якіх абазначаліся пэдагогічныя здольнасьці практыкантаў да работы на пляцоўцы і ў яськлях. Потым на вучнёўскай конфэрэнцыі, пры ўдзеле выкладчыкаў і кіраўнікоў дзіцячых садоў, былі складзены характарыстыкі кожнага вучня.

Увесь гэты матар'ял школа накіравала ў дашкольную інспэктуру Акрына, якая і камандыравала 16 асоб (у тым ліку 5 хлапцоў) на работу на летнія дзіцячыя пляцоўкі ў Смалявіцкі і Самахваловіцкі раёны і Менскія прыгародныя колгасы.

Як школа, так і I дзіцячы сад (праз які прайшла большая колькасьць практыкантаў) лічылі патрэбным не парываць сувязі з накіраванымі на работу вучнямі і дапамагаць ім у іх практычнай рабоце. Папершае, была наладжана пісьмовая сувязь вучняў з дзіцячым садам, з мэтай організацыйнай і мэтодычнай дапамогі з боку працаўнікоў саду. Падругое, школа разам з дзіцячым садам паслала распрацаваныя 4 організуючыя моманты для заняткаў на пляцоўках, скарыстоўваючы матар'ял, які раіўся пэдконсультацыяй. Патрэцяе, наладжваецца жывая сувязь: калі працаўнікі пляцовак прыяжджаюць у Менск, дык заходзяць у дзіцячыя сады, каб атрымаць консультацыю. І, урэшце, у канцы навучальнага году, пасьля 15 чэрвеня, школай наладжваюцца выезды 2 брыгад (кожная складаецца з прадстаўніка ад школы і ад дзіцячага саду) для агляду работы дзіцячых пляцовак і інструктажу іх кіраўнікоў.

Была абсьледвана работа наступных пляцовак, дзе працуюць нашы вучні: пляцоўка ў колгасе «Колас», Варатоўскага сельсавету, «Зьвязда» і Сэмафор», Жыжэлкаўскага сельсавету, «Прогрэс» Амяльлянаўскага сельсавету, пляцоўка пры саўгасе імя Леніна ў Смалявічах і дзіцячы сад пры колгасе «Праца», Юраўскага сельсавету.

Вось што паказала абсьледваньне.

1. Для організацыі пляцовак рабілася наступнае: ставіліся даклады кіраўнікоў на пасяджэньнях праўленьняў колгасаў, агульных сходах колгасьнікаў і жаночых сходах (колгас «Прогрэс»), вяліся індывідуальныя гутаркі з паасобнымі сем'ямі, рабіўся падворны перапіс дзяцей дашкольнага ўзросту, у некаторых мясцох (колгас «Колас») популярызавалася ідэя дашкольнага выхаваньня праз колгасную насьценную газэту.

2. Адносіны колгасьнікаў і бядняцкасераднякцкай часткі сялян-адзіналічнікаў да пляцовак наогул добрыя.

3. Сродкі на ўтрыманьне пляцовак адпускаюцца праўленьнямі колгасаў і сельсаветамі. На сёньняшні дзень досыць добра абстаіць справа ў колгасе «Колас», дзе праўленьне забясьпечвае пляцоўку ўсім неабходным у дастатковым разьмеры, а на дзяцей неколгасьнікаў грошы адпускае РВК. Горш абстаіць справа ў Жажэлкаўскім сельсавеце, які абяцаў на ўтрыманьне 2 пляцовак адпусьціць 900 р. Кіраўнікі ,выходзячы з сумы 450 руб. на пляцоўку, пачалі складаць каштарысы і выдаткоўваць грошы. У сучасны момант сельсавет абвясьціў аб тым, што гэтая сума можа паменшыцца, бо сродкі паасобных сельсаветаў будуць разьмяркоўвацца ў агульна-раённым маштабе. На ўтрыманьне пляцоўкі ў колгасе «Прогрэс» райвыканком адпусьціў 150 руб. і дадаткова 12 рублёў на цацкі. У саўгасе імя Леніна ёсьць зусім дастаткова сродкаў—500 р., але ў выдаткаваньні іх няма ніякай плянавасьці. Наогул трэба адзначыць, што фінансавыя пэрспэктывы не зьяўляюцца досыць яснымі, што перашкаджае складаньню каштарысаў, а гэта ў сваю чаргу перашкаджае належнай пастаноўцы пэдагогічнай работы.

4. У колгасах «Колас» і «Сэмафор» пляцоўкі зьмяшчаюцца ў памяшканьнях школ—гэта чыстыя, сьветлыя, вялікія

пакоі і знаходзяцца амаль што ў цэнтры колгасаў. Саўгас імя Леніна для пляцоўкі адвёў асобную сялянскую хату з 2 пакояў. У гэтых 3 месцах памяшканьні спрыяюць належнай пастаноўцы пэдагогічнай работы. Ня тое мы бачым у колгасах «Прогрэс» і «Зьвязда». У «Прогрэсе»—маленькі, брудны, цёмны пакой, у тым самым будынку, дзе жыве большая частка колгасьнікаў. Трэба спадзявацца, што праўленьне колгасу дасьць для пляцоўкі месца ў новым доме, пабудова якога будзе скончана ў хуткім часе. У колгасе «Зьвязда», ня гледзячы на тое, што там-жа знаходзіцца сельсавет, да 16 чэрвеня пляцоўка ня мела ніякага памяшканьня, і толькі ішла падрыхтоўка пакою ў сялянскай хаце, дзе зьмяшчаецца школа. Але трэба сказаць, што гэтае памяшканьне ні ў якай меры ня можа задаволіць запатрабаваньняў дашкольнай установы. Ёсьць у колгасе кулацкая сяліба, гаспадары якой высланы за межы БССР. Там добры дом, вялікі двор, садок; трэба толькі ачысьціць гэтае памяшканьне ад розных рэчаў, што заграмаджаюць яго. Пры большасьці пляцовак ёсьць вольная плошча, дзе можна праводзіць аздаравіцельную кампанію, а пры некаторых—сад, лес. Пляцоўкі маюць і належнае абсталяваньне: ёсьць столікі і на іх цырата, лаўкі са сьпінкамі, вешалка, шафы, рукамыйнікі, ручнікі (іх прынесьлі дзеці з дому), аптэчкі, эмаляваныя міскі, конаўкі, відэльцы, лыжкі (у колгасе «Прогрэс» лыжкі і талеркі дзеці прынесьлі з дому). Таксама закуплены вядзёркі, савочкі, лейкі, рыдлёвачкі, тачкі, пясочныя прылады, мячы, дзіцячыя кніжкі, розная папера, алоўкі, нажнічкі, будаўнічы матар'ял. Не хапае прылад для арганізацыі політэхнічнага выхаваньня.

5. Кормяць дзяцей на пляцоўцы 2-3 разы ў дзень—у залежнасьці ад ліку гадзін працы. Продукты адпускаюцца колгасамі і коопэрацыяй. Кухні для варкі стравы існуюць альбо ў асобных пакоях пры пляцоўках (колгас «Прогрэс» і саўгас імя Леніна), альбо ў хатах колгасьнікаў, якія больш-менш адпавядаюць санітарна-гігіенічным запатрабаваньням і якія знаходзяцца блізка каля пляцоўкі (колгасы «Колас», Сэмафор»). У якасьці кухарак працуюць вызваленыя ад іншай работы колгасьніцы, а ў некаторых месцах кухаркі наймаюцца. Харчаваньне аднаго дзіцяці ў сярэднім абыходзіцца каля 10-15 капеек у дзень.

6. Колькасьць дзяцей на кожнай пляцоўцы—каля 25; наведваюць пляцоўку ў сучасны момант у сярэднім 15-20 дзяцей. Соцыяльны склад дзяцей: пераважна дзеці колгасьнікаў, каля 40% дзяцей беднякоў, на вольныя месцы прымаюцца дзеці серадНякоў.

7. Узрост дзяцей—ад 3 да 8 год. Сустракаюцца дзеці ясельнага ўзросту—ад 6 мес. і вышэй, але ня ў значнай колькасьці.

8. Пляцоўкі працуюць 7-8 гадзін. Толькі надзвычайна вялікая нагрузка на кіраўніка ў колгасе «Прогрэс»—ад 10 да 12 гадзін у дзень.

9. У організацыі пляцовак і пэдагогічнай рабоце кіраўнікі атрымліваюць значную дапамогу з боку настаўніцтва. Трэба падкрэсьліць асаблівую зацікаўленасьць у організацыі дашкольнага выхаваньня з боку настаўнікаў у колгасах «Колас» і «Сэмафор». Няма ніякай сувязі з настаўніцтвам у саўгасе імя Леніна. Што датычыцца праўленьня колгасаў, дык трэба сказаць, што ня ўсе яны звярочваюць дастатковую ўвагу на работу пляцовак. Лепшыя дасягненьні ў сэнсе сувязі з праўленьнямі колгасаў мы маем у «Коласе» і «Сэмафоры». Робяцца крокі, каб наладзіць сувязь з піонэрскімі, комсамольскімі і жаночымі організацыямі ў тых месцах, дзе яны ёсьць, зацікавіць іх пляцоўкай і прыцягнуць да ўдзелу ў пэдагогічнай рабоце на пляцоўцы і ў кіраўніцтве ёю. У колгасе «Колас» можна было бачыць, як паасобныя піонэры прымаюць удзел у занятках з дзяцьмі.

10. Кіраўнікі пляцовак у колгасах вядуць грамадзкую работу: прымаюць удзел у выданьні колгасных насьценгазэт, у драмгурткох («Колас», «Сэмафор»), уваходзяць у культкомісію («Колас»), удзельнічаюць у ліквідацыі няпісьменнасьці і ў рабоце бібліотэкі («Сэмафор»), удзельнічаюць у падрыхтоўцы

колгасных вечароў і ў падрыхтоўцы да політбою («Прогрэс»).

11. З прычыны таго, што работа на пляцоўках распачалася зусім нядаўна, і ў нас быў невялікі тэрмін, мы не маглі паставіць сабе мэтай грунтоўнае абсьледваньне пэдагогічнай работы і больш цікавіліся організацыйнымі пытаньнямі і аказвалі дапамогу кіраўніком у першую чаргу ў гэтым напрамку.

Наладжваючы выезды ў колгасы, мы лічым сваёй задачай ня толькі зрабіць агляд работы пляцовак, але і дапамагчы маладым кіраўніком у штодзённай рабоце іх—і гэта галоўнае. І таму, калі прыходзілася заўважаць тыя ці іншыя недахопы ў галіне організацыйнай работы, фінансава-гаспадарчай, альбо пэдагогічнай, рабіліся адпаведныя заўвагі з мэтаю зьнішчэньня іх. Акрамя таго, прыходзілася даваць адказы на розныя запытаньні з боку кіраўнікоў з самых рознастайных момантаў жыцьця і работы дашкольнае ўстановы. Прыходзілася весьці перамовы з прадстаўнікамі праўленьняў колгасаў, прадстаўнікамі мясцовай улады, настаўніцтвам, каб агульнымі сіламі палепшыць работу дзіцячых пляцовак.

Гэтым задача, узятая на сябе школай і дзіцячым садам, ня вычэрпываецца. Трэба наладзіць яшчэ выезды ў іншыя раёны, дзе працуюць нашы вучні, і на працягу ўсяго летняга адпачынку праз дзіцячы сад падтрымліваць сувязь з імі, каб работа іх у колгасах дала лепшыя вынікі.

---

Р. Кугель

# Хуткія тэмпы падрыхтоўкі кадраў і мэтод навучальнай работы

*(Вынікі пераходу да замацаваных заняткаў на рабфаку БДУ)*

1929-30 гады былі выдатнымі гадамі ў гісторыі разьвіцьця менскага рабфаку БДУ. У гэтыя гады, пад кіраўніцтвам комуністых-настаўнікаў, адбылася вострая барацьба за марксыцка-ленінскую мэтодолёгію ў выкладаньні дысцыплін, а таксама за больш мэтазгодныя мэтоды распрацоўкі навучальнага матар'ялу. У той час, як у 1929 г. значная ўвага аддавалася пытаньням мэтодолёгіі, у 1930 годзе найбольшая ўвага аддавалася пытаньням мэтоду работы.

У гэтым артыкуле мы застановімся на мэтодычнай рабоце рабфаку апошняга году і яе выніках.

Да апошняга часу на рабфаку, пры правядзеньні ляборапорнага пляну, быў так званы вольны расклад заняткаў. Увесь час як з боку настаўнікаў, так і з боку саміх студэнтаў выяўлялася нейкае нездавальненьне гэтым мэтодам прыстасаваньня ляборапорнага пляну. Для таго, каб высьветліць карэньні гэтага нездавальненьня, трэба ў кароткіх рысах даць малюнак таго, як праводзіўся ляборапорны плян.

Кожны настаўнік у пачатку месяца праводзіў уступную конфэрэнцыю, на якой лекцыйна знаёміў студэнтаў са зьместам тэмы. Пасьля гэтага, як правіла, настаўнік ня бачыў студэнтаў да моманту здачы студэнтамі свайго заданьня. Зусім зразумела, што настаўнік амаль што зусім не сачыў за процэсам работы студэнта і аб ведах студэнтаў рабіў вывад па тых невялічкіх гутарках, якія вёў за студэнтам пры здачы ім заданьня. Зусім зразумела, што настаўнік па сутнасьці ня быў кіраўніком студэнта ў яго складанай рабоце над заданьнямі, а таксама ня меў магчымасьці весьці сур'ёзны вучот яго работы.

Апрача гэтага, трэба яшчэ адзначыць наступныя недахопы, якія назіраліся пры вольным раскладзе заняткаў. 1. Няправільная давалася дозыроўка матар'ялаў: кожны настаўнік, ня ведаючы здольнасьці кожнага студэнта, асобна даваў альбо менш альбо больш матар'ялаў. У большасьці выпадкаў настаўнікі давалі *звыш* нормальную дозыроўку. Зусім зразумела, што няправільная дозыроўка

матар'ялаў дрэнна адбівалася на рабоце студэнта: студэнт не пасьпяваў своечасова выконваць заданьне і быў прымушаны адставаць. Утварыліся славутыя «хвасты», як студэнты завуць нязданыя ў свой час заданьні. Трэба яшчэ адзначыць, што студэнт, бачачы, што ён адстае, дзяліў дысцыпліны на больш важныя і менш важныя, што прыводзіла да павярхоўнай прапрацоўкі шэрагу дысцыплін, асабліва грамадзкіх. 2. Наглядалася дрэнная дысцыпліна і слабая напружанасьць у рабоце студэнта. Пэўная частка студэнтаў скарыстала вольны расклад так, што прыходзіла працаваць тады, калі яна жадала. Праца нагул была са слабай напружанасьцю. Такое зьявішча можна тлумачыць тым, што адсутнічаў колектыўны контроль з боку саміх студэнтаў, а таксама адсутнічалі такія формы работы, якія-б штурхалі студэнта своечасова выконваць свае абавязкі. Усе спробы ліквідаваць такія адносіны не давалі дадатных вынікаў.

Мы абмяжуемся гэтым кароценькім малюнкам .правядзеньня лябораторнага пляну на рабфаку БДУ. З яго відаць, у чым сутнасьць недахопаў так званага вольнага раскладу заняткаў.

Невыпадкова, што сярод настаўнікаў і студэнтаў пайшлі гутаркі аб тым, што трэба зрабіць значныя зьмены ў мэтодзе работы. Асабліва гэтыя гутаркі ўзмацніліся ў сувязі з тым, што была пастаўлена задача паскорыць тэмпы падрыхтоўкі кадраў.

Усьлед было ўзьнята пытаньне аб тым, што трэба паспрабаваць праводзіць *замацаваныя* заняткі. Пасьля *доўгіх* спрэчак такая спроба была зроблена ў гэтым годзе. Для вывучэньня вынікаў гэтай спробы была вылучана комісія з аўторытэтных настаўнікаў, якая дасканала вывучыла ўсе матар'ялы па кожнаму прадмету ў паасобку.

Аб чым гаворыць спроба правядзеньня замацаваных заняткаў?

Усе настаўнікі, якія мелі два-тры месяцы практыкі правядзеньня замацаваных заняткаў, у адзін голас гавораць аб тым, што замацаваныя заняткі ў значнай меры палепшылі напружанасьць і дысцыпліну ў рабоце студэнтаў, далі настаўніку магчымасьць сачыць за процэсам работы студэнта, вывучыць пытаньне аб дозыроўцы матар'ялу і зьнішчылі амаль што так званыя «хвасты».

Чаму атрымаліся такія рэзультаты пры замацаваных занятках?

Для таго каб даць адказ на гэтае пытаньне, трэба паказаць, як праводзіліся замацаваныя заняткі.

Усе дысцыпліны былі падзелены на некалькі груп, пры чым у кожную дэкаду вывучалася вядомая група дысцыплін. Студэнты павінны былі абавязкова апрацоўваць гэтую групу дысцыплін у вызначаны для іх час, пры чым над кожнай дысцыплінай у вызначаны час павінна была працаваць уся група. Уступная конфэрэнцыя праводзілася ў пачатку работы студэнта, а заключная— праз дзень альбо два пасьля скончэньня лябораторнай работы. У часе лябораторнай работы ў лябораторыі ўвесь час прысутнічаў настаўнік. Пры замацаваных занятках напружанасьць і актыўнасьць настаўніка значна палепшыліся. Ён увесь час знаходзіўся з студэнтамі, гутарыў з імі па асноўных пытаньнях заданьня, дапамагаў ім вырашаць пытаньне тэмы заданьня, уразумець цяжкія месцы матар'ялаў і г. д. Зусім зразумела, што такая роля настаўніка ў процэсе работы студэнта дае магчымасьць студэнту ў значнай меры карыстацца дапамогай настаўніка, а настаўніку—бесьперапынна сачыць за тым, як ідзе процэс работы студэнта, і як студэнт разумее прапрацаваны матар'ял.

Замацаваныя заняткі паставілі востра пытаньне аб формах вучоту работы студэнтаў. Як мы паказалі вышэй, пры вольным раскладзе заняткаў настаўнік улічваў рэзультаты работы студэнта праз так званую здачу студэнтамі заданьня.

Прымаючы пад увагу тое, што пры вольным раскладзе заняткаў студэнт меў магчымасьць распрацоўваць заданьне цэлы месяц, настаўнік меў даволі часу на прыём заданьня ў студэнта. Акрамя гэтага, адсутнасьць консультацыі настаўніка ў процэсе прапрацоўкі заданьня студэнтамі прымушала настаўніка зьвярнуць галоўную ўвагу

на прыём заданьня, як на галоўную форму вучоту работы студэнтаў.

Пры замацаваных занятках высьветлілася, што старая форма вучоту работы студэнтаў знаходзіцца ў супярэчнасьці з новымі формамі работы. Паўстала пытаньне аб *новай форме* вучоту работы студэнтаў. Трэба адзначыць, што гэта надта складанае пытаньне яшчэ ня вырашана. Сярод настаўнікаў ёсьць супярэчныя рашэньні яго. Ёсьць настаўнікі, якія лічаць, што пры замацаваных занятках зусім не патрэбна такая форма вучоту ведаў студэнтаў, як прыём заданьня. Гэтыя настаўнікі гавораць наступнае: з тае прычыны, што настаўнік увесь час прысутнічае ў лябараторыі, бесьперапынна сочыць за работаю студэнтаў, прымае актыўны ўдзел у распрацоўцы студэнтамі ўсяго заданьня, падрабязна знаёміцца з тымі пісьмовымі працамі, у якіх студэнт больш-менш дасканала выказвае свае веды, дык *асобны прыём заданьняў не патрэбен.* Яны прапануюць павялічыць колькасьць гадзін на заключную конфэрэнцыю, на якой, пры актыўным удзеле ўсіх студэнтаў, трэба падвадзіць вынікі па прапрацованай тэме, паглыбляць ужо знаёмыя асноўныя проблемы. Гэтыя настаўнікі прыводзяць яшчэ і той мотыў, што пры замацаваных занятках студэнту, які павінен працаваць усе тыя гадзіны, што адведзены на лябараторную работу, няма калі здаваць заданьняў. А з другога боку, калі настаўнік прымае заданьне, ён ужо ня мае магчымасьці консультаваць астатніх студэнтаў.

Другія настаўнікі, праўда адзінкі, лічаць, што няма ніякай патрэбы ў новай форме вучоту работы. Гэтыя настаўнікі, на жаль, не даюць грунтоўных аргумэнтаў у карысьць свае думкі. Атрымліваецца ўражаньне, што гэтыя настаўнікі наогул не даацэньваюць тых дадатных бакоў, якія прынесьлі з сабой замацаваныя заняткі.

Большая частка настаўнікаў прытрымліваецца тае думкі, што новы мэтод работы, бязумоўна, патрабуе і новых форм вучоту.

Яны ня згодны з прапановай—зьнішчыць зусім здачу заданьняў студэнтамі і стаяць на пункце гледжаньня неабходнасьці пастаноўкі здачы заданьня на новай аснове. Нельга сказаць, каб гэтыя настаўнікі зусім выразна паказалі, як практычна рэформаваць старыя формы вучоту ведаў студэнта.

Гэта супярэчнасьць думак аб форме вучоту работы сьведчыць аб тым, што практыка яшчэ ня досыць багатая, каб утварыць устойлівую форму вучоту работы студэнтаў.

Тут трэба ўлічваць featnastaйныя ўмовы работы па розных дысцыплінах, а таксама па розных курсах. Студэнт першага курсу, які толькі прыступае да вучобы і яшчэ сам ня ўмее працаваць, патрабуе штохвіліннай дапамогі настаўніка. Зразумела, што зусім інакш стаіць пытаньне са студэнтамі апошніх курсаў. Гэтыя таварышы прайшлі ўжо добрую школу навучальнай работы і могуць працаваць самастойна.

Таксама featnastaйныя ўмовы работы па дысцыплінах прыродазнаўчых і так званых дакладных і грамадзкіх дысцыплінах. Усе гэтыя асаблівасьці, бязумоўна, трэба ўлічваць пры рашэньні такога складанага пытаньня, як форма вучоту работы студэнтаў.

Вось у кароткіх рысах тыя зьмены, якія мы маем у формах работы студэнтаў рабфаку і таксама тыя проблемы, якія ўзьнікаюць у новых умовах работы. Як мы бачылі, рабфак у мэтодзе работы зрабіў значны пералом. Па новаму стаіць цяпер пытаньне аб характары і зьмесьце ўступнай конфэрэнцыі, лябораторнай рабоце студэнтаў, формах вучоту гэтае работы і заключнай конфэрэнцыі. Мэтодычная думка настаўнікаў зараз дапытліва працуе над імі і на практыцы шукае шляхоў іх вырашэньня.

Але тут паўстае буйнае прынцыповае пытаньне: ці ня супярэчаць замацаваныя заняткі зьместу лябораторнага пляну? На першы погляд здаецца, што лябораторнаму пляну адпавядае толькі вольны расклад заняткаў. Думаюць, што толькі вольны расклад заняткаў утварае ўмовы для поўнага выяўленьня ўсіх здольнасьцяй індывідуальнасьці студэнта. Нам здаецца, што да гэтага пытаньня нельга падыходзіць мэханічна, што трэба ўліч-

ваць конкрэтныя ўмовы студэнцкай аўдыторыі.

Што зьяўляецца галоўным у лябораторным пляне? Галоўнае ў ім—гэта стварэньне лепшых умоў для максымальнай актыўнасьці студэнта, дапасаваньня навучальнай работы да здольнасьці і характару кожнага студэнта паасобку, організацыя максымальнай напружанасьці і хуткіх тэмпаў работы. Выходзячы з гэтага, можна падумаць, што замацаваныя заняткі цалкам адмяняюць вольнае распараджэньне сабою студэнта, зьнішчаюць яго ініцыятыву і, такім чынам, зьніжаюць яго самастойнасьць і актыўнасьць. Але гэта здаецца толькі на першы погляд.

Практыка паказвае, што ніякага зьнішчэньня ініцыятывы студэнтаў, ніякага зьнішчэньня іх актыўнасьці няма, што, наадварот, пры замацаваных занятках значна падвышаюцца напружанасьць і тэмп рботы студэнта, ствараюцца ўмовы для спаборніцтва паміж студэнтамі. У значнай меры ўплывае на ўсіх студэнтаў яшчэ і тое, што ўся група працуе над адным заданьнем, жыве гэтым заданьнем. Гэта прыводзіць да таго, што цікавасьць да тэмы падвышаецца, у часе работы ўзьнікаюць такія пытаньні, такія думкі, якія раней ня ўзьнікалі і г. д. Пры замацаваных занятках студэнт можа самастойна працаваць і з групай, так што ў гэтым сэнсе студэнт не пазбаўляецца свае ініцыятывы.

Практыка паказала, што пры вольным раскладзе заняткаў у рабоце студэнта ўзьнікае нейкая анархія, нават разьвіваюцца элемэнты індывідуалізму, мае месца вялікае спазьненьне ў здачы заданьняў, адставаньне студэнтаў і г. д. Адным словам, адсутнічае стымул да паскарэньня тэмпаў работы. Невыпадкова тое, што ва ўсіх навучальных установах заўсёды стаіць пытаньне аб гэтай славутай анархіі, аб спазьненьні, слабых тэмпах работы і г. д. Нам здаецца, што пры вольным раскладзе заняткаў ніколі ня ўдасца ўтварыць тыя тэмпы работы, якія нам зараз патрэбны.

Сучасныя *хуткія тэмпы падрыхтоўкі* кадраў патрабуюць зрабіць некаторыя зьмены ў мэтодзе навучальнай работы. Толькі той мэтод адпавядае буйным тэмпам падрыхтоўкі кадраў, які ўвесь час штурхае студэнтаў да хуткіх тэмпаў работы. Няма сумненьня, што замацаваныя заняткі, пры лябораторным пляне, *стымулююць хуткія тэмпы работы* студэнтаў. Таксама можна сказаць, што пры замацаваных занятках *падвышаецца і якасьць* работы студэнтаў.

Вопыт менскага рабфаку трэба дасканала вывучыць і тое добрае і карыснае, што ёсьць у ім, пачаць прыстасоўваць у іншых навучальных установах.

Д. Л.

# Вынікі працы ленінскай 7-годкі за мінулы год

Выходзячы з папярэдняга падліку ўмоў працы, школай быў складзены агульны вытворчы плян працы на ўвесь год. Плян меў наступныя разьдзелы:

1. Кароткі краязнаўчы нарыс школьнага раёну, які зьмяшчаў у сабе пералік прыродных, гаспадарчых і культурна-бытавых асаблівасьцяй, якія неабходна было мець на ўвазе пры далейшым плянаваньні навучальна-выхаваўчай працы.

2. Задачы школы, якія адбіваюць патрэбы школьнага раёну ў сувязі з агульнымі задачамі навучальна-выхаваўчай працы.

3. Адміністрацыйна-організацыйная частка, дзе прадугледжан бюджэт школы, комплектаваньне вучнямі, разьмеркаваньне працы сярод настаўніцтва, пераход на бесьперапынны тыдзень і інш

4. Разьдзел навучальна-выхаваўчай працы. Ён зьмяшчаў у сабе схэмы і этапы плянаваньня програмнага матар'ялу, прадбачыў акадэмічную дапамогу адстаючым батрацка-бядняцкім вучням і наогул барацьбу з другагодніцтвам, формы

вучнёўскага самакіраваньня і грамадзкакарысную працу.

5. Сувязь з савецкай грамадзкасьцю, дапамога колгасу, ліквідацыя няпісьменнасьці, праца ў сельсавеце сярод беднякоў і ўдзел ва ўсіх політычна-гаспадарчых кампаніях.

6. Віды і формы падліку працы.

Такім парадкам вытворчы гадавы плян працы школы зьмяшчаў у сабе шэраг конкрэтных заданьняў, проектаў, якія зьяўляліся пэўнай устаноўкай у будучай гадавой працы.

Гэтыя заданьні шырока популярызаваліся сярод колектыву школы; яны былі абгавораны з пачатку году, а таксама ў кожным паасобным разе перад выкананьнем кожнага заданьня. Гэта давала магчымасьць кожнаму настаўніку добра ўсьвядоміць сабе канчатковую мэту выкананьня таго ці іншага заданьня. З мэтай набыцьця колектывістычных звычак процэс выкананьня кожнага з заданьняў павінен быць адпаведна організованы, чаму надавалася надзвычайна вялікае значэньне. Пры гэтым мэтод соцспаборніцтва быў выкарыстаны належным чынам. Спаборнічалі па клясах, а таксама па выкананьні асобных заданьняў сэкцыі і арцелі. Школьны колектыў выклікаў на соцспаборніцтва Лучнікоўскую сямігодку. Узаемная праверка выкананьня соцспаборніцтва паміж колектывамі зьяўлялася перадачай вопыту працы.

У сваіх больш складаных працах школа зьвярталася за дапамогай да некаторых навуковых устаноў, але-ж дапамогі ад іх не атрымала.

Вывучэньне прыродных умоў адбывалася прымітыўна, і, як некаторы вынік, атрымаўся толькі кароткі краязнаўчы нарыс гэтага раёну школы па разьдзелу прыроды, чаго школа да гэтага часу ня мела.

У справе ўдзелу ў экономіцы школьнага раёну высунут быў цэлы шэраг проектаў. Хронолёгічна першы з іх—гэта ўдзел у хлебанарыхтоўчай кампаніі. Скарыстаўшы мэтод соцспаборніцтва, вучні захоплены былі зборам мяшкоў. Школе прышлося склікаць бацькаўскі сход і растлумачыць пра неабходнасьць удзелу школы ў гэтай кампаніі і пра карысьць ад гэтага для самой школы.

На працягу двух тыдняў сабрана было да 220 мяшкоў, якія школа і перадала коопэрацыі.

Такім падыходам да вучняў і іх бацькоў сабрана 30 цэнтнераў утыль-сыравіны, з якіх 10 цэнтнераў перададзены колгасу „Прогрэс“, а рэшта—колгасу „Леніна“. Для апошняга сабрана попелу $2^1/_2$ тоны і ачышчана 25 тон насеньня.

Па рэалізацыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі таксама маем дасягненьні. Распаўсюджана сярод насельніцтва на 270 р. облігацый, куплена вучнямі облігацый на 200 рублёў.

Па кожнаму з відаў пералічаных работ організоўваліся вучнёўскія брыгады. Кожная брыгада выпрацоўвала плян свае працы і дасканала абмяркоўвала пытаньне, як выканаць заданьне. Пасьля выкананьня падагульнялі працу, выяўляючы адмоўныя бакі яе.

Для паляпшэньня соцыяльна-бытавых умоў выбрукавана плошча школьнага двара, а таксама дапамагалі ў абсталяваньні коопэрацыйнай крамы.

За навучальны год была распаўсюджана падпіска на газэты на 330 руб. Найбольшая ўвага была зьвернута на пашырэньне кніг сельска-гаспадарчага зьместу і на газэту „Беларуская Вёска“. Як вынік свае работы, школа атрымала ад рэдакцыі „Б. В“ прэмію.

Школа навучала грамаце 86 чалавек няпісьменьных, з якіх 60 асоб ліквідавалі сваю няпісьменнасьць.

Зьвернута была належная ўвага на павялічэньне прылад габінэтаў. Апошнія папоўнены на суму 500 руб. з сродкаў райбюджэту. Бібліотэка ачышчана і папоўнена на суму да 550 руб. з бюджэту спэцсродкаў. Самаабкладаньне бацькоў на гэту справу дало 150 рублёў.

Організавана сталярная майстэрня з трох варштатаў з трыма комплектамі начыньня.

Гуртком выкананы некаторыя працы для птушатніка і парніка. Абсталявана пераплётная. Пераплётны гурток пераплёў да 130 паасобных кніг.

Школа брала непасрэдны ўдзел у організацыі 3 колгасаў.

Апрача практычнай працы па організацыі колгасаў, школай наладжваліся

выхады ў вёску з мастацкімі пастаноўкамі, хорам, дэклямацыямі, афяраванымі колектывізацыі.

Былі організаваны сэкцыі: гародная, птушкаводная, пчалярская і садовая. Да кожнай з гэтых сэкцый быў прымацованы настаўнік, які дапамагаў сваёй сэкцыі.

Парніковая сэкцыя, ці гародная, распачала сваю працу з лютага месяца, бо з восені ніякай падрыхтоўчай работы ня было зроблена. Дарэчы, у час капаньня зямлі вучнямі быў знойдзены залаты скарб на суму 45 руб., якія пайшлі на карысьць школы.

Гародна-парніковая сэкцыя са сваёю работаю зусім справілася. Усяго здаволена рассадай 3 колгасы і шмат індывідуальных гаспадарак. Рознай рассады раздадзена болей дзесяці тысяч штук. Апроч гэтага, вырашчаны яшчэ раньнія гуркі.

У сакавіку месяцы птушкаводная сэкцыя абсталявала птушатнік, скарыстаўшы для гэтага будынак-сьвіран, які ўцяпліла і накрыла. Пры гэтым плошчу пры птушатніку ізолявала ад усялякіх драпежнікаў. Гатунковых птушак ня шукалі. Узяліся працаваць над мясцовай пародай курэй. Сябры сэкцыі забясьпечвалі птушатнік квактухамі, прыносячы іх для часовага карыстаньня. Вучні зьбіралі для квахтух яйкі ад лепшых курэй. Была магчымасьць скарыстаць інкубатар, які знаходзіўся ў колгасе „Карла Маркса“, але-ж апошні адмовіў, ня гледзячы на тое, што ім інкубатар не скарыстаны. Усё-ж удалося вывесьці да 100 куранят. У будучым годзе мяркуецца пашырыць значна гэты птушатнік.

Пчалярная сэкцыя закладзена ў красавіку месяцы з пчол, якія перададзены пад нагляд школы колгасам „Леніна“. Ёсьць адпаведная сэкцыя, якая выконвае ўсю працу па дагляду за пчоламі.

Садоўнічая сэкцыя вядзе дагляд над садамі колгасу і школы і разводзіць новыя садовыя дрэвы.

Праводзячы працу практычна, кожная сэкцыя займаецца роўналежна і тэарытычнымі пытаньнямі.

Пэрыодычна вылучаюцца сэкцыямі дзяжурныя, якія рэгулярна даглядаюць сваю галіну працы і робяць справаздачы на сэкцыях.

Кожная з сэкцый пры сканчэньні навучальнага году вылучыла сваіх сяброў, па адным ад кожнай сэкцыі, на экскурсію ў г. Менск, забясьпечыўшы сродкамі з бюджэту сваёй часпадарчай галіны.

На летні час усе сэкцыі, апроч гародніцкай, пакінулі толькі сваіх дзяжурных, якія і выконваюць працу.

Гародніцкая сэкцыя працуе і летам. Школьны гарод разьбіты на дзялянкі, а да апошніх прымацаваны адпаведныя сябры, якія іх полюць і наогул даглядаюць.

Як бачым, школа паступова перарастае ў вытворчы сельскі комбінат. Школа, бяручыся за гэту справу, ня мела належнага вопыту, але ўсё-ж дасягненьні ёсьць нямалыя. Тут адыграла значную ролю ініцыятыва пэдагогічнага колектыву.

Самая цяжкая работа гэта організацыя працы ў сэнсе ўвязкі вытворчых элемэнтаў працы з тэорыяй; з гэтым школа яшчэ ня зусім справілася.

Вельмі цікава зазначыць, што пры такой вытворчай працы экадэмічная пасьпяховасьць значна падвысілася. Калі ў папярэднім годзе яна дасягала 88 проц., дык сёлета дасягнула 93 проц. Акадэмічная пасьпяховасьць батрацка-бядняцкіх дзяцей таксама адпаведна ўзьнялася. Процант прагулаў вучняў зьнізіўся з 9 да $5^{1}/_{2}$ проц.

У праведзенай працы органы вучнёўскага самакіраваньня прымалі добры ўдзел: усе вытворчыя пытаньні імі прапрацоўваліся.

Добра дапамагала ў працы савецкая грамадзкасьць, асабліва колгас „Леніна“, які заўсёды ішоў насустрач усім патрэбам школы і якому школа ў сваю чаргу найбольш дапамагла. У будучым і ўсе колгасы, бязумоўна, пераканаюцца, што ўдзел школы ў вытворчасьці ня ёсьць дзіцячая гульня, а праца сур'ёзная, якая дае значныя вынікі.

# У ДАПАМОГУ ДЗІЦЯЧАЙ ПЛЯЦОЎЦЫ

Крупецкая і Рудакоўская

## Зьмест пэдагогічнай работы на летняй дзіцячай пляцоўцы [1])

### Жывое слова і кніга на дзіцячай пляцоўцы

Работа па жывому слову на пляцоўцы павінна забясьпечыць дзіцяці правільнае, сыстэматычнае і дастатковае разьвіцьцё звычак мовы, бо з моўнаю дзейнасьцю дзіцяці зьвязаны ўсе складаныя процэсы яго псыхічнага жыцьця.

У пэдагогічную работу па разьвіцьцю звычак мовы ўваходзяць стымуляваньне дзіцячай мовы, яе выпраўленьне ў адносінах вымаўленьня, пабудовы сказу і ўзбагачэньне запасу слоў. Мэтоды работы над звычкамі мовы наступныя: гутаркі, апавяданьне, разгляд малюнкаў, чытаньне, сьпевы, вывучэньне вершаў, пазьней пісьмо і чытаньне саміх дзяцей.

Гутаркі пранізваюць усё жыцьцё пляцоўкі. Яны маюць цесную сувязь з плянам і інтэрэсамі дзяцей і колектыву. Гутаркі могуць мець рознастайныя формы. Праз гутаркі пэдагогу лягчэй за ўсё азнаёміцца з індывідуальнымі асаблівасьцямі дзіцяці і стаць бліжэй да дзіцячага колектыву.

Гутаркі зьяўляюцца формай арганізаванай размовы. Гутаркі падводзяць дзяцей да правільнай формы выказваньня на адну тэму, навучаюць сачыць за моваю іншых, гаварыць перад колектывам.

У гутарцы з дзяцьмі пэдагогу трэба сачыць за сваёю моваю, каб яна была простая і зразумелая дзецям. Працяглась́ць гутарак павінна быць ад 10 – 15 хвілін для старэйшых і 5—8 хвілін для малодшых дзяцей, бо малыя дзеці ня могуць доўга напружваць сваю ўвагу на адным моманце.

Апавяданьне мае мэту зацікавіць і накіраваць дзіця і ўвесь колектыў да дзейнасьці.

Апавяданьне, як і іншыя віды жывога слова, цесна зьвязваюцца з плянам работы, але трэба адзначыць, што апавяданьне даецца і па-за плянам, калі гэтага патрабуюць дзіцячы інтэрэс і жыцьцё пляцоўкі. Апавяданьне даецца дзецям вусна. Толькі калі-ні-калі можна пачытаць дзецям, але для гэтага пэдагогу трэба ажывіць тэкст і ня губляць сувязі з колектывам слухачоў.

Перад тым, як даваць дзецям апавяданьне, трэба пэдагогу добра азнаёміцца з апавяданьнем і адзначыць галоўныя моманты ў ім: 1) завязку, 2) моманты найбольшага напружаньня і 3) разьвязку, дзеля таго, каб гэтыя месцы адзначыць інтонацыяй голасу. Апавяданьне павінна быць простае і зразумелае. Для малодшых дзяцей асноўнымі відамі жывога слова зьяўляюцца размова, гутарка па малюнках і невялічкія, блізкія дзецям апавяданьні, бо ўвага іх доўга сконцэнтраванай на адным прадмеце ня можа быць.

Казак ня трэба даваць дзецям, бо яны з ідэолёгічнага і соцыяльнага боку ня могуць быць матар'ялам для выхаваньня патрэбнага нашай эпосе чалавека.

Кніжка для дашкольніка павінна быць прыстасавана да яго асаблівасьцяй: няўстойлівай увагі, хуткага адхіленьня, рухавасьці і г. д. Кніжка павінна быць цікавая, конкрэтная, зразумелая і мець мала апісальных момантаў. Зьмест павінен разгортвацца хутка, і дзеі павінны ісьці адна за другой, улічваючы асяродзьдзе і ўзрост. Зьмест дзіцячай кніжкі

[1]) Пачатак гл. у № 5. „К. В.“.

павінен быць узяты з сучаснай рачаіснасьці, у якой дзіця пазнае аб клясавай барацьбе, у якой пролетарыят застаецца непераможным.

З мастацкага боку кніжка не павінна быць складанай па зьместу, мова кнігі павінна быць ясная, простая, гука-прыкладная, вобразная. Малюнкі павінны быць сапраўднымі па форме і колеру.

Усе дзіцячыя кніжкі паводле зьместу могуць быць наступныя:

1) грамадзка-рэволюцыйныя,
2) вытворчыя,
3) прыродазнаўчыя,
4) бытавыя і вясёлыя,
5) кніжкі для 3-годкі.

Для малодшага ўзросту ўжываецца кніжка-малюнак. Малюнак дапамагае дзіцяці лепей зразумець слова, на ім ён бачыць прадмет, а не ўяўляе яго.

Кніжка-малюнак павінна быць:

а) конкрэтная і адлюстроўваць сапраўднасьць;

б) прадметы на малюнку павінны быць даны з боку (напрыклад, конь);

в) малюнак павінен быць схэматычны, поўны;

г) прадметы павінны мець яскравую афарбоўку, адпавядаць сапраўднасьці;

д) ня трэба паказваць на аднэй старонцы шмат прадметаў;

е) павінен быць сапраўдны разьмер (прыклад: гусь—ня большая за сьвіньню);

ж) зьмест павінен мець сувязь з малюнкамі.

**Грамадзка-рэволюцыйная кніжка**

Рэволюцыйная кніжка павінна быць зьвязваючым зьвяном паміж старэйшым і падрастаючым пакаленьнем. Яна павінна адлюстроўваць тыя рэволюцыйныя падзеі, тую сучасную абстаноўку, у якой жывуць дзеці. Мы павінны даць дзецям такую рэволюцыйную кніжку, у якой правільна былі-б паказаны ўсе рэволюцыйныя падзеі ў даступнай і зразумелай форме.

Трэба адзначыць, што на гэтую тэму літаратура бедная з якаснага боку. Добрай кніжкай зьяўляецца кніжка „Дзецям пра Леніна“, у ёй можна знайсьці багаты матар‘ял для апавяданьня дзецям. Для чытаньня самім дзецям—цікавата.

**Вытворчая кніга**

Вытворчая кніга для выхаваньня дашкольніка мае вялікае значэньне; дашкольнікі з вялікай цікавасьцю адносяцца да вытворчых процэсаў. У сваіх гульнях і працы дзеці выяўляюць вытворчыя процэсы і ўносяць у іх знаёмыя матар‘ялы. Трэба падтрымаць у іх гэтую цікавасьць і даваць дзіцяці хоць у малюнках праглядзець увесь працоўны процэс (напр., у хлебапякарні); гэта дае магчымасьць высьветліць процэс.

Калі гэта магчыма, дык лепш працоўны процэс прасачыць на самой вытворчасьці, зрабіўшы туды экскурсію з дзяцьмі.

**Прыродазнаўчая кніга**

Кніга з жыцьця прыроды павінна дапамагаць правільнаму падыходу дзяцей да зьяў і об‘ектаў прыроды на падставе дасьледчай працы саміх дзяцей. Яна зьяўляецца адным з спосабаў падвядзеньня дзяцей да матэрыялістычнага сьветапогляду і таму павінна адлюстроўваць сапраўдныя зьявы прыроды. У прыродазнаўчай кніжцы не павінна быць антропоморфічнасьці, г. зн, наданьня жывёлам чалавечых рысаў і не павінна быць псыхолёгізму (перажываньне жывелай чалавечых пачуцьцьяў—радасьці, маркоты, гора). Гэта не адлюстроўвае сапраўднасьці.

Усё гэта стварае для дзіцяці блытаніну. Дзіця яшчэ ня мае практыкі крытычнага падыходу, яно ўсё прымае за сапраўднасьць, і тым самым затрымліваецца яго разьвіцьцё. Галоўным момантам прыродазнаўчай кнігі зьяўляецца момант пазнаваньня, і таму суадносіны кніжкі з плянам работы ў прыродзе павінна быць абавязкова. Кніжка дасца пасьля прапрацоўкі якой-небудзь тэмы (напр., гарод), калі ў дзяцей ўжо ёсьць сувязь з прыродаю. Кніжкаю можна накіраваць дзіця на далейшыя назіраньні.

Бытавая кніжка павінна зьмяшчаць у сабе элемэнты новага быту, жыцьцё дзіцячага колектыву, акцябрат, піонэраў.

Вясёлая кнiжка мае на мэце выклiкаць бадзёры i радасны сьмех. Выклiкаецца сьмех пэўнай радасьцю: рытмам, гучнасьцю i некаторай нечаканасьцю; важна ня толькi тое, што дзiця сьмяецца, але i зьмест кнiгi.

Мэтодыка чытаньня кнiг. Пры чытаньнi кнiжак трэба дзецям ведаць, што чытаньне ня ёсьць лёгкi i спакойны занятак; яно патрабуе напружаньня, i нельга чытаць дзецям, калi яны зморады. Чытаньне павiнна працягвацца для старэйшых 15-20 хвiлiн, для малодшых—8-10 хв. За адзiн раз трэба даць толькi адну новую кнiжку, у месяц ня больш —3-4-х.

Кнiгi трэба падзяляць на тэмы i ў прыпаднясеньнi iх дзецям павiнна быць паступовасьць.

Пры чытаньнi кнiжкi з малюнкамi трэба спачатку пазнаёмiць дзяцей з малюнкамi, а то дзецi ў часе чытаньня адцягваюцца i губляюць цэласнасьць апавяданьня. Чытаньне лепш за ўсё праводзiць у садзе цi на поплаве, але трэба, каб ня было шуму. Рассаджваць дзяцей трэба так, каб яны бачылi пэдагога, а пэдагог iх.

### Месца граматы i лiчэньня на летняй пляцоўцы

У дашкольных установах граматa i лiчэньне ня ўводзяцца як асобны прадмет заняткаў з дзяцьмi, а зьяўляюцца часткаю ўсяе пэдагогiчнае работы.

Граматa i лiчэньне павiнны цесна ўвязвацца з усёю жывою дзейнасьцю дзяцей, адлюстроўваць iх зацiкаўленасьць i выходзiць з iх запатрабаваньняў. На летняй пляцоўцы як у горадзе, так i ў вёсцы галоўная ўвага аддаецца аздараўленьню дзяцей, таму сыстэматычных заняткаў па грамаце i лiчэньню не павiнна быць, але агульная арганiзацыя дзiцячага колектыву, грамадзкае жыцьцё, праца, гульнi—усё гэта патрабуе ўвядзеньня элемэнтаў граматы i лiчэньня ў жыцьцё пляцоўкi. Летнiя пляцоўкi часта арганiзуюцца для дзяцей мяшанага ўзросту (як для дашкольнага, гэтак i для школьнага), таму i падрыхтоўка дзяцей бывае неаднолькавая. Прыкладны аб'ём звычак па грамаце для 3-5-годак: навучыць дзяцей пазнаваць сваё iмя з малюнкамi, навучыць уладаць алоўкам, умела карыстацца сшыткам i кнiжкай.

Для 5-8-годак—умець прачытаць сваё iмя па друкаванаму шрыфту без малюнку.

Для старэйшага ўзросту—умець напiсаць сваё iмя, пазнаваць знаёмыя словы (набыць некаторы запас слоў).

#### а) Мэтод навучаньня грамаце дашкольнiкаў

Грунтоўным мэтодам навучаньня грамаце зьяўляецца мэтод цэлых слоў (сутнасьць гэтага мэтоду палягае ў тым, што ў аснову бярэцца цэлае слова, як узор, падмацоўваемы i ўвязаны са зрокавымi i слухавымi ўражаньнямi (напр., рама, стол).

Якiя браць словы?

1) Словы павiнны быць кароткiя; 2) простыя ў адносiнах вымаўленьня i напiсаньня (дом, рука, нага, дуб); 3) зусiм блiзкiя i зразумелыя дзецям; 4) даступныя для перадачы iх пры дапамозе малюнкаў; 5) зьвязаныя з арганiзуючымi момантамi.

Гэты мэтод навукова абгрунтаваны i ўведзены ў заняткi з дашкольным узростам амаль што ва ўсiх краiнах. Як у часе гульняў дзецi часта зварочваюцца з просьбаю напiсаць iм тое цi iншае слова, патрэбнае для большай яснасьцi (напр., гуляючы ў коопэрацыю, дзецi просяць напiсаць слова „коопэратыў" „каса" ды iнш.), так i ў часе працы ў дзяцей ёсьць патрэба ва ўжываньнi цэлых слоў (напр., у кутку працы, кутку санiтары i г. д). Усё гэта кажа за тое, што мэтод цэлых слоў зьяўляецца мэтодам, якi высоўваецца самiм жыцьцём. Навуковыя досьледы пэдолёгii i пэдагогiкi падмацоўваюць магчымасьць прыстасаваньня гэтага мэтоду да дзяцей дашкольнага ўзросту.

#### б) Шрыфт i падручнiкi

У сваiм жыцьцi дзецi больш за ўсё сустракаюцца з друкаваным шрыфтам, напр., газэты, афiшы, шыльды, кнiгi, часопiсы i г. д., i таму лягчэй за ўсё для дзяцей пачынаць пiсаць з друкаванага шрыфту. Апрача таго, друкаваны шрыфт

лягчэй напісаць, а таму зарысоўка слоў і сказаў павінна пачынацца з друкаванага шрыфту.

Падручнікі для дашкольніка павінны быць чытэльныя, добра выкананыя, невялічкіх памераў, бо малыя памеры палягчаюць дзецям выбар матар'ялаў пры самастойнай рабоце. Пытаньне аб афарбоўцы падручнікаў для пісаньня павінна разглядацца з некалькіх пунктаў погляду: 1) з гігіенічнага, г. зн., браць такія колеры, якія выклікаюць найменшую напружанасьць вока (напр., блакітны, а ня чырвоны), 2) з пункту погляду эмоцыянальнага (якія колеры і злучэньні больш за ўсё падабаюцца дзецям і больш ахвотна імі выбіраюцца).

Пераходзім да мэтодычных паказаньняў па навучаньню грамаце. Як мы ўжо адзначалі раней, у дзяцей зьяўляецца патрэба ў тым, каб ім напісалі тое ці іншае слова. Напрыклад, дзіця просіць напісаць словы „коопэратыў", „саўгас", „комуна", „колгас" ды інш. Мы яму гэтыя словы даём, ня гледзячы на тое, што яны цяжкія, і што дзіця іх не запомніць. Даючы гэтыя словы, мы на іх ня спыняем увагі дзіцяці, а зварачваем увагу на такія словы, як імя яго таварыша, ці на іншыя аднаскладовыя і двухскладовыя словы, якія палягчаюць у далейшым работу па аналізу слова, напр.; „Саша", „Маша", „Міша", „Паша", „рукі", „вушы". Па меры таго, як накапіліся словы (прыкладна, 10-15 слоў) і выявіцца зацікаўленасьць дзяцей да граматы, можна для замацаваньня гэтых слоў прапанаваць дзецям запісаць іх, зарысаваць. Калі ў дзяцей зьявіцца зацікаўленасьць да далейшых заняткаў па грамаце, дык можна перайсьці да аналізу слова (дэмонстрацыя картачак з імямі „Ма-ша", „ма-ма", „Па-ша", „ка-ша").

Для разнастайнасьці гэтых заняткаў можна прыдумаць цэлы шэраг гульняў, дзе паўтараюцца вывучаемыя словы. Гэта замацуе ў памяці дзяцей узор слова.

Ня ў меншай меры, чым грамата, практычнай неабходнасьцю ў жыцьці дзяцей зьяўляецца лічэньне. Нам вядома, што практычнае жыцьцё навучае дзяцей лічыць раней, чым яны даведваюцца аб чым-небудзь па грамаце. Няма патрэбы рабіць з-за лічэньня, як і з-за навучаньня грамаце асобную навучальную дысцыпліну. Дзеці набываюць веды па лічэньню і лікавыя разуменьні ў сувязі з хатнім жыцьцём і організаваным жыцьцём на летняй пляцоўцы. Лічэньне прыстасоўваецца да кожнага жыцьцёвага моманту; пачынаецца гэтае прыстасаваньне яго з самымі маленькімі дзяцьмі. Усе лікавыя ўяўленьні, даступныя для дашкольнага ўзросту, дзіця павінна ўзяць з асяродзьдзя, у якім яно жыве і ў якім прымае ўдзел. Жыцьцё, навакольныя абставіны навучаюць лічыць. Выхавацель ці кіраўнік павінны браць з жыцьця і сродкі і матар'ялы. Набыцьцё дзяцьмі лікавых уяўленьняў павінна праходзіць шляхам нагляданьня. Дзіця можа скласьці сабе правільнае ўяўленьне аб ліку ня інакш, як у непарыўнай сувязі з прадметамі.

Пры занятках з дзяцьмі дашкольнага ўзросту падаюцца нагляданьню маленькія лікі ў межах 1-10, таму яны толькі і павінны быць об'ектам нашае ўвагі. Матар'ял, праз які дзіця павінна засвойваць звычкі ў лічэньні, павінен быць заўсёды пад рукою. Ён павінен быць знаёмы дзіцяці, блізкі яму, цікавы, па магчымасьці разнастайны. Дзеці часта ўмеюць лічыць па парадку, але гэтае лічэньне не заўсёды зьяўляецца азмысьленым; наша задача палягае ня ў тым, каб навучыць дзяцей лічыць да 100 і больш, а каб іх уяўленьне аб ліках зьвязвалася з правільным паняцьцем аб ліку (з рэальным значэньнем ліку, колькасьці).

Навакольнае асяродзьдзе дае багаты матар'ял для прапрацоўкі з дзяцьмі матэматычных паняцьцяў: 1) вялікі—маленькі (мячык, талерка, лыжка, вядро); 2) высокі—нізкі (дровы, куст, дом, слуп); 3) доўгі--кароткі (вяроўка, цьвік, аловак, лінейка); 4) таўсты—тонкі (дрэва, палена, кніга, сшытак); 5) шырокі—вузкі (дарога, сьцежка, істужка, дошка); 6) глыбока—мелка (рэчка, шклянка з вадою, студня); 7) хутка—павольна (хадзьба, бег сабакі і чалавека); 8) цяжкі—лёгкі (мяшок з пяском, з паперай, мяшок з каменьнем, з ватаю, яйцо парожняе і поўнае); 9) адзін—шмат (камень, шышкі, ягады і г. д.). (Дэмонстрацыя матар'ялу).

Дзеля замацаваньня лікавых разуменьняў дзецям можна прапанаваць гульні—лато, гульні на матэматычныя паняцьці, (напр., гульня „на выперадкі“ дае разуменьне аб простай лініі). Прыкладныя орыентыровачныя звычкі па матэматыцы для дзяцей дашкольнікаў 3-5 год на летніх пляцоўках палягаюць у ўменьні: 1) адрозьніваць і называць дзень, ноч, (для 5-гадовага ўзросту раніца—вечар), 2) называць пару году—лета.

**Колькасьць і лічэньне**

1. Дзеці ва ўзросьце да 5 год павінны выразна орыентавацца ў колькасьці рэчаў да 5 і ўмець лічыць па парадку ў гэтых межах. Дзеці ад 5 да 8 год павінны ўмець орыентавацца ў часе, адрозьніваць і называць: дзень, ноч, раніцу, вечар, раней, пазьней, зараз, потым, учора, сёньня, заўтра.

2. Дзеці ад 5 да 8 год павінны ўмець называць пару году: зіма—лета.

3. Орыентавацца ў колькасьці і лічыць па парадку ў межах дзесяці.

4. Складаць і аднімаць у межах 1 дзесятку на конкрэтным матар'яле.

**Сувязь з організуючымі момантамі**

Вышэй ужо зазначалася, што ўся работа з дзяцьмі дашкольнага ўзросту праводзіцца шляхам організуючых момантаў. Разьбярэм, як можна ўвязаць работу па навучаньню грамаце і лічэньню з організуючымі момантамі. Пры пляцаваньні кожнага організуючага моманту намячаюцца тры этапы—падрыхтоўка, правядзеньне і замацаваньне атрыманых уражаньняў. Ва ўсе гэтыя этапы ўваходзіць зусім органічна грамата.

Возьмем, напрыклад, такі організуючы момант, як удзел дзяцей у організацыі жыцьця на пляцоўцы. Першай неабходнасьцю пры даным організуючым моманце будзе зьяўляцца рэгістрацыя наведваньня; кожнае дзіця павінна мець сваё месца для ручніка, дзіця ўмее пазнаваць сваё імя на вешалках, яму трэба падпісаць свой малюнак, сшытак, папку.

На пляцоўцы ёсьць скрынка, з асобнымі карткамі— меньнямі дзяцей і дошка рэгістрацыі. Запаўненьне дошкі рэгістрацыі дае дзіцяці наступныя моманты для запамінаньня іменьняў астатніх дзяцей:

1. Калі яно шукае сваю картку сярод іншых.

2. Калі вешае на дошку (іншыя іменьні пападаюцца яго воку).

3. Калі яно ў актыўнай ролі табельшчыка застанаўляе сваю ўвагу на іменьнях тых, што адсутнічаюць, упісваючы іх у вучотны сшытак, і лічыць колькасьць прысутных дзяцей па картках, каб вывесіць лік на дошцы.

2-і варыянт. У дошцы выпілены дзюркі па ліку дзяцей. З заду гэтых дзюрак устанаўляюцца дошчачкі з іменьнямі дзяцей. Па меры патрэбы кіраўніца мяняе іменьні.

Тут грамата зараз жа зьявіцца жыцьцёвай патрэбай.

Існаваньне розных комісій — санітарнай, гаспадарчай і інш.—выклікае патрэбу ў грамаце. Выбар комісій зьвязаны са складаньнем сьпісаў увайшоўшых у яе сяброў; разьмеркаваньне абавязкаў патрабуе запісу таго, хто і якія абавязкі на сябе ўзяў; плян работы—што зрабіць, купіць і г. д. Запісы робяцца кароткія, напр.: санітарная—трэба купіць ёд, бінты, вату і г. д., гаспадарчая комісія—трэба купіць 5 талерак, паправіць услон.

Можна зрабіць розныя віды падліку: санітарнага стану дзяцей, падлік цацак, кніг, посуду і г. д.

Прыгатаваньне ўсіх гэтых рэчаў павінна рабіцца дзяцьмі пры ўдзеле кіраўніка.

Разьмеркаваньне работы можа быць, прыкладна, наступнае: старэйшыя пісьменныя дзеці павінны будуць узяць на сябе больш цяжкія заданьні—напісаць словы, сярэднія могуць выканаць менш цяжкія—вырэзваньне літараў і малюнкаў, наклейваньне.

Што датычыцца лічэньня, дык яно знойдзе сваё ажыцьцяўленьне ў наступным: лічэньне прысутных і адсутных дзяцей, лічэньне посуду пры накрываньні стала, падлік цацак, якія ёсьць на летняй пляцоўцы, вучот інвэнтару і г. д.

**Маляваньне, лепка, праца з пяском і вадою**

Маляваньне можа быць вольнае і па заданьню. Для вольнага маляваньня трэба вызначыць больш часу. Яно выяўляе, чым цікавіцца дзіця, творчасьць сфэры яго ўяўленьняў. У маляваньні, водлуг заданьняў, выяўляецца здольнасьць дзяцей да наглядаханьня, і наколькі дзіця ўспрыняла тое ці іншае заданьне і адлюстравала яго ў сваім малюнку. Кіраўнік можа высунуць наступныя тэмы для маляваньня: што бачылі на экскурсіі ці пагулянцы, аб чым гаварылася ў часе гутаркі, здарэньні, якія былі ў абкружаючым асяродзьдзі, об'екты наглядханьня і сьвяты.

Што датычыцца маляваньня кампазыцыйнага характару, дык яно палягае ў тым, што дзецям даручаецца намаляваць і ўпрыгожыць кубак, дугу, вылепіць салонку, ліхтар.

Калі дзеці ўпяршыню бачаць той ці іншы матар'ял, кіраўнік можа паказаць ім як трэба карыстацца гэтым матар'ялам. Гэта асабліва датычыцца клеевых фарбаў і рэчаў з гліны. Ня трэба рабіць сваёю рукою ніякіх паправак у дзіцячых работах. У вольных работах трэба дзіця прадаставіць самому сабе і толькі час ад часу зварочваць увагу старэйшых дзяцей на праверку лёгічных памылак, спасылаючыся на жывы прыклад.

У работах на пэўныя тэмы даваць заданьне толькі спачатку, не настойваючы на выкананьні заданьня і не зварачаючы ўвагі на тыя бакі тэмы, якія фіксаваліся іхняй увагай.

**Матар'ялам для работы на 40-50 чал. дзяцей павінна быць наступнае:**

1. Простых алоўкаў № 2—20 штук.
2. 10 пакункаў па 6 каляровых алоўкаў у кожным (жоўты, чырвоны, сіні, зялёны, фіялкавы, чорны).
3. Папяроснай ці пакавальнай паперы з разьліку 3 вялікіх аркушаў на дзіця.
4. У мясцовым коопэратыве набыць сухія каляровыя фарбы ў парашку:
   а) бялілы,
   б) крон жоўты на 400 гр.,
   в) кіноварь—чырвоны,
   г) ультрамарын—сіні,
   д) крон—зялёны,
   е) сланёвая косьць—чорная.
5. Гэтыя фарбы разьвесьці ў клеевай рэдкай вадзе. Шчацінавыя пэнзьлікі №№ 5, 6. 9—10 штук.

За адсутнасьцю пэнзьлікаў можна працаваць палачкай, абкручанай на канцы ваткаю.

6. Звычайная мясцовая гліна, колер абы які, без пяску для работы па лепцы—5 пудоў.
7. Апрача маляваньня, элемэнтамі вобразнага мастацтва зьяўляюцца заняткі з глінаю, пяском і вадою.

Заняткі з пяском трэба скарыстаць як мага шырэй. Месца для пяску трэба вызначыць такім чынам, каб часьць дню ён заставаўся ў цені і каб дастатковую колькасьць часу ён дэзынфэктаваўся на сонцы. Месца павінна быць досыць вялікім, каб на ім можна было ўтрамбаваць невялікую пляцоўку для ўтыканьня колікаў для пабудовы будынкаў і даць дзецям магчымасьць гуляць з грудай сухога і вільготната пяску. Пясок і ваду лепш выкарыстоўваць у іх натуральных умовах, на беразе ракі, альбо раўчака, калі яны недалёка, бо там дзеці змогуць больш шырока разгарнуць сваю актыўнасьць.

Матар'ял, стымулюючы дзяцей да вытворчай дзейнасьці, даецца ў наступнай паступовасьці: спачатку папера і аловак, а потым, калі дзеці больш організаваны, — гліна і фарба.

**Сьпевы на пляцоўцы**

1. У аснову музычнага выхаваньня на пляцоўцы павінны быць пакладзены сьпевы, бо гэта больш даступна дзецям і кіраўнікам-неспэцыялістым. Трэба шырока ўжываць організаваныя гульні з сьпевамі, што спрыяе разьвіцьцю ў дзяцей соцыяльных звычак, пачуцьця колектывізму, творчасьці, рытму.

2. Сьпевы і гульні павінны быць блізкія дзецям і зразумелыя па зьместу, каб усе дзеці мелі магчымасьць актыўна ў іх удзельнічаць. Сьпевы павінны адлюстроўваць зьмест жыцьця на пляцоўцы, павінны цікавіць дзяцей і мець лёгка ўспрымаемы мотыў.

3. Побач з організаванымі павінны быць і вольныя гульні і сьпевы, у часе якіх дзеці мелі-б магчымасьць выявіць сваю творчую актыўнасьць. Перад тым, як пачынаць заняткі з дзяцьмі па сьпевах і гульнях, трэба азнаёміцца з рэпэртуарам сьпеваў і гульняў саміх дзяцей і ўжо потым паступова знаёміць іх з новымі

Каб с посьпехам праводзіць заняткі з дзяцьмі, кіраўніца павінна сама добра ведаць словы і мотывы сьпеваў. Спачатку кіраўніца сьпявае сама і знаёміць дзяцей з мэлёдыяй і зьместам песьні, і потым, калі якая песьня спадабалася дзяцям, пачынаюць пець хорам. Новая песьня альбо гульня даецца дзецям толькі тады, калі старыя добра засвоены.

**Плянаваньне і падлік работы на дзіцячых пляцоўках**

Навакольнае жыцьцё так багата матар'ялам, якім жывіцца дзіця, што трэба ўстанавіць сыстэму, паступовасьць, з якой мы будзем падыходзіць да гэтага матар'ялу і адбіраць яго для дзяцей. З гэтаю метаю мы павінны плянаваць і падсумоўваць сваю работу.

Згодна асноўных прынцыпаў савецкай пэдагогікі жыцьцё і праца дзіцячых установаў павінны будавацца так, каб яны не замыкаліся ў сьценах установы, а мелі сувязь з жывою сучаснасьцю, з жыцьцём навакольнага асяродзьдзя.

Дзеці па свайму фізычнаму стану і трыманьню зьяўляюцца продуктамі навакольнага асяродзьдзя.

Асяродзьдзе, у якім яны праводзяць час па-за дзіцячай пляцоўкай, мае на іх уплыў ня меншы, чым асяродзьдзе дзіцячай установы.

Пэдагог павінен ведаць у агульных рысах як сямейнае жыцьцё дзяцей, так і раён, у якім знаходзіцца дзіцячая ўстанова, з боку прыроднага, працоўнага, соцыяльнага і бытавога.

Уяўленьне аб навакольным асяродзьдзі дае пэдагогу магчымасьць зразумець асноўныя прычыны, якія маюць уплыў на трыманьне дзяцей. Аналіз жа асяродзьдзя дзіцячых установаў дапаможа выбраць тое з наўкольнага асяродзьдзя, што можна скарыстаць для работы з дзяцьмі, дапаможа вырашыць, з якімі зьявамі трэба весьці барацьбу ў сваёй будучай рабоце, і якія задачы высоўвае перад пэдагогам асяродзьдзе.

Для правільнага азначэньня пэдагогічных задач у адносінах да дзяцей трэба прыглядзецца да таго, які іх фізычны стан здароўя, якімі задаткамі, навыкамі і орыентыроўкамія ны ўладаюць, падлічыць іх слабыя бакі.

Трэба зрабіць падлік і тых умоў, сродкаў і сіл, з якімі прыступае дзіцячая пляцоўка да работы, ці тых, якіх не хапае для будучай работы, каб потым паклапаціцца аб стварэньні гэтых умоў.

Калі пэдагог азнаёміцца з раёнам. з дзіцячым колектывам, з тым, што ёсьць на пляцоўцы, чаго не хапае, перад ім паўстануць жыцьцёва-пэдагогічныя задачы, якія можна падзяліць на наступныя катэгорыі:

а) у галіне грамадзка-пэдагогічнай работы;

б) у галіне работы з дзяцьмі;

в) у галіне палепшаньня асяродзьдзя ўстановы.

На аснове агульных мэтаў выхаваньня, вучоту асяродзьдзя ўстановы, хатняга асяродзьдзя дзіцяці, агульнага стану здароўя дзяцей і прыродных умоў,— устанаўляецца агульны рэжым дзіцячага жыцьця, напр.: заняткі і пагулянкі, адпачынак, харчаваньне, мыцьцё, сонечныя ванны і г. д.; па ўсіх гэтых разьдзелах трэба скласьці плян на тры месяцы. Рабочы плян трэба скласьці па організуючых момантах, якія трэба намеціць, выходзячы з жыцьцёва-пэдагогічных задач. Праца, якая організуе дзяцей на пэўны тэрмін часу, завецца організуючым момантам.

Кожны з гэтых момантаў павінен:

1) выходзіць з агульных мэтаў савецкай сыстэмы выхаваньня;

2) павінен мець сувязь з дзіцячымі інтэрэсамі;

3) даць магчымасьць разгарнуць усебаковую дзейнасьць саміх дзяцей;

4) зьвязаць жыцьцё дзіцячых пляцовак з навакольным працоўным і грамадзкім жыцьцём.

Працягласьць організуючага моманту не павінна быць больш 3 тыдняў.

Пры плянаваньні організуючага моманту трэба зьвярнуць увагу на зьмест работы.

Пэдагог павінен плянаваць асноўны зьмест работы з дзяцьмі да кожнага організуючага моманту. Тут павінны быць моманты працоўнага процэсу, экскурсіі, організаваныя гульні, гутаркі, апавяданьні, лепка, маляваньне.

Матар'ял трэба разьмяркоўваць у такой паступовасьці, у якой мяркуецца яго прапрацоўка.

## Організуючы момант—удзел дзяцей у організацыі дзіцячай пляцоўкі

| ЗЬМЕСТ | Матар'ял | Грамадзка-пэдагогічная работа |
|---|---|---|
| 1) Гутаркі кіраўніцы аб распарадку жыцьця і аб правілах трыманьня на пляцоўцы;<br>2) падрыхтоўка наступных плякатаў: а) мый рукі і твар з мылам, б) Ленін — прыяцель дзяцей, в) мы жывем комунай дружнай;<br>3) падрыхтоўка вешалак для ручнікоў;<br>4) зрабіць палічкі для кніжак і аптэкі;<br>5) падрыхтаваць кардонкі з іменьнямі дзяжурных;<br>6) выбраць чарговых;<br>7) пайсьці на мэдпункт за аптэчкаю;<br>8) вывучыць з дзяцьмі песьні;<br>9) прачытаць кніжку;<br>10) маляваньне і лепка. | 1. Папера, кардон, клей, нажніцы, малаток, цьвікі.<br>2. Песьня:<br>„Гэй, на працу“,<br>„Мы ўсё робім самі“. | 1. Даклад кіраўніцы на агульным бацькаўскім сходзе аб фізычным стане дзяцей.<br>2. Уцягненьне бацькоў у работу па організацыі жыцьця дзіцячай пляцоўкі (дзяжурствы матак па прыбіраньню памяшканьня і абсталяваньню пляцоўкі).<br>3. Выбары ў савет пляцоўкі. |

Падлік праведзенай работы павінен паказаць, якія дасягненьні і недахопы былі ў рабоце, якім чынам можна палепшыць пэдагогічны процэс і як правільней організаваць асяродзьдзе ў дзіцячай установе.

Кожная кіраўніца павінна запісваць усё тое, што праводзіцца ў сувязі з організуючым момантам і з жыцьцёвымі пэдагогічнымі задачамі.

## Схэма штодзённага падліку

| МЕСЯЦ, ЧЫСЛО, ДЗЕНЬ | Плян работы ў працягу дня | Праведзеныя заняткі ў іх паступовасьці | Перашкоды ў рабоце | Грамадзка-пэдагогічная работа кіраўніцы |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

# ХРОНІКА

## Вынікі агляду падрыхтоўчай работы НКА да новага навучальнага году

(*Зацьверджаны колегіяй НКА*)

1) Да 1 ліпеня разьмеркаваць скончыўшых рабфакі БССР і слухачоў курсаў па падрыхтоўцы ў ВНУ і тэхнікумы па адпаведных навучальных установах з тым, каб забясьпечыць кожную належным пролетарскім ядром. Абавязаць АІНА і загадчыкаў рабфакаў і курсаў правесьці шырокую растлумачальную работу сярод выпускнікоў аб неабходнасьці і важнасьці гэтага мерапрыемства, складўшы вакол яго грамадзкую думку.

2) Праверыць і ўлічыць падрыхтоўчыя курсы, якія організаваны на тэрыторыі БССР рознымі організацыямі, у прыватнасьці гомельскія, і дабіцца накіраваньня іх вучняў у навучальныя ўстановы БССР.

3) Паставіць пытаньне перад ЦК ЛКСМБ аб мобілізацыі да 20 ліпеня 1.500 комсамольцаў і піонэраў для пэдтэхнікумаў з ліку канчаючых 7-годкі і маючых адукацыю ў аб'ёме 7-годкі, у тым ліку 200—для яўрэйскіх і 50—для польскіх.

4) З 1 верасьня пры ўсіх ВНУ і тэхнікумах адчыніць чатырохмесячныя курсы для зімовага прыёму на базе 5-7-годкі для рабочых і дзяцей колгасьнікаў, батракоў і беднаты, а таксама коопэраваных саматужнікаў. Плян адчыненьня гэтых курсаў распрацаваць у 10-дзённы тэрмін, улічыўшы патрэбы ўстаноў нацменшасьцяй.

5) Дабіцца ад Наркампрацы:

а) забароны комплектаваньня курсаў падрыхтоўкі ў ФЗВ і прыёму на вучот біржы працы вучняў 7-годак і 9-годак;

б) вылучэньня для нав. устаноў БССР не менш 50% слухачоў існуючых курсаў падрыхтоўкі ў ФЗВ, якія навучаюцца ў лік 1000 на сродкі НКПрацы.

6) З 5 ліпеня па 5 жніўня лічыць патрэбным правесьці па БССР месячнік вярбоўкі рабочых, батракоў, колгасьнікаў, беднякоў і серадзякоў, якія маюць сярэднюю адукацыю, у навучальныя ўстановы.

7) Даручыць ВНУ тэрмінова абвясьціць конкурс на вакантныя катэдры і прыняць шэраг захадаў да атрыманьня працаўнікоў з іншых саюзных рэспублік і вылучэньня ўнутры выш. нав. установы.

8) Прасіць урадавую комісію забясьпечыць прыяжджаючых у БССР навуковых працаўнікоў кватэрамі.

9) Даручыць т. Жыгмунту і АІНА ў 10-дзённы тэрмін праверыць склад настаўнікаў 2-га концэнтру з мэтай адбору лепшых з іх для вылучэньня на працу ў тэхнікумы, паслаўшы замест іх у школы канчаючых пэдфак БДУ.

10) 3-ці курс пэдфаку выпусьціць не пазьней 1 кастрычніка, разьмеркаваўшы іх па акругах не пазьней 5 жніўня.

11) Устанавіць з 15 ліпеня дасылку ўсімі сярэднімі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі пяцідзённых тэлеграфных зводак аб ходзе комплектаваньня.

12) Катэгорычна прапанаваць АІНА неадкладна організаваць 3-месячныя курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў 1-га концэнтру.

13) Навукова-мэтод. комітэту да 20 ліпеня скончыць распрацоўку навучальных плянаў і програм і даслаць іх мясцом не пазьней 5 жніўня, а для нанова адчыняемых устаноў—да 1 верасьня.

14) БДВ і Цэнтрвыдату скончыць выданьні ўсіх падручнікаў не пазьней 1/IX, а для масавай школы—да 1-га жніўня, дзеля чаго лічыць патрэбным скарыстаць акруговыя друкарні. На бліжэйшым пасяджаньні колегіі заслухаць даклад БДВ аб ходзе работы па выданьню падручнікаў.

15) Прасіць Дзяржвыд. РСФСР забясьпечыць расійскія школы БССР патрэбным лікам падручнікаў.

16) На бліжэйшым пасяджаньні колегіі заслухаць даклад т. Чарнабродава аб забесьпячэньні ўсіх тыпаў устаноў падручнікамі як на беларускай, так і расійскай мовах.

17) Прасіць СНК абавязаць будаўнічыя організацыі скончыць пабудовы інтэрнатаў і вучэбных будынкаў не пазьней 1 верасьня, а Дзяржплян і НКГандлю—забясьпечыць іх патрэбнымі будаўнічымі матар'яламі, а таксама паскорыць вырашэньне пытаньня аб фінансаваньні будаўніцтва.

18) Прасіць СНК ускласьці на Белкоопсаюз забеспячэньне харчаваньнем студэнтаў праз коопэрацыйныя сталоўкі.

19) Да 1 ліпеня вырашыць канчаткова пытаньне аб 3-м концэнтры.

20) Даручыць Політасьвеце прыняць патрэбныя захады да хутчэйшага выданьня і популярызацыі дэкрэту аб ліквідацыі няпісьменнасьці і забесьпячэньні мерапрыемстваў у адносінах падрыхтоўкі кадраў.

21) Прыняць да ведама паведамленьне тав. Бялугі аб тым, што СНК створана ўрадавая

комісія па кантролю за выкананьнем усімі арганізацыямі і ўстановамі мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да новага навучальнага году. Прасіць урадавую комісію ў тых жа мэтах вылучыць упаўнаважаных па акругах.

22) Адказнасьць за падрыхтоўчую работу да навучальнага году ўскласьці на кожнага функцыянэра па сваёй галіне і кіраўнікоў навучальных устаноў.

23) Командыраваць працаўнікоў НКА ў акругі з 1 да 10 ліпеня для праверкі ходу падрыхтоўкі да новага навучальнага году.

24) На кожным паседжаньні колегіі заслухоўваць інформацыі аб ходзе падрыхтоўкі да новага навучальнага году па асобных галінах.

25) Адзначыць, што пасьпяховае выкананьне ўсіх гэтых мерапрыемстваў патрабуе мобілізацыі шырокае пролетарскае грамадзкасьці вакол гэтага пытаньня. Даручыць інспэктаром НКА і АІНА шырока асьвятліць ход работы ў мясцовым і цэнтральным друку і ўсю работу праводзіць у цеснай сувязі з парт. і проф. арганізацыямі.

## Палажэньне аб экстэрнаце за ВНУ

(*Зацьверджана колегіяй НКА*)

1. Экстэрнат дапускаецца толькі за ВНУ пэдагогічную, права, гаспадаркі і сельска-гаспадарчую.

**Увага.** 1. За мэдыцынскую, вэтэрынарную, ВТНУ экстэрнат не дапускаецца.

**Увага** 2. Экстэрнат, які павінен адбывацца пры ВНУ, дазваляецца ў кожным асобным выпадку НКА, па згодзе з зацікаўленымі организацыямі.

2. Дапускаюцца да экстэрнату:

а) асобы, якія маюць адукацыю і права на наступленьне ў ВНУ па социяльнаму адбору і пяцігадовы стаж практычнай работы ў савецкіх, партыйных, професійных і коопэрацыйных, гаспадарчых установах і прадпрыемствах;

б) асобы, якія выбылі з ВНУ, але выканалі ня менш 50% навучальнага пляну, калі тэрмін паміж выступленьнем з ВНУ і падачай заявы аб экстэрнаце ня больш 4 гадоў і пры ўмове экстэрнату ў тым самым ВНУ і па гэтай самай спэцыяльнасьці, па якой экстэрн вучыўся раней.

3. Дапушчэньне да экстэрнату робіцца рэктарам ВНУ, куды жадаючыя экстэрнічаць накіроўваюць заявы з далучэньнем дакумантаў, якія сьведчаць аб тым, чаго патрабуе § 2.

4. Ніякіх ільгот па вайсковай павіннасьці дапушчэньне да экстэрнатаў не дае.

5. Дапушчаныя да экстэрнату асобы ўносяць плату за экстэрнат: члены прафсаюзу, пэнсія якіх ня звыш 60 руб. у месяц, уносяць— 5 руб., ад 60 да 120—10 р., ад 120 да 180—25 р., звыш 180 руб.—50 руб.; сяляне-серадняки, падаткі якіх ад 5 да 25 руб.—10 руб., ад 25 да 75—25 руб., ад 75 руб. і звыш—50 руб., сяляне-беднякі, батракі, колгасьнікі і беспрацоўныя члены профсаюзаў ад платы зусім аслабаняюцца; саматужнікі, падатак якіх ад 5 да 25 руб.—10 руб., ад 25 да 75 руб.—25 руб., ад 75 р. і звыш—50 руб.

**Увага.** Грошы ідуць як на аплату дадатковай працы профэсараў, доцэнтаў, гэтаксама і на выдаткі, зьвязаныя з правядзеньнем практычных прац экстэрнамі.

6. Для правядзеньня экстэрнату пры ВНУ організуюцца комісіі:

а) адборачная комісія, у якую ўваходзіць прадстаўнік дэканату, ЦСПСБ і студэнцкіх організацый;

б) іспытная комісія вызначаецца дэканам.

7. Склад профэсарскай часткі іспытнай комісіі вылучаецца дэканатам і зацьвярджаецца рэктарам ВНУ.

8. Экстэрнаты працуюць два разы ў год— вясною і восеньню. Тэрмін і працяг сэсіі вызначаецца рэктарам ВНУ.

9. Іспыты адбываюцца на дысцыплінах, вызначаных, як абавязковыя, у навучальным пляне ВНУ на бягучы акадэмічны год, пры чым родныя прадметы па магчымасьці аб'ядноўваюцца ў групы.

10. Практычныя працы, прадугледжаныя навучальным плянам ВНУ, і дыплёмная праца могуць выконвацца экстэрнам у ВНУ, дзе ён экстэрнічае, а таксама ў навукова-дасьледчых інстытутах, прадпрыемствах, установах, саўгасах, колгасах і г. д.

11. Калі працы, адзначаныя ў § 10, выконваюцца па-за ВНУ, экстэрн прадстаўляе адпаведную завераную справаздачу аб гэтым, а дэкан правярае, ці адпавядае выкананая ў такім парадку праца навучальнаму пляну ВНУ.

12. Правераныя і прынятыя іспытнай комісіяй працы экстэрнаў застаюцца ў ВНУ і экстэрнам не выдаюцца.

13. Экстэрны маюць права разьмяркаваць іспыты, якія павінны здаць ня больш чым на 3 сэсіі, якія ідуць адна за другой.

14. Экстэрн, які выявіў нездавальняючыя веды па 2 іспытах, можа па асобнай у кожным выпадку пастанове іспытнай комісіі трымаць гэты іспыт у наступнай сэсіі другі раз.

15. Экстэрн, які вытрымаў іспыты, атрымоўвае аб гэтым пасьведчаньне паводле формы дыплёму ВНУ, якое падпісвае рэктар.

## Як ідзе падрыхтоўка да Ўсесаюзнай пэдагогічнай выстаўкі

Колегія НКА, заслухаўшы інформацыю па гэтым пытаньні, **пастанавіла:**

1) З боку пераважнай большасьці акруговых інспэктарыятаў народнае асьветы адсутнічала патрэбнае кіраўніцтва падрыхтоўкай да Ўсесаюзнай пэдагогічнай выстаўкі: своечасова ня дадзена неабходнага паказаньня пашыраным пэдагогічным саветам і не праведзена жывога інструктажу, як арганізаваць падрыхтоўку і зрабіць адбор экспонатаў для Ўсесаюзнай пэдагогічнай выстаўкі.

2) У некаторых акругах дырэктывы НКА аб падрыхтоўцы да Ўсесаюзнай пэдагогічнай выстаўкі ня ўсюды даведзены да школы, як гэта высьветлілася на сходах настаўнікаў г.г. Гомля і Магілева і пры абследваньні Полацкае акругі (Дрысенскі, Полацкі і Вушацкі раёны).

3) Дзякуючы гэтаму, на месцах падбору матар'ялу для выстаўкі (згодна паказаньняў НКА) не рабілася, чаму матар'ял атрыманы выпадковы, які часта, а другі раз і зусім немагчыма было прывесьці ў сыстэму.

4) Вельмі слаба прадстаўлены матар'ялы па мэтодычнай распрацоўцы комплексных тэм, па антырэлігійнаму і інтэрнацыянальнаму выхаваньню.

5) Дрэнна прадстаўлены школы г. Менску, Гомельскай і Аршанскай акруг (асабліва г. г. Гомля і Воршы).

6) Мала матар'ялу ад школ нацменшасьцяй (яўрэйскіх, польскіх і іншых); латыскія школы зусім не прадстаўлены.

7) Мала далі матар'ялу дасьледчыя і вопытна-практыкавальныя школы, якія зусім ня выявілі сваёй дасьледчай працы.

8) Прапанаваць Віцебскаму акруговаму інспэктору сопвыху зараз жа выбраць экспонаты латыскіх школ і непасрэдна накіраваць у Ленінград на выстаўку.

9) Прапанаваць Менскаму гарадзкому інспэктору нарасьветы безадкладна атрымаць экспонаты ад школ, якія адмовіліся іх даць, і не пазьней 2 ліпеня г. г. накіраваць у Ленінград на выстаўку.

10) За нядбайныя адносіны да падрыхтоўкі да ўсесаюзнай пэдагогічнай выстаўкі і збору экспонатаў абвясьціць вымову Аршанскаму акруговаму інспэктару нарасьветы **т. Розіну** і Менскаму гарадзкому інспэктору т. **Паруку**.

## Парадак пераводу студэнтаў на наступныя курсы

Колегія НКА растлумачвае, што студэнт лічыцца пераведзеным на наступны курс з пачатку навучальнага году, г. зн. 15 жніўня, калі ім зданы тэорэтычныя залікі, выканаты практычныя заняткі і вытворчая практыка ў межах навучальнага пляну за папярэдні курс.

## Аб усебеларускім політэхнічным зьезьдзе

Колегія НКА ўхваліла склікаць на 6 жніўня г.г. у Менску Ўсебеларускі політэхнічны зьезд. Абвестка дня зьезду вызначана наступная:

1. Рэконструкцыя народнай гаспадаркі і політэхнічнае выхаваньне дзяцей.
2. Шляхі і формы політэхнічнай школы.
3. Роля ФЗУ ў проблеме падрыхтоўкі кадраў.
4. Школа колгаснай моладзі ў проблеме масавых колгасных кадраў.
5. Профсаюзы і барацьба за політэхнізм у школе.
6. Ф. З. С. у соцыяльным спаборніцтве.

## Новыя пэд'інстытуты

Колегія НКА ўхваліла адчыніць у Віцебску, Гомлі і Магілеве пэд'інстытуты з наступнымі аддзяленьнямі і нормамі прыёму:

### I. ВІЦЕБСК

| | Асеньні I прыём | Зімовы II прыём |
|---|---|---|
| 1. Фізыка-тэхнічнае | 80 | 60 |
| 2. Прыродазнаўчае | 80 | 80 |
| | 160 | 140 |

### II. ГОМЕЛЬ.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Соцыяльна-гісторычнае | 60 | 60 |
| 2. Літаратурна-лінгвістычнае | 60 | 60 |
| 3. Фізыка-тэхнічнае | 60 | 60 |
| | 180 | 180 |

### III. МАГІЛЕЎ (асеньняга прыёму няма)

| | |
|---|---|
| 1. Соцыяльна-гісторычнае | 120 |
| 2. Прыродазнаўчае | 120 |

---

◆ Колегія НКА ўхваліла склікаць у верасьні месяцы нараду загадчыкаў падрыхтоўчых курсаў з наступнай абвесткай дня:

1. Актыўны мэтод выкладаньня.
2. Разгляд програм курсаў.
3. Аб прымацаваньні курсаў да ВНУ, тэхнікумаў і рабфакаў.

◆ Колегія НКА ўхваліла II концэнтры дзевяцігодак і школ II ступені рэорганізаваць у тэхнікумы і профшколы на базе сямігодкі ў адпаведнасьці з патрэбнасьцямі ў кадрах.

◆ Колегія НКА ўхваліла правесьці ў гэтым годзе справаздачную перавыбарчую кампанію культасьветных устаноў.

◆ Колегія НКА ўхваліла выдаць пасьведчаньні скончыўшым у гэтым годзе студэнтам Наргас БДУ (прамысл. аддзял.) на годнасьць экономіста-інжынэра, абавязаўшы каб студэнты здалі залікі за няпройдзеныя прадметы па навучальнаму пляну па спэцыяльных дысцыплінах.

◆ Колегія НКА даводзіць да ведама, што прыём у профшколы на базе 7-годкі праводзіцца згодна правіл, апублікаваных у даведніку; скончыўшых 4-годкі—у профшколы на базе 4-годкі прымаць бяз іспытаў.

## У ЦП саюзу працасьветы

*Аб пазыцы „Пяцігодка ў чатыры гады“.*

У дадатак да ранейшых пастаноў прэзыдыуму ЦП саюзу прапануе зьвярнуць увагу ўсіх саюзных органаў на неабходнасьць узмацненьня растлумачальнай працы аб пазыцы „Пяцігодка ў чатыры гады“. Прапанаваць усім АП, РМК МК, ГК зараз жа прыступіць, у адпаведнасьці з пастановамі Народнага комісарыяту грашовых спраў, да рэалізацыі прынятых сябрамі саюзу пастаноў аб падпісцы на новую пазыку, на чарговых паседжаньнях заслухаць справаздачы комісій садзейнічаньня пазыцы. Ва ўсёй агітацыйнай і організацыйнай працы дабіцца таго, каб не засталося ніводнага члена саюзу, які не падпісаўся-б на новую пазыку.

Улічваючы, што да моманту рэалізацыі новай пазыкі застаўся зусім малы час (першы ўзнос па колектыўнай падпісцы павінен паступіць з заробку за першую палову жніўня м-ца г/г), уся праца павінна набыць баявы тэмп. Саюзныя органы павінны організаваць усю асьветніцкую масу на гэтую працу так, каб у выніку яе меўся ня толькі 100 проц. ахоп падпіскай членаў н/саюзу, але і кожны член саюзу завербаваў некалькі падпісчыкаў на пазыку з працоўнага насельніцтва

Саюзныя органы павінны стала дапамагаць усім масам у разгортваньні соцспаборніцтва на лепшую пастаноўку па распаўсюджваньню пазыкі, высьветліць у друку лепшыя і адмоўныя прыклады працы па рэалізацыі новай пазыкі.

---

## Папраўка.

У № 5 „Комуністычнага Выхаваньня“, у артыкуле т. Савельлева, па віне корэктуры дапушчаны некаторыя памылкі.

Галоўныя з іх:

1. На ст. 70, у другім слупку, у загалоўку табліцы перастаўлены літары „А“ і „Б“.

2. На ст. 71, у левым слупку, пасьля табліцы прапушчаны, пасьля 4-га радку, цэлы радок тэксту—„а сярод гаспадарак, якія ня маюць у“. Шосты радок („сярод...“) трапіў сюды памылкова.

На ст. 69, у другім радку, ніжэй табліцы, прапушчана слова „рабочымі“ (сем'ямі).

4. На ст. 73 у 7-м радку заместа „трымаецца“ надрукавана „прымаецца“.



*Рэдактар*—Рэдколегія *Адказны рэдактар*—Л. Бэндэ